***Летась Міжнародны біяграфічны тэатр у Кембрыджы (Вялікабрытанія) назваў беларускага мастака Гаўрылу Вашчанку «Чалавекам года». Адбылося, так бы мовіць, афіцыйнае далучэнне нашага слыннага майстра да сусветнай інтэлектуальнай эліты. Фактычна ж ён належыць да яе даўно.***

***Вердыкту Міжнароднага біяграфічнага цэнтра можна верыць. Гэты, гаворачы нашай мовай, навукова-даследчы інстытут вельмі даражыць сваёй рэпутацыяй аб'ектыўнага арбітра. У сваёй дзейнасці ён вольны ад палітычнай кан'юнктуры, нацыянальных, расавых і рэлігійных прымхаў.***

# ГЕРОІ ГАЎРЫЛЫ ВАШЧАНКІ НЕ ТРАФАРЭТНЫЯ СТАТЫСТЫ ГІСТОРЫІ, А ЖЫВЫЯ ЛЮДЗІ

Прафесар Беларускай акадэміі мастацтваў Гаўрыла Харытонавіч Вашчанка — Чалавек года-1992 планеты Зямля. Гонар для творцы, прэстыж для краіны, якую ён прадстаўляе. У 1988 годзе яму споўнілася 60 гадоў, і, перайшоўшы гэтую ўзроставую мяжу, мастак нібыта перажывае другую творчую маладосць. Бывае такое ў жыцці, калі ў адной асобе, у адным сэрцы жывуць у згодзе юнацтва і сталасць, эмацыянальнае ўспрыманне свету і філасофскае яго асэнсаванне.

Шлях мастака можа быць люстэркам народнага лёсу, калі творца кіруецца ў сваёй працы сумленнем і прафесійным кодэксам гонару. Мастак не можа быць вольным ад грамадства, але гэта не значыць быць рабом кан'юнктуры. Апошнія дзесяцігоддзі і асабліва апошнія гады былі для мастакоў эпохі «сацыялістычнага рэалізму» нялёгкім часам. Змена палітычнай сітуацыі — гэта абавязкова яшчэ і перагляд усіх духоўных каштоўнасцей грамадства, змена культурніцкіх прыярытэтаў. Кепска ў такі час тым, хто, забыўшыся пра творчасць, ставіў свой талент на палітычную карту, на густ начальства ці якойсьці групоўкі.

Лягчэй вярблюду прайсці праз іголкавае вушка, чым мастаку ад «сацрэалізму» пралезці ў храм мастацтва. Сёння БССРаўскі «каланіяльны ампір» можа зацікавіць хіба што Музей камуністычнага афіцыёзу. Гаўрылу Вашчанку няма патрэбы адхрышчвацца ад сваіх «сацрэалістычных» карцін. Бо такіх карцін у яго папросту няма. Ён ствараў вобразы людзей гэтай зямлі — партызан і чырвонаармейцаў, вясковых працаўнікоў і рабочых, сваіх землякоў і блізкіх. Многае з напісанага ім па фармальных адзнаках можна аднесці да рэестра афіцыйна ўхваленых ідэалагічнай цэнзурай тэм. Ды — толькі па фармальных адзнаках, бо ягоныя героі — не трафарэтныя статысты гісторыі, а жывыя людзі. Кожны са сваім лёсам, непаўторным характарам.

Гаўрыла Вашчанка — мастак, творчасць якога я прымаю амаль цалкам. Каб ягонае імя засталося ў гісторыі беларускага, а значыць і еўрапейскага мастацтва, хапіла б двух твораў, якія ўжо сталі класікай жывапісу,— «Балада аб мужнасці» (1974) і «Матчыны крылы» (1975). Аднак творчы патэнцыял майстра і сёння далёка яшчэ не вычарпаны.

Мастак працуе... І я не здзіўлюся, калі ў гісторыі нашай культуры імя Гаўрылы Вашчанкі стане ў шэрагу Людзей стагоддзя.

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ.**
**Фота Віктара ЖЫЛІНА.**



INTERNATIONAL BIOGRAPHICAL CENTRE

Cambridge CB2 3QP England

Director General: Ernest Kay, D. Litt.

Telephone (0353) 721091

Fax (0353) 721839

Prof G K Vashchenko
Surganova St 42 Ap 38
Minsk
Rep of Belarus 220013

Ref MAN/TR

25th September 1992

Dear Prof Vashchenko

YOUR NOMINATION AS INTERNATIONAL MAN OF THE YEAR

The International Biographical Centre of Cambridge, England, is delighted to confirm your nomination as International Man of the Year for 1991/92. This prestigious award - issued by way of proclamation - will be made available to only a few illustrious individuals whose achievements and leadership stand out in the International community.

Nomination as International Man of the Year is made by the Editorial and Advisory Boards of the International Biographical Centre. Tens of thousands of biographies are reviewed each year by the Boards and from these only a handful are selected for this unique honour. Congratulations on being one of these so nominated.

The International Biographical Centre prides itself in its world renown as one of the leading biographical reference book publishers with more than 20 Who's Who titles in 132 seperate editions. Among these titles, some of which have been established for more than 50 years, are International Who's Who in Music, International Authors and Writers Who's Who, Dictionary of International Biography, Men of Achievement, The World Who's Who of Women and International Leaders in Achievement.

This new award - as International Man of the Year - is described on the accompanying application form. I am sure you will be excited to accept this honour.

Yours sincerely

ERNEST KAY
Director General

Enc

Рэйтынг-ліст «Беларусі»

*Мінулым летам наш часопіс звярнуўся да сваіх чытачоў з просьбаю падказаць рэдакцыі імёны людзей з неардынарнымі лёсамі, прапанаваць свае варыянты кандыдатаў, вартых рубрыкі «Рэйтынг-ліст «Беларусі»: незнаёмыя знаёмцы».*



Аляксей ДУДАРАЎ:

# «Ёсць моманты, калі мы толькі і можам, што выйсці на плошчу і стаць там непахісна»

Наогул жа мітынгі ды розныя іншыя збоі народу ён не любіць. Лічыць, што масавы людскі збор — гэта натоўп, які высмоктвае з асобы яе энергію. Не выключэнне — і публіка ў глядзельнай зале, сярод якое ён адчувае сябе батарэйкай для падзарадкі шматлюднае масы.

**— Нішто сабе шчырасць з вуснаў папулярнага драматурга!..**

— У тэатры мне хораша робіцца толькі тады, калі патухае святло, гасячы і свецкія размовы ў зале і фае. Люблю хвіліну, калі на сцэне ажывае дзея.

**— І ўсё ж апошні год — паўтара вас не так ужо і рэдка можна было сустрэць на плошчы ля Дома ўрада...**

— Былі моманты — путч, напрыклад, разгляд на сесіі пытання пра незалежнасць і іншыя, калі не выйсці я не мог. Бо гэта ўсё, што можа зрабіць у такой сітуацыі просты сумленны грамадзянін. І я хачу, каб мой сын ведаў, дзе ў такі час быў ягоны бацька.

**— Аляксей, ваш выхад на плошчу супаў па часе і з актыўнасцю ў пісьменніцкім асяродку. Гэта не выпадкова!**

— Што значыць актыўнасць? Проста мне абрыдла гэтае балота, у якое ператварыўся Дом літаратара. Вечары праводзяцца фармальна, чытацкія сустрэчы — па старой замшэлай схеме. Хацелася змяніць усё гэта, ажывіць, асучасніць. Але, на жаль, нічога не атрымалася. Саюз пісьменнікаў аказаўся самым кансерватыўным сярод творчых саюзаў Беларусі. Калі мы стваралі іх канфедэрацыю, пісьменнікі не далучыліся, але вынікамі намаганняў канфедэрацыі карыстаюцца. Ды не гэта важна. Галоўнае — у кіраўніцтве Саюза пісьменнікаў сядзяць людзі, якія не разумеюць, што навокал іншы час, а яны хочуць жыць па-ранейшаму як у сваім малазмененым новымі адносінамі літаратурным асяродку, так і ў зусім новым грамадскім.

**— Сённяшняе тэатральнае жыццё рэспублікі таксама праходзіць пры вашай, Аляксей, актыўнай чыннасці, вы нават узначалілі Саюз тэатральных дзеячаў...**

— Гэта нешта такое ў маім лёсе, ад чаго яшчэ два гады таму я проста жахнуўся б. Ну які з мяне чыноўнік?! Ведаеце, творчаму чалавеку ўсе гэтыя саюзы, згуртаванні не патрэбны. Але прыходзіць час і яго асобе патрэбна сацыяльная абарона. Час для многіх артыстаў нясе з гадамі вялікую чалавечую трагедыю, іх проста забываюць рэжысёры. А добрай сям'і ў творчых людзей, як правіла, таксама няма. Некаторыя немаладыя артысты сёння за мяжой усялякіх нормаў чалавечага існавання. Ім трэба дапамагаць, а для гэтага патрэбны грошы. Вось мы ў СТД і робім хоць нешта, каб абараніць нашых артыстаў і ад галечы, і ад забыцця.

Кухня гэтай недраматургічнай работы драматурга Дударава, відаць, зусім не цікавіць чытача. Ён памятае аншлагі на «Вечары», «Парозе», «Радавых»... Ён хоча ведаць, калі зноў давядзецца спытваць лішні білецік на прэм'еру па новай п'есе Аляксея Дударава. Гэтае пытанне, пэўна, усё ж не трэба было задаваць. Пачуццяў болю, ці можа нават нечага большага, Аляксей Ануфрыевіч не хаваў.

— Мне ад таго, што не пішу, горш за ўсіх. Горш за тэатры, якія чакаюць. Горш за гледачоў, якія нагадваюць. Я стаўлюся да сябе цвяроза: пісаў, быў патрэбны, цяпер мне здаецца, што не патрэбен нікому. Пра што людзі гавораць: грошы — прадукты — жыллё. Ці ў адваротным парадку, але пра тое ж самае. Хто цяпер пытаецца, што напісаў Быкаў, Барадулін, Разанаў?.. Дух заўсёды быў патрэбны малымі порцыямі. Пісаць для элітнага чытача ці гледача? Але дзе ён? Няма. З'явіцца, але не цяпер, а тады, як людзям абрыдне палітыка і пагоня за дабрабытам. І ўсё ж сённяшні дзень таксама патрэбен гісторыі. Не трэба спяшацца, Беларусь доўга чакала, і я дзякую Богу, што ў нас змены адбываюцца так спакойна. Ну няхай у нас жаданае наступіць на 50 гадоў пазней, нам жа хочацца сёння і каб усё адразу. Гісторыя справядліва ўсё расставіць па сваіх месцах, толькі не трэба яе прыспешваць. У вечнасці часу хопіць.

**Валянціна АКСАК.**
**Фота Віктара ЖЫЛІНА.**



# Тры хвіліны маўчання, або Сам-насам з Цанавай

У навушніках было ціха. Цанава мераў пакой нецярплівымі крокамі, і на гэтыя крокі болем адгукалася сэрца. Патрэбна была сувязь, тэрміновая сувязь, эфір выдаваў мёртвым. І лепшая радыстка Маргарыта Кальмаева не магла ажывіць яго, што для яе азначала ў лепшым выпадку — лагер на Калыме. Адна надзея — на цуд. Толькі цуд, насуперак усім законам фізікі, мог выратаваць яе. І выратаваў: азвалася, стала раптам чуваць марзянка партызанскага перадатчыка.

Суткі ў навушніках. Сам-насам з Цанавай, паплечнікам Берыі, начальнікам НКУС БССР. Пасля гэтага ледзь хапіла сілы, каб дабрацца да ложка. «За што такая кара?» — думала і не знаходзіла адказу. А перад вачыма зноў і зноў праплывалі эпізоды яе незвычайнага лёсу. Эвакуацыя. Абвінавачванне ў шпіянажы. Турма. Штрафны батальён. І, як ні парадаксальна,— школа радыстаў асобай мотастралковай брыгады асобага прызначэння. Яе, Маргарыту, рыхтавалі агентам у адну з краін Паўночнай Афрыкі. А давялося арганізоўваць радыёшколу наркамата ўнутраных спраў...

***Сённяшні выпуск якраз і падрыхтаваны паводле вашых прапаноў, шаноўныя чытачы. Рэдакцыя мае намер і надалей працягваць такія знаёмствы. Давайце разам шукаць і адкрываць людзей незвычайных, таленавітых, самабытных: яны жывуць побач з намі і складаюць залаты фонд нацыі.***



Мінула вайна. Маргарыта Іванаўна па праву лічылася «пагранічнікам эфіру» — трымала на сувязі ўсе разведшколы свету. Яна ведала многіх, застаючыся для іх невядомай, і марыла аб часе, калі можна будзе адкрыта назваць сябе ў эфіры. Вечарамі, пасля працы, збірала апаратуру, настройвала яе на хвалі, якія ведалі радыёаматары.

З таго часу шмат вады сплыло, больш як трыццаць гадоў мінула. Маргарыта Іванаўна, нязменны адказны сакратар Федэрацыі радыёспорту Беларусі, наладзіла 35 тысяч радыёкантактаў з 247 краінамі, была неаднаразовым прызёрам усесаюзных і міжнародных спаборніцтваў па радыёспорту. Дасягненні, якія выглядалі б вельмі ўражальна ў арсенале радыёаматара мужчыны. Для жанчыны ж яны амаль неверагодныя. Не дарэмна за мяжой існуе дыплом «За 100 радыёкантактаў з жанчынамі». Дарэчы, у беларускім радыёэфіры Маргарыта Іванаўна да апошняга часу была адзінай жанчынай.

У журнале, дзе яна адзначае свае радыёсувязі, можна сустрэць такія экзатычныя краіны, як Бахрэйн, Конга, Мазамбік, астравы Зялёнага Мыса, Фіджы, Канарскія астравы. Ёсць там і запіс аб сувязі з Антарктыдай, з экспедыцыямі краін, дзе няма сваіх радыёаматараў.

Гордасць Маргарыты Іванаўны — дыплом імя Крэнкеля. Для таго, каб атрымаць яго, трэба было звязацца з усімі месцамі на Поўначы, дзе ён працаваў...

Здавалася б, ветэран службы бяспекі, пенсія салідная, пэўныя льготы... Ды толькі, відаць, так ёй наканавана лёсам, што жыццё становіцца барацьбой. Мяркуйце самі. У ваеннай віхуры штабісты-асабісты згубілі дакументы Кальмаевай. І яе, кавалера ордэна Чырвонай Зоркі, аказваецца, нельга лічыць ветэранам Вялікай Айчыннай. Апошнія дваццаць пяць гадоў кіравала дзіцячым радыёклубам «Брыганціна», які, дарэчы, сама арганізавала,— больш як 600 хлопчыкаў і дзяўчынак прайшло праз яе рукі, а пайшла ў райсабес, каб гэты тэрмін у пенсіённы стаж залічылі, там толькі рукамі развялі...

Аднак не гэта турбуе цяпер Маргарыту Іванаўну. Галоўнае — хутчэй дасканала авалодаць англійскай моваю. На восьмым дзесятку, нарэшце, з'явілася магчымасць бавіць вольны час размовамі з калегамі — радыёаматарамі свету.

**Марат БУШЭНКА.**

**Лявон ВОЛЬСКІ:**

# Скрозь дым і агонь



*Для шаснаццацігадовых яго імя не адлучнае ад «Мроі». І гэта ўжо другое пакаленне, для якіх «Мроя» — беларускі рок-шанц.*

Дык ці можна было разлічыць папулярнасць?

Здаецца, гэта вельмі проста: прыкінь, у якім стылі граюць сённяшнія зоркі, на якія тэмы пішуць тэксты, якога іміджу прытрымліваюцца — і рабі тое ж. Не апошняе значэнне мае і мова: калі хочаш быць зоркай былога СССР, дык усе цябе зразумеюць і ўшануюць з мовай расейскай, захочаш у свет выбіцца — спявай па-ангельску, як розныя шведы, чэхі ды іншыя немцы.

Выглядае, бяспройгрышныя ўмовы. Вось толькі чаму гэткія «разлічаныя» зоркі часам згасаюць, не паспеўшы ўзысці? Яны ж амаль падобныя да сапраўдных: хіба не ўсё зрабіла менская «Квінта», каб быць падобнай на брытанскую «Квін», хіба так ужо адрозніваўся наш «Акцэнт» ад нямецкага «Акцэпта»? Але ж чаму нашых не памятае нават наша публіка, а чужыя засталіся ў душы?

Асабіста я пачаў разважаць над гэтымі пытаннямі яшчэ ў сярэдзіне 80-х, калі на пасяджэннях рок-клуба «Няміга» стаў сведкам спрэчак гітарыста рускамоўнага гурту «7 герц» Алега Піпіна і клавішніка ды вакаліста беларускамоўнай «Мроі» Лявона Вольскага.

— Да что вы, как деревня,— крычаў Піпін.— Кому нужен этот рок по-белорусски? Рок вообще должен звучать по-английски.

— А ты сам здатны зрабіць яго па-ангельску так, каб Еўропа не смяялася? — парыраваў Вольскі.— Трэба жывіцца тымі сокамі, у якіх варыцца твая душа. Інакш хто цябе зразумее ў тым, чаго ты сам не разумееш?

— Вот посмотрим, где вы будете со своей белорущиной через пяток лет. Мы будем делать рок на общепонятном русском, и нас услышат и Москва, и Киев, и Владивосток... Вы еще придёте проситься, чтобы мы вас «на хвост взяли» для гастролей.

Прайшлі тыя пяць з гакам гадоў. У жніўні мінулага на плошчы Незалежнасці адбыўся вялікі канцэрт беларускага рока з «Мрояй», «Крамай», «Уліcам», «Новым небам» ды іншымі нашымі. На сцэне пад час выступу «Мроі» побач з Лявонам Вольскім нечакана я ўбачыў Алега Піпіна. За гэты час беларускамоўную «Мрою» пачулі і Масква, і Парыж, і Варшава, і Мюнхен, а «общепонятные» «7 герц» бясследна зніклі ў прыцемках недалёкага мінулага. І менавіта Піпіну давялося рабіць тое, што ён прадракаў Вольскаму: «прасіцца на хвост» зоркі, каб застацца музыкам.

Відаць, галоўнае ў шляху да зорак — не падпарадкаваць сябе ніякім павевам, выявіць сваю існасць і застацца адзіным, непаўторным. Лявон Вольскі, як і ягоны колішні паплечнік, гітарыст Уладзя Давыдоўскі, вялі «Мрою» менавіта гэтым шляхам непаўторнасці. Яны не толькі першыя пачалі рабіць рок на беларускай мове, але і жыць пачалі з гэтай мовай, яны вымыслілі сваё, беларускае адгалінаванне рока — стод-рок, заглыбіўшыся дзеля гэтага ў паганскую даўніну нашай гісторыі. Яны засталіся прадстаўнікамі свайго народа і за мяжой, чым зацікавілі публіку яшчэ больш.

Усё гэта немагчыма разлічыць. Бо творчасць — як пажар, сярод якога, калі хочаш дыхнуць вольнага паветра, трэба спачатку кінуцца ў дым і агонь.

«Разлічаныя» зоркі не жывуць, бо задыхаюцца ад дыму, не праскочыўшы яго. Жывуць тыя, хто ў творчасці шукае толькі вольнае паветра і знаходзіць яго ў сваім народзе.

Такім Лявон Вольскі ёсць і ў рок-музыцы, і ў жывапісе, і ў літаратуры. Бо ён жа не толькі піша рок-тэксты, але яшчэ і цікавыя філасофска-фантастычныя апавяданні, і малюе да іх ілюстрацыі. А хто не верыць, то чытай «Крыніцу», «Бярозку», «Чырвоную змену», глядзі «Крок» ды слухай «Мрою».

**Вітаўт МАРТЫНЕНКА.**

ЦЭНТР ЕЎРОПЫ

# КАЛІ ЎСЕ РАЗАМ ЛЯЦІМ ДА ЗОР...

СЁННЯШНЯЙ ПУБЛІКАЦЫЯЙ РЭДАКЦЫЯ «БЕЛАРУСІ» РАСПАЧЫНАЕ ЦЫКЛ АРТЫКУЛАЎ, ПАДРЫХТАВАНЫХ ЦЭНТРАМ СТРАТЭГІЧНЫХ І МІЖНАРОДНЫХ ДАСЛЕДАВАННЯЎ ПРЫ БЕЛАРУСКІМ ДЗЯРЖАЎНЫМ УНІВЕРСІТЭЦЕ. НАЯЎНАСЦЬ ТАКОГА ЦЭНТРА, ЯК, ДАРЭЧЫ, І НЕКАТОРЫХ ІНШЫХ, ГАВОРЫЦЬ САМА ЗА СЯБЕ — ГЭТА ІСТОТНЫ КРОК БЕЛАРУСІ ДА ЦЫВІЛІЗАВАНАГА СВЕТУ. ПОЛЬШЧА, ГЕРМАНІЯ, РАСІЯ, ПРЫБАЛТЫКА, ЗША... ЯКОЕ МЕСЦА І ЯКАЯ РОЛЯ НАЛЕЖАЦЬ ТОЙ ЦІ ІНШАЙ КРАІНЕ ДАЛЁКАГА І БЛІЗКАГА ЗАМЕЖЖА Ў ЗНЕШНЕПАЛІТЫЧНАЙ СТРАТЭГІІ НАШАЙ ДЗЯРЖАВЫ — НА ГЭТАЕ ПЫТАННЕ ПАСПРАБУЮЦЬ АДКАЗАЦЬ АЎТАРЫ ПУБЛІКАЦЫЙ. ГЛЯНЕМ НА ГЕАГРАФІЧНУЮ КАРТУ, КРАНЁМ ЗАПЫЛЕНЫ ГЛОБУС, ЗГЛЕДЗІМ МЕСЦА Ў СІСТЭМЕ КААРДЫНАТ, ДА ЯКОГА, ПАВОДЛЕ СКАРЫНЫ, ВЯЛІКУЮ ЛАСКУ МАЕМ. «ХТО МЫ ТАКІЯ?» — СПЫТАЕМ НЕЎМІРУЧЫМІ СЛОВАМІ МАКСІМА БАГДАНОВІЧА. І ПАЧУЕМ У АДКАЗ:

«ТОЛЬКІ ПАДАРОЖНЫЯ —
СПАДАРОЖНІКІ СЯРОД НЯБЁС.
НАШТО Ж НА ЗЯМЛІ СВАРКІ
І ЗВАДКІ, БОЛЬ І ГОРЫЧ,
КАЛІ ЎСЕ РАЗАМ ЛЯЦІМ ДА ЗОР?»

ГЕАЛІРЫКА І ГЕАПАЛІТЫКА — НЕ ТАКІЯ АДРОЗНЫЯ РЭЧЫ, ЯК ТОЕ МОЖНА ЎЯВІЦЬ.

**Валерый ДРАНЧУК,**
**вядучы рубрыкі.**

***Апроч агульначалавечай, гуманнай задачы — жыць у згодзе з усімі дзяржавамі, для Беларусі разам з тым існуе і не менш пільная: стварэнне спрыяльных знешнепалітычных варункаў для росту эканамічнай і палітычнай моцы дзяржавы, прымнажэння духоўнага і культурнага патэнцыялу беларускага народа.***

**ЁСЦЬ ПРЫКАЗКА:** лепш блізкі сусед, чым далёкі родзіч. Няма сумневу ў неабходнасці і карысці ўмацавання ўсебаковых сувязяў з Германіяй, Японіяй, ЗША і г. д., аднак перадусім трэба ацаніць выгады супрацоўніцтва з суседнімі краінамі, у прыватнасці, з Рэспублікай Польшча. Калі зыходзіць з пасылкі, што Еўропа — гэта вялізны мацярык, які займае прастору з Захаду на Усход ад Атлантыкі да Урала і з Поўдня на Поўнач ад Міжземнага мора да Паўночнага Ледавітага акіяна, то няцяжка ўявіць, што Беларусь і Польшча знаходзяцца ў цэнтры Еўропы, на скрыжаванні гандлёвых шляхоў паміж чатырма бакамі свету. А калі больш дакладна, то геаметрычны цэнтр кантынента, паводле разлікаў польскага публіцыста Тадэвуша Барткоўскага, прыпадае на ваколіцы Гродна, гэта значыць, праходзіць па мяжы Беларусі і Польшчы.

Выгады цеснага супрацоўніцтва, несумненна, абумоўліваюцца ў першую чаргу інтарэсамі беларускай эканомікі. І вось чаму. Польшча адной з першых посткамуністычных краін стала на шлях развіцця рыначнай эканомікі і дасягнула ўжо бясспрэчных поспехаў. Гаграфічная блізкасць дазваляе Беларусі больш поўна рэалізаваць магчымасці супрацоўніцтва з польскімі прадпрыемствамі, стварыць, напрыклад, свабодныя эканамічныя зоны ў Гродзенскай і Брэсцкай абласцях. Польшча можа стаць сыравіннай базай для беларускай прамысловасці, пасрэднікам у гандлі з Заходняй Еўропай, марскімі варотамі Беларусі. Да гэтага варта дадаць багатыя традыцыі вядзення фермерскай гаспадаркі, дзе ёсць чаму павучыцца беларускім сялянам-уласнікам і не толькі ім.

Выгады супрацоўніцтва ў палітычнай сферы таксама дастаткова відавочныя. Дзяржавы заявілі пра сваю адданасць прынцыпам дэмакратыі, пра гатоўнасць захоўваць правілы ўзаемнасці і павагі інтарэсаў кожнага з удзельнікаў міжнароднага жыцця. Вопыт пабудовы дэмакратычнай дзяржавы ў Польшчы шмат чым карысны для Беларусі. Пад час найбольшага абвастрэння палітычнага канфлікту паміж кансерватыўнымі і дэмакратычнымі сіламі там удалося ўнікнуць грамадзянскай вайны і нацыянальнай катастрофы. І Беларусь, па шматлікіх ацэнках, уяўляе сёння своеасаблівы востраў палітычнай і сацыяльнай стабільнасці на фоне этнічных войнаў у Арменіі, Азербайджане, Абхазіі, Прыднястроўі... Нават у параўнанні з краінамі Балтыі, адносна ўпарадкаванымі ў палітычных і эканамічных справах, Беларусь і Польшча выглядаюць больш прадстаўніча.

Палітыка, як любіў казаць экс-прэзідэнт ЗША Джордж Буш,— гэта не светапогляд, палітыка — гэта тактыка. Значыць, на нашу думку, палітыка Беларусі да Польшчы павінна ўключаць у сябе мэтаскіраваны курс дзеянняў з боку ўрада альбо асоб, якія маюць адпаведныя паўнамоцтвы, а таксама няўрадавых інстытутаў. Ведамствы, якім належыць вызначаць палітычныя прыярытэты, павінны мець шырокую кліентуру ў выглядзе незалежных экспертных службаў, даследчых цэнтраў, здольных распрацоўваць альтэрнатыўныя прапановы ў сферы стратэгічных ініцыятыў. Больш канкрэтна: патрэбна навукова

ПРАГНАСТЫЧНЫ ПРАЕКТ

# БЕЛАРУСЬ




**Пад рэдакцыяй прафесара доктара філасофскіх навук Аляксандра БАЙЧОРАВА.**

абгрунтаваная мадэль развіцця падзей у Польшчы з усімі магчымымі вынікамі і прагнозам на будучыню. Толькі ў такім выпадку можна гаварыць пра тое, што Рэспубліка Беларусь мае распрацаваную канцэпцыю знешняй палітыкі ў дачыненні да Польшчы як частку агульнай канцэпцыі нацыянальнай бяспекі і стратэгічных ініцыятыў.

Аднак, ці можна лічыць намеры палітыкаў, прынамсі, без уліку таго, што адбываецца ў выніку? Урэшце, адсутнасць палітычнай праграмы — таксама палітыка, толькі з негатыўнымі вынікамі. На жаль, гэта відаць на прыкладзе Беларусі. Адсутнасць у зацікаўленых ведамстваў праграмы нацыянальнай стратэгіі адносна краіны-суседкі гаворыць пра палітыку асцярожнага, балансуючага нейтралітэту як у агульных, так і прыватных пытаннях. Курс на добрасуседства дзвюх дзяржаў, прадэманстраваны ў час летняга (1992 г.) візіту ў Польшчу Старшыні Вярхоўнага Савета Беларусі Станіслава Шушкевіча, сведчыць пакуль што пра абнадзейваючыя намеры, не больш. Бо нават не спецыялісту відаць, што, нягледзячы на прынятыя рашэнні, кардынальных зрухаў у наладжванні ўсебаковых сувязяў з Польшчай яшчэ не адбылося.

Тым часам відавочна іншае. Польшча праяўляе куды большую зацікаўленасць у пашырэнні кантактаў з нашай рэспублікай, умацоўвае свае пазіцыі на беларускім рынку, усяляк падтрымлівае польскую дыяспару ў пытаннях культуры, рэлігіі, адукацыі. Саюз палякаў Беларусі заяўляе пра сябе як сур'ёзная палітычная сіла. Беларускім жа палітыкам, у сваю чаргу, не варта забывацца на прысутнасць беларускага этнасу ў Польшчы; паводле некаторых звестак колькасць беларусаў на Беласточчыне складае каля 300 тысяч чалавек, а ва ўсёй Польшчы — каля 500 тысяч.

***Пасля распаду СССР польскае кіраўніцтва пільную ўвагу надае суседнім з Польшчай былым савецкім рэспублікам. Яна адразу прызнала незалежнасць Літвы, Украіны і Беларусі і ўстанавіла з імі дыпламатычныя адносіны, а першае беларускае пасольства адкрылася менавіта ў Варшаве. Энтузіязм, звязаны з гэтымі падзеямі, там, бадай, быў большы, чым у самой Беларусі.***

**ПОЛЬШЧА** першай у сацыялістычным лагеры прыступіла да разбурэння асноў сацыялістычнай сістэмы. Сістэма гэтая была прынесена звонку ў выніку другой сусветнай вайны і ўсталявання ў рэгіёне дамінацыі СССР. Яна аказалася чужой польскаму народу, супярэчыла яго традыцыям і ўяўленню аб перспектывах развіцця. Сваю ролю адыгралі таксама антырасійскія настроі значнай часткі палякаў. Супраціўленне панаванню царызму, а затым і камунізму ў яго савецкай версіі мела тут глыбокія гістарычныя карані. Таму не дзіўна, што пракамуністычная сістэма ў Польшчы, не паспеўшы скласціся, з 1954 года пачала разбурацца. Можна прыгадаць вострыя крызісы і канфлікты 1956, 1968, 1970, 1976 і 1980 гадоў, якія зрабілі пэўны ўплыў на ўвесь комплекс узаемаадносін Усход — Захад.

Сёння ўсходняя палітыка Польшчы накіравана на стабілізацыю грамадска-палітычнай сітуацыі ў Беларусі, далейшай су-

# ПОЛЬШЧА



## ЦЭНТР СТРАТЭГІЧНЫХ І МІЖНАРОДНЫХ ДАСЛЕДАВАННЯЎ (ЦСМД)

**Створаны ў маі 1992 года. Яго ўзначаліў доктар філасофскіх навук, прафесар, загадчык кафедры паліталогіі Белдзяржуніверсітэта Аляксандр Байчораў. Асноўная тэма даследаванняў Цэнтра — «Стратэгічныя адказы Рэспублікі Беларусь на канфлікты 90-х гадоў». У рамках гэтае тэмы ажыццяўляецца некалькі даследчыцкіх праектаў: вынікі ідэалагічна-дактрынальнага самападману для нацыянальнай стратэгіі Беларусі; канфлікты 90-х гадоў і нацыянальная бяспека РБ; стратэгічныя падыходы да нераспаўсюджання ядзернай зброі; вайсковая дактрына Беларусі; змены ва Усходняй палітыцы Захаду (Германія, ЗША і г. д.) і фарміраванне рэгіянальнай стратэгіі ў Беларусі; сітуацыйныя сцэнарыі развіцця падзей у Польшчы, Расіі, Украіне, краінах Балтыі і рэакцыя Беларусі.**

**Галоўная асаблівасць стратэгічных даследаванняў у іх практычна-прагнастычнай скіраванасці. Мэта — не проста дакладна апісаць падзеі, але прапанаваць палітыкам стратэгіі, адэкватныя развіццю гэтых падзей. Аналагічныя цэнтры даўно існуюць пры буйнейшых універсітэтах ЗША і Заходняй Еўропы. Цікавая дэталь: прафесар ЦСМД Джорджтаунскага універсітэта (г. Вашынгтон) Джын Кіркпатрык была членам кабінета прэзідэнта Рональда Рэйгана і пастаянным прадстаўніком ЗША ў ААН.**

**ЦСМД пры БДУ створаны як незалежная група экспертаў, заклапочаных развіццём канцэпцыі нацыянальнай бяспекі і выпрацоўкай рэгіянальнай стратэгіі РБ. З Цэнтрам супрацоўнічаюць пяць дактароў і восем кандыдатаў навук. Цэнтр запрашае да супрацоўніцтва вучоных Беларусі, а таксама суседніх краін, чые навуковыя інтарэсы блізкія да вышэйназваных праектаў.**

Адрас ЦСМД: 220050, Мінск, пр. Ф. Скарыны, 4. Тэлефон: 26-58-97. Факс: 26-59-40.

**КАЛІ ВЯРСТАЎСЯ НУМАР,**
у Беларускім камітэце абароны міру адбылася ўстаноўчая канферэнцыя Цэнтра стратэгічных даследаванняў (ЦСД). Яе ўдзельнікі — аўтарытэтныя вучоныя, грамадскія дзеячы, публіцысты — пад час абмену думкамі былі аднадушныя ў тым, што ЦСД з'явіцца альтэрнатывай падобным структурам і службам, якія існуюць па лініі ўрада і Вярхоўнага Савета, а мэты і вынікі даследаванняў будуць незалежныя. Каб добрыя намеры ажыццявіліся, каб «інтэлектуальны штаб» краіны дапамог нацыі быць больш цвярозай і мудрай, дальнабачнай і жыццяздольнай, трэба прыкласці шмат намаганняў, як мага хутчэй пераадолець стартавы этап, перайсці да глыбокіх экспертных распрацовак і на іх падставе фарміраваць грамадскую думку.

Сярод накірункаў Цэнтра стратэгічных даследаванняў — месца і роля Беларусі ў Еўропе і сучасным свеце, міжнародныя адносіны. Наша рубрыка вітае новае няўрадавае ўтварэнне і чакае ад экспертаў і даследчыкаў цікавых публікацый на старонках «Беларусі».

верэнізацыі краіны як дэмакратычнай дзяржавы, што адказвае жыццёвым інтарэсам палякаў. Такая палітыка прадыктаваная не толькі гістарычнымі традыцыямі (унія з Вялікім княствам Літоўскім, лучнасць лёсаў пасля падзелаў Рэчы Паспалітай), культурна-этнічнай блізкасцю, але і сучасным геапалітычным становішчам Польшчы. Новая сітуацыя склалася ў выніку аб'яднання Германіі, роспуску Арганізацыі Варшаўскага Дагавора і Савета Эканамічнай Узаемадапамогі, распаду СССР. Прэм'ер-міністр РП Ханна Сухоцка ацаніла яе як выключна спрыяльную для Польшчы. Несумненна, РП будзе імкнуцца задаволіць уласныя інтарэсы, перадусім — спрабаваць наладзіць сяброўскія, партнёрскія адносіны з усходнімі суседзямі. Скіроўваючы погляд на Захад, збліжаючыся з ім, Польшча будзе трымацца «ўсходняй сцяны» як надзейнага апірышча.

Сёння Польшча і Беларусь апынуліся паміж аб'яднанай Германіяй і Расіяй. У краін і народаў, што знаходзяцца паміж Берлінам і Масквой, ёсць падставы асцерагацца традыцыйнага расійска-германскага супрацоўніцтва за кошт абмежавання іх суверэнітэту. Кожная з гэтых краін будзе пасвойму спрабаваць процідзейнічаць экспансіі магутных суседзяў. Польшча, верагодна, пажадае каардынаваць гэта супраціўленне. З яе боку ўжо ідуць ініцыятывы накшталт стварэння ў той ці іншай форме «малога НАТО» або «малога ЕЭС» у Цэнтральнай Еўропе. Няма сумневу, што з цягам часу, па меры суверэнізацыі Беларусі і фарміравання яе незалежнага ўрада Польшча пачне рабіць спробы залучыць рэспубліку-суседку ў розныя цэнтральнаеўрапейскія арганізацыі.

Зацікаўленая ў захаванні статус-кво ў Еўропе, Польшча будзе процідзейнічаць і спробам перагляду меж, што склаліся ў выніку другой сусветнай вайны, трактуючы гэтыя спробы як правакацыю супраць міру і бяспекі. Польшча не пойдзе на выказванне тэрытарыяльных прэтэнзій да сваіх усходніх суседзяў. Адначасова яна будзе асуджаць падзел Еўропы ў адпаведнасці з дагаворам Рыбентропа-Молатава 1939 г. і Ялцінска-Патсдамскай сістэмы.

Межавы націск з боку польскага кіраўніцтва праявіцца хутчэй за ўсё ў тым, каб польска-беларуская граніца рабілася больш празрыстая. Зрухі ў гэтым кірунку абяцаюць плённае эканамічнае супрацоўніцтва, шырокі абмен культурнымі каштоўнасцямі, інфармацыяй і людзьмі. Складанасці на гранічных пераходах, якія штучна ствараюцца мафіёзнымі структурамі, будуць узмацняць нецярпенне польскіх улад, схіляючы да новых ініцыятыў па ўрэгуляванні гэтага пытання.

Найбольш істотны момант у галіне эканомікі — гатоўнасць польскага боку да ажыццяўлення шэрагу праектаў, такіх, напрыклад, як уступка Беларусі сваіх портаў на Балтыйскім узбярэжжы, будаўніцтва хуткасных чыгуначных магістраляў з еўрапейскаю каляёй і інш. Будзе ўсё больш адчувальнае ўздзеянне на беларускага партнёра, каб стварыць спрыяльны прававы клімат для эканамічнага супрацоўніцтва, асабліва там, дзе існуюць розныя бюракратычныя перашкоды. Цяперашні яго стан не адпавядае інтарэсам і патрэбам абодвух бакоў.

У сферы культуры Польшча і зараз імкнецца да пашырэння кантактаў, якія ў апошнія гады зведзены да мінімуму. Зацікаўленасць тлумачыцца не толькі блізкасцю культуры, моў, гістарычнай лучнасцю лёсаў, але і наяўнасцю польскай нацыянальнай меншасці ў Беларусі. Становішча яе не можа не турбаваць урад Польшчы, які, несумненна, будзе ўсяляк падтрымліваць імкненне беларускіх палякаў да нацыянальнага адраджэння, дамагацца задавальнення іх правоў, шырокіх сувязяў з гістарычнай радзімай.

Пытанне нацыянальных меншасцей у абедзвюх краінах (палякаў у РБ і беларусаў у РП) можа ствараць і істотныя цяжкасці на шляху ўсталявання добрасуседскіх адносін.

Не варта чакаць паслаблення пэўных супярэчнасцей у духоўнай сферы. Палеміка адносна нацыянальнага характару помнікаў культуры, якія знаходзяцца на тэрыторыі Беларусі, можа паслужыць характэрным прыкладам. Аднак Польшча будзе прыкладаць намаганні па рэстаўрацыі такіх помнікаў, а таксама па ўвекавечанні гістарычных мясцін і мясцін, звязаных з жыццём і дзейнасцю польскіх пісьменнікаў, вучоных, палітыкаў. А змест шэрагу падручнікаў прымусіць бакі пайсці нават на стварэнне камісій па ўзгадненні тэкстаў, каб пазбегнуць аднабаковага перагляду ў духу «нацыянальнага міфа».

У выпадку, калі адзначаныя супярэчнасці не ўдасца згладзіць, польска-беларускія адносіны могуць ускладніцца па міждзяржаўнай лініі і азмрочыць перспектывы ўваходжання Беларусі ў сям'ю вольных народаў аб'яднанай Еўропы.

## *Які малюнак бачым? Праблема цесных кантактаў з Польшчай знаходзіць поўнае разуменне ў беларускага народа. А што ўлады?*

**МАДЭЛЬ** палітычнага працэсу мае пяць стадый спеласці:

выспяванне палітычных прыярытэтаў;

вынясенне прыярытэтаў на парадак дня палітычнага працэсу;

фармуляванне палітычнай праблемы, якая патрабуе ўрадавых захадаў і рашэнняў;

рэалізацыя прынятых рашэнняў;

ацэнка вынікаў.

Можна канстатаваць, што на сённяшнім этапе польская праблематыка пакуль не сталася прыярытэтнаю сярод іншых стратэгічных кірункаў беларускай палітыкі і знаходзіцца на стадыі выспявання. Канешне, можна зразумець, улады занятыя не менш важнымі справамі. Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь у цэйтноце, для прыняцця жыццёва важных пытанняў не стае часу, а нярэдка і вопыту, сілы. Урад заняты распрацоўкай і рэалізацыяй праграмы выхаду эканомікі з крызісу, міністэрства замежных спраў сцвярджае пазіцыі Беларусі ў якасці паўнапраўнага суб'екта міжнародных адносін. А тым часам... Насельніцтва Беларусі — гэта не сакрэт! — праяўляе надзвычайную цікавасць да польскага рынку, у чым пераконвае няспынны паток нашых суайчыннікаў-турыстаў у заходнім напрамку. З адзінаю пакуль што мэтай — папоўніць спустошаныя кашалькі. Значыць, праблема цесных кантактаў з Польшчай адлюстроўваецца ў грамадскай і будзённай свядомасці, знаходзіць поўнае разуменне ў беларускага народа.

Справа за палітыкамі.

**Сяргей РАШЭТНІКАЎ,**
**Вячаслаў БЕНЬКОЎСКІ,**
**кандыдаты філасофскіх навук.**

## НАШ ДАЙДЖЭСТ

● ***Вельмі ж сумна, і горка, і крыўдна за сваю краіну, зламысна адарваную ад еўрапейскай цывілізацыі... Але мы існуем, са сваёй атручанай зямлёй, вадой і паветрам, з панявечанымі душамі і панурымі абліччамі. Мы — яшчэ жывыя, і яшчэ не ўмёрла наша спакутаваная надзея на загой усіх нашых ран. Ды каб канчаткова не апынуцца марным пылам пад нагамі чалавецтва, мусім прыкласці ўсе намаганні па выяўленні ў сабе здольнасцей да напружанага, упартага руху наперад.***

*Ніна МАЦЯШ,*
*паэтка, перакладчыца.*
*«Літаратура і мастацтва».*

● ***Беларусі нікуды, ні ў якую Еўропу няма патрэбы «вяртацца». Еўропа — не толькі месіянскі крытэрый ацэнкі, але і сацыякультурная РЭАЛЬНАСЦЬ... Беларусь заўсёды была, ёсць і будзе ў еўрапейскай сістэме каардынат, хоць, як заўважыў С. Шушкевіч на пасяджэнні Еўрапейскага савета, «баюся, што вы пра гэта не ведалі». Горка, канешне, ды і акалічнасці патрабуюць доказаў «добрага паходжання».***

*Ілья ЛЕВЯШ,*
*прафесар, Іерусалім.*
*«Европейское время».*

# Восем пытанняў спадару Кахане



МЭЦЦЮ КАХАНЕ ЎЗНАЧАЛЬВАЕ БЕЛАРУСКАЕ АДДЗЯЛЕННЕ АРГАНІЗАЦЫІ АБ'ЯДНАНЫХ НАЦЫЙ З ПАЧАТКУ ЯГО ЎТВАРЭННЯ (ВЕРАСЕНЬ, 1992). ДА ПЕРАЕЗДУ Ў МІНСК ПРАЦАВАЎ ПРАДСТАЎНІКОМ ПРАГРАМЫ РАЗВІЦЦЯ ААН (ПРААН) У САМОА. КАЛІ ДАВАЎ ЗГОДУ НА СУСТРЭЧУ З ВАШЫМ КАРЭСПАНДЭНТАМ, ЗАЗНАЧЫЎ, ШТО ГЭТА БУДЗЕ ПЕРШАЕ ІНТЭРВ'Ю ДЛЯ БЕЛАРУСКАЕ ПРЭСЫ.

## 1

**— Спадар Кахане, рашэнне аб наданні Беларусі статуса краіны, якой будзе аказана тэхнічная дапамога па лініі ПРААН, з удзячнасцю прынята беларускай грамадою. Спадзяюся, вы не будзеце пераацэньваць здароўе нашай адроджанай дзяржавы, якая дагэтуль з'яўлялася чыстым донарам у ААН, і добра разумееце, наколькі дарэчы будзе гэтая дапамога ёй самой менавіта цяпер. Таму дазвольце спытаць вас аб рэальнасці праграм, якія зараз складаеце, і, калі можна, якія з іх вы маглі б вылучыць як першачарговыя!**



— Перадусім хачу выказаць вялікае асабістае задавальненне тым, што Беларусь сапраўды стала адной з амаль 160 краін, якая будзе атрымліваць тэхнічную дапамогу па лініі ПРААН. Расцэньваю гэта як праяўленне справядлівасці і даверу ў адносінах да вашай краіны і спадзяюся на карыснасць задуманых праектаў. Было вырашана, што такая дапамога з боку міжнароднага супольніцтва можа быць аказана эканоміцы Рэспублікі на пераходным этапе з мэтаю яе найхутчэйшага інтэгравання ў сусветны рынак.

Першачарговымі задачамі ў гэтым напрамку пад час пераходу да рынку павінны стаць развіццё чалавечых рэсурсаў — навучанне і падрыхтоўка неабходных спецыялістаў, стварэнне адпаведнай інфраструктуры і заканадаўства. Асаблівую ўвагу мяркуецца надаць працэсам прыватызацыі ў сельскай гаспадарцы, прамысловасці і сферы абслугоўвання, а таксама дэманапалізацыі ў сектарах эканомікі, канверсіі ў ваеннай прамысловасці. Гэта яшчэ і паглыбленне працэсу міжнародных і эканамічных сувязяў, прыцягненне замежных інвестыцый. Зразумела, не могуць застацца без увагі пытанні сацыяльных перамен і паляпшэння навакольнага асяроддзя ў сувязі з перадоленнем наступстваў чарнобыльскай аварыі. З боку беларускага ўрада было яшчэ выказана пажаданне атрымаць дапамогу ў галінах, якія ўяўляюць агульны інтарэс для краін рэгіёна,— гандаль, транспарт, сувязь, навакольнае асяроддзе, энергетыка, сацыяльныя пытанні.

Безумоўна, усё гэта — пытанні шырокай перспектывы. Што датычыць бліжэйшых задач, то на першае месца я вылучыў бы медыцынскія аспекты чарнобыльскай трагедыі, ахову навакольнага асяроддзя, навучанне і падрыхтоўку спецыялістаў для кіравання эканомікай у пераходны перыяд.

Наконт рэальнасці нашых праграм. Найперш яна залежыць ад падтрымкі, разумення і актыўнасці самога беларускага боку і ўсіх зацікаўленых дзяржаўных інстытутаў, у немалой ступені — ад эфектыўнасці выкарыстання сродкаў, што ёсць у нашым распараджэнні. Гэтыя сродкі невялікія, і іх, у сваю чаргу, трэба выкарыстаць для залучэння новых інвестыцый з розных крыніц.

Поспех нашай дзейнасці будзе непасрэдна звязаны і з тым, наколькі ўдала здолеем каардынаваць праграмы спецыялізаваных устаноў сістэмы ААН.

Разам з тым несправядліва не бачыць, што за мінулыя шэсць гадоў міжнароднай супольнасцю ўсё ж такі зроблена нямала для агульнага ўсведамлення чарнобыльскай бяды як пагрозы планетарнай. Наша Прадстаўніцтва мае цвёрды намер уключыцца ў праграму — яшчэ раз вывучыць патрэбы, правільна вызначыць мэты і рэальна ацаніць магчымасці. Мы разумеем, патрэбна менш дэкларацый, а больш канкрэтнай, адчувальнай дапамогі.

## 2

**— На 47-й сесіі Генеральнай Асамблеі ААН у верасні мінулага года спадар Пётр Краўчанка выказаў занепакоенасць з-за недастатковай эфектыўнасці Арганізацыі на прыкладзе адносін да праблемы чарнобыльскіх наступстваў у Беларусі. Дазвольце спытацца — у тым разе, калі вы падзяляеце крытыку,— што здольная ўнесці яна ў планы вашага высокага каардынуючага органа.**



— Мы разумеем трывогу і заклапочанасць, выказаныя міністрам замежных спраў Беларусі з трыбуны Генеральнай Асамблеі ААН. Можна пагадзіцца і з тым, што памеры дапамогі сапраўды не адэкватныя праблемам і патрэбам Беларусі як найбольш пацярпелай ад аварыі на ЧАЭС. Таму я не выпадкова падкрэсліваў вышэй і гатоў паўтарыцца зноў, што «чарнобыльскі аспект» будзе адным з прыярытэтных напрамкаў нашай дзейнасці. Гэты аспект, дарэчы, актыўна абмяркоўваўся і пад час стварэння нашага Прадстаўніцтва на зямлі Беларусі.

Што датычыць крытыкі Арганізацыі, то не варта забываць, што апошнім часам варункі ў свеце надзвычай ускладніліся і абвастрыліся. Свет напоўнены рэгіянальнымі канфліктамі, існуе праблема Камбоджы і Анголы, Эфіопіі і Самалі, Афганістана і Югаславіі... Вы ведаеце, якія працэсы адбываюцца на тэрыторыі былога Савецкага Саюза. І па ўсіх гарачых кропках, названых і неназваных, ААН спрабуе займаць і займае актыўную міратворчую пазіцыю, вядома ж, наколькі хапае на гэта сілы і магчымасцей.

У такіх варунках чарнобыльская трагедыя, калі можна так сказаць, рэальна не адчуваецца, адышла як бы на другі план. Гэта не значыць, што ўплыў яе наступстваў зменшыўся і сама праблема знікла. Не — нават наадварот. Проста мы павінны ўлічваць і псіхалагічны аспект праблемы.

## 3

**— Час ад часу ў журналісцкіх колах дыскуціруецца пытанне, ці не зашкодзіць знешняй палітыцы Беларусі імідж «найбольш пацярпелай» ад Чарнобыля... Інакш кажучы, ці не створыць «чарнобыльская дамінанта» своеасаблівы комплекс непаўнавартасці краіны. Як бы вы, спадар Кахане, расцанілі гэты погляд?**



— Мне цяжка вось так адразу быць заступнікам і суддзёю, аднак ёсць жаданне і падставы аспрэчыць такую пасылку. Ваша дзяржава, народ Беларусі сапраўды цяжка пацярпелі і працягваюць цярпець ад наступстваў чарнобыльскай катастрофы. Доўг усіх народаў былых саюзных рэспублік, як і міжнароднай супольнасці,— дапамагчы пераадолець бяду, мінімізаваць яе вынікі.

Што да «комплексу непаўнавартасці» Рэспублікі на міжнароднай арэне, то мяркуйце самі. Сёння Беларусь займае адно з вядучых месц і сярод краін СНД, і сярод краін свету. Пра гэта яскрава сведчыць павышаная ўвага да Рэспублікі з боку міжнародных структур і арганізацый, у тым ліку візіты палітычных і дзяржаўных дзеячаў, адзін з якіх — Генеральны Сакратар НАТО Вернер — наведаў Мінск у лістападзе мінулага года.

Беларусь з'яўляецца паўнапраўным супольнікам міжнародных арганізацый, яна краіна-заснавальніца самай вялікай з іх — Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, актыўны ўдзельнік практычна ўсіх яе органаў. Рэспубліка стала сябрам Міжнароднага валютнага фонду, яе знешнепалітычныя і знешнеэканамічныя кантакты і сувязі маюць пастаянную тэндэнцыю да развіцця і актывізацыі. Нарэшце, не варта забываць, што сёння Мінск — гэта горад-каардынатар дзейнасці Савета кіраўнікоў дзяржаў і Савета кіраўнікоў урадаў Садружнасці Незалежных Дзяржаў. Гэта вельмі важная, вялікая і перспектыўная работа, у якой Беларусі належыць вядучая роля.

Безумоўна, я сказаў далёка не ўсё, каб развязчаць думку пра «комплекс непаўнавартасці», аднак і гэтыя аргументы, лічу, надзвычай істотныя і вагомыя.

## 4

**— Пра Беларусь, на жаль, мала ведаюць за рубяжом. Таму Чарнобыль і стаў ледзь не візітнай карткай нашай краіны. Што асабіста вам даводзілася чытаць або чуць пра наш край да таго, як вы пачалі пакаваць чамаданы!**



— Што датычыць вашай дзяржавы і яе гісторыі, то з імі мне давялося пазнаёміцца значна раней, чым я патрапіў у Беларусь.

Пад час вучобы ва універсітэце ў Кембрыджы я займаўся славянскімі мовамі і гісторыяй славянскіх народаў. Сфера маіх інтарэсаў сягала на перыяд сярэднявечча, а гэта, як вы памятаеце, час, калі гаворка ішла пра рэгіянальныя крыніцы славян на Палессі і ў прыпяцкіх балотах, гэта значыць, у раёне сучаснай Беларусі. З таго часу ваш край займае цэнтральнае месца ў гісторыі славянскіх народаў.

У гады вучобы я атрымаў уяўленне і пра падзеі, што адбываліся на тэрыторыі вашай дзяржавы пад час напалеонаўскіх войнаў, а таксама больш позняга перыяду, я маю на ўвазе першую сусветную вайну, а таксама Вялікую Айчынную, што прынесла беларускаму народу незлічоныя ахвяры і спусташэнні.

Цяпер я, здаецца, валодаю выключнай магчымасцю дапоўніць уяўленні пра гісторыю вашай Рэспублікі і, безумоўна, паглыбіць іх.

## 5

**— Як вы сказалі, спадар Кахане, адной з мэт Аддзялення будзе падтрымка і ўмацаванне нацыянальных памкненняў Беларусі. На які палітычны патэнцыял нашай краіны вы збіраецеся абапірацца, знаходзячыся тут! У рэчышча якіх грамадскіх рухаў гатовы інтэграваць свае намаганні для паспяховага ажыццяўлення пастаўленай мэты!**



— Перадусім будзем арыентавацца на супрацоўніцтва, дапамогу і падтрымку ўрада Рэспублікі Беларусь. У гэтым супрацоўніцтве, як я ўжо адзначаў, трэба асабліва ўважыць тую каардынацыйную ролю, якую Беларусь адыгрывае ў Садружнасці Незалежных Дзяржаў.

З другога боку, у сваёй рабоце мяркуем абапірацца на супрацоўніцтва з грамадскімі (або няўрадавымі) арганізацыямі самага рознага кірунку: навукова-тэхнічнымі, гуманітарнымі, праваабарончымі і іншымі. Мы зацікаўлены ў наладжванні з імі добрых дзелавых і творчых кантактаў, паколькі ва ўсім свеце грамадскія рухі іграюць актыўную ролю ва ўмацаванні і развіцці дэмакратычных інстытутаў сваіх краін.

## 6

**— Якімі функцыямі, паўнамоцтвамі надзелены вы, паважаны спадар Кахане, як рэзідэнт-каардынатар! Напрыклад, да вас сюды, на шосты паверх гэтага будынка, упрыгожанага блакітнай эмблемай ААН, будуць прыходзіць людзі, прасіць, скардзіцца, шукаць праўду і справядлівасць...**



— Прадстаўніцтва ААН у Беларусі, якое я ўзначальваю, з'яўляецца практычна першым такога кшталту інстытутам ААН. Ен быў створаны па ініцыятыве Генеральнага Сакратара ААН з мэтай аб'яднаць намаганні міжнародных арганізацый сістэмы ААН для аказання тэхнічнай дапамогі і садзейнічання, а таксама інфармацыйнага забяспячэння мэт і задач гэтай універсальнай міжнароднай арганізацыі.

Уся наша дзейнасць, у рэшце рэшт, павінна спрыяць далейшаму развіццю ўзаемасупрацоўніцтва, узаемадзеяння і ўзаемаразумення паміж арганізацыямі сістэмы ААН, з аднаго боку, і дзяржаўнымі і грамадскімі інстытутамі Беларусі, з другога. Варта ўважаць той момант, што за час свайго існавання ААН назапасіла вельмі значны міжнародны вопыт рашэння цэлага рада эканамічных пытанняў, выпрацавала з гэтай мэтай неабходны юрыдычны і даведачны інструментарый. Адна з нашых задач — укараніць набыты вопыт у дзейнасць дзяржаўных і грамадскіх структур, прымусіць яго працаваць.

Дзверы нашага Прадстаўніцтва адчынены практычна для кожнага наведвальніка, каго б ён ні прадстаўляў. Мы будзем заўсёды рады дапамагчы яму у тых пытаннях, якімі ўпаўнаважаны займацца.

Аднак я хачу падкрэсліць з усёй адказнасцю, што мы тут не дзеля таго, каб умешвацца ва ўнутраныя справы краіны — сябра ААН. Пытанні разбору прыватных просьбаў і скаргаў — гэта не кампетэнцыя нашага Прадстаўніцтва, а найперш вышэйшых і выканаўчых інстытутаў. Што да пытання правоў чалавека, то ў любога грамадзяніна ёсць права звярнуцца напрамую ў Камісію па правах чалавека, якая дзейнічае ў Жэневе.

## 7

**— Беларускі корань вашага прозвішча, як стала вядома, не простае супадзенне — ён паказвае на адно з адгалінаванняў вашага радаводу. Чытачам часопіса, думаю, будзе надзвычай цікава пачуць што-небудзь пра вашых родных — выхадцаў з Беларусі.**



— Вы маеце рацыю, беларускі корань майго прозвішча сапраўды звязаны з радаводам па бацькаўскай лініі. Мая бабуля Вікторыя Крымант нарадзілася ў 1882 годзе ў Адэсе, а яе родныя пайшлі з-пад Наваградка. Відаць, такім чынам і з'явіўся беларускі корань у прозвішчы. Я хацеў бы спадзявацца, што ён дапаможа маёй працы на беларускай зямлі.

## 8

**— Я чуў, спадар Кахане, што вы адданы філатэліст. Цікава даведацца, які матыў вашай калекцыі, ці ёсць у ім упамінанне пра Беларусь і... ці не згадзіліся б вы парадаваць мінскіх збіральнікаў выставай уласнага збору!**



— Калекцыяніраванне марак — адно з маіх самых вялікіх захапленняў і ўцех. У мяне досыць вялікая і разнастайная калекцыя, галоўная тэма — В'етнам, асабліва перыяд, звязаны з яго барацьбой супраць Францыі, гэта значыць, 1945—1960 гады, а таксама іншыя аспекты адлюстравання гэтага часу. Як вы ўжо, мабыць, здагадаліся, пачатак збору быў пакладзены пад час маёй працы ў гэтай краіне. Збор дастаткова аб'ёмны — 5—6 альбомаў. З ім, на жаль, цяжка падарожнічаць, калекцыю давялося пакінуць у мяне на радзіме ў Шатландыі. Дарэчы, мяне займае таксама пытанне функцыяніравання паштовых службаў у розных краінах, таму неабыякавы і да канвертаў, іншых паштовых адпраўленняў.

З'яўляюся сябрам філатэлістычных таварыстваў Кітая і В'етнама. Хачу спадзявацца, што мне ўдасца наладзіць добрыя адносіны і з беларускімі філатэлістамі. Вядома, буду рады наведаць выставы марак, арганізаваныя ў Мінску і, магчыма, у адной з іх вазьму ўдзел.

**— Дзякую за сустрэчу, спадар Кахане, і жадаю поспехаў у вашай працы на карысць Беларусі, усіх краін свету.**

Валерый ДРАНЧУК.

# Хроніка прадстаўніцтва

ПЕРАМОВЫ, СУСТРЭЧЫ, ІМПРЭЗЫ



**(кастрычнік, 1992— студзень, 1993)**

**24 кастрычніка — Дзень Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, 47-я гадавіна супольніцтва. У Доме дружбы, што на вуліцы Захарава, 28, у Мінску, было наладжана святкаванне. У імпрэзе, густоўна агучанай беларускімі народнымі інструментамі, бралі ўдзел міністр замежных спраў П. Краўчанка, старшыня беларускай Асацыяцыі садзейнічання ААН У. Лабуноў, кіраўнік Прадстаўніцтва М. Кахане, прадстаўнікі беларускай грамадскасці. Было перададзена пасланне Генеральнага сакратара ААН Бутраса Бутраса-Галі.**

**Праведзены шэраг перамоў і рабочых сустрэч з кіраўніцтвам Рэспублікі ў Савеце Міністраў, Дзяржэканомплане, Міністэрствах замежных спраў і народнай адукацыі.**

**Пад час сустрэчы з каардынатарам СНД І. Каратчэнем абмеркаваны пытанні магчымага супрацоўніцтва і абмену інфармацыяй паміж ААН і штаб-кватэрай Садружнасці.**

**Наладжваюцца кантакты з прадстаўнікамі сродкаў масавай інфармацыі РБ. Пра магчымасці далейшага супрацоўніцтва ішла гаворка пад час сустрэч у Тэлерадыёкампаніі, радыёкамітэце, Белінфарме.**

**Працягвалася знаёмства з грамадскімі арганізацыямі Беларусі.**

**Рэспубліку наведаў з візітам намеснік каардынатара Праграмы добраахвотнікаў ААН спадар Хасегава. Наладжаны сустрэчы ў Дзяржэканомплане і МЗС Беларусі. Абмеркаваны магчымыя формы супрацоўніцтва.**

**1 снежня — міжнародны дзень барацьбы са СНІДам. У тэатры оперы і балета ў Мінску адбылося адкрыццё акцыі «Майстры культуры ў барацьбе супраць СНІДу» з удзелам Прадстаўніцтва.**

**Пытанням псіхалагічнай рэабілітацыі ахвяр Чарнобыля была прысвечана паездка прадстаўнікоў ААН і ЮНЕСКА (спадарыня Л. Гарых) у Аксакаўшчыну, дзе размешчаны Цэнтр радыяцыйнай медыцыны. Абмеркаваны план разгортвання спецыяльных праграм ЮНЕСКА ў Расіі, Беларусі і на Украіне.**

**Знаёмства з жыццём і дзейнасцю рэгіёнаў Рэспублікі распачата паездкай у Брэсцкую вобласць, пад час якой М. Кахане наведаў калгас «Савецкая Беларусь».**

*Пададзеная хроніка Прадстаўніцтва ахоплівае арганізацыйны перыяд, які завяршаецца, і Аддзяленне ААН мае спадзеў, што праца па вызначэнні і рэалізацыі праектаў будзе пераведзена ў практычную плоскасць.*

**Гэты групавы здымак, на якім у групе выкладчыкаў і навучэнцаў Беларускіх настаўніцкіх курсаў у г. Дзвінску (цяпер г. Даўгаўпілс, Латвія) сфатаграфаваны Максім Іванавіч Гарэцкі. На фрагменце здымка, зробленым з павелічэннем, партрэт М. Гарэцкага выдрукаваны асобна. Подпіс пад здымкам сведчыць аб тым, што зроблены ён 9 красавіка 1922 года. Гарэцкаму было тады трыццаць гадоў. Ён працаваў выкладчыкам настаўніцкіх курсаў і жыў у Дзвінску з лютага па чэрвень 1922 года. Здымак захоўваўся ў выпускніка курсаў (на фота ён пяты справа ў верхнім радзе, у шапцы, прыхіліўся да слупа) Мікалая Нікандравіча Талеркі, які настаўнічаў на Дзвіншчыне, пісаў вершы на беларускай мове. Разам з іншымі матэрыяламі з хатняга архіва здымак быў перададзены мне роднымі Мікалая Нікандравіча. Надрукаваць яго не ўдавалася, бо цэнзура баялася, што на ім могуць быць асобы, упамінаць пра якіх у недалёкія часы забаранялася. Можа быць, хто-небудзь з тых, хто сфатаграфаваны, ёсць на гэтым свеце, адгукнецца і апавядзе пра тыя часы. Здымак друкуецца ўпершыню.**

**Міхась КЕНЬКА.**







# ПРЫСЯГА

*У вайскоўцаў — урачысты дзень. Дзень прыняцця прысягі. Ваенны аркестр, кветкі, сардэчныя віншаванні — усё для іх, будучых салдат, афіцэраў і генералаў, апоры і надзеі Бацькаўшчыны.*

*У войску — новае папаўненне: сыны і ўнукі прысягаюць на вернасць беларускаму народу і Бацькаўшчыне. Мы спадзяёмся на вас, салдаты!*

# РАКЕТНЫ ПОЛК РАСІІ ПАКІДАЎ БЕЛАРУСЬ БЕЗ БОЮ,

## АЛЕ Ў АПОШНІ ЧАС ПРАГУЧАЎ «РАЗВІТАЛЬНЫ ЗАЛП»






За Смаргонню машына нечакана збочыла ў лес — і праз некалькі хвілін мы аказаліся на тэрыторыі ваеннага гарадка. Падумалася: пашанцавала пагранічнікам, у сапраўдным парку размясціліся. Аднак хутка захапленне прайшло, бо што ні крок, то — сляды разбурэння. Быццам тут нядаўна прайшоўся ўраган: вывернутыя бардзюры, абадраныя стэнды, вокны без рам і шкла... Мяне, былога вайскоўца, гэта так здзівіла, што я не стрымаўся і спыніў першага сустрэчнага афіцэра.

— Гэту спадчыну нам пакінулі ракетчыкі. Абрабавалі, можна сказаць, да ніткі. Што не змаглі вывезці ў Расію — спляжылі, здраталі,— з жалем у голасе патлумачыў ён.— Мабыць, гэта быў іх «развітальны залп»?

Жаданне напісаць узнёсла-бадзёры рэпартаж пра службу на беларуска-літоўскай граніцы як рукой зняло. Чым больш я гутарыў з афіцэрамі пагранатрада, тым выразней уяўляў карціну пагрому, рабавання нашай рэспублікі вайскоўцамі... Камандзір ракетнага палка Фамічоў аддаў загад браць усё, што можна. Былі выведзены са строю кацельня, рэзервная электрастанцыя, энергетычныя камунікацыі. У будынку штаба і казармах зняты плафоны, лямпачкі, электраправодка. З тэхнічных сродкаў выкручаны ўсе каштоўныя дэталі і вузлы, якія, па словах відавочцаў, тут жа прадаваліся літоўцам. Нават дарогу разабралі, выдзіраючы на продаж бетонныя пліты.

Непапраўная шкода нанесена лесу: ім таксама гандлявалі направа і налева.

Спытаеце, а куды глядзелі ўлады? Мабыць, туды, куды хацелася. Праўда, смаргонская пракуратура ўзбудзіла крымінальную справу ў адносінах да камандзіра палка Фамічова, але той своечасова збег у Новасібірск. Дарэчы, ён не паспеў прадаць толькі сваю шыкоўную дачу — хтосьці спаліў яе.

Вось з такім чалавекам і падначаленымі, вартымі яго, апынуўся сам-насам Васіль Маркоўкін — камандзір пагранічнага атрада, які прыбыў сюды для аховы беларускай мяжы: удалося спыніць толькі нямногія калоны аўтамашын з нарабаваным дабром, што па праву належала Беларусі. Астатнія ж...

Здзіўляюць нерашучасць і раўнадушша нашага ўрада: як жа так? Разрабоўваецца ваенная маёмасць, дык што? Будзем набываць новую?

Чытачу, вядома, цікава, як усё ж служыцца беларускім пагранічнікам? Скажу шчыра, я здзіўляўся іх вытрымцы, самаадданасці і працавітасці. Нягледзячы на шматлікія праблемы — матэрыяльныя, сацыяльныя, жыллёвыя.

— Мы гатовы выканаць любы загад урада Беларусі,— запэўніў выконваючы абавязкі начальніка штаба пагранатрада падпалкоўнік А. Караленка.

Прыкладна такія ж словы прагучалі з вуснаў намесніка камандуючага пагранічнымі войскамі рэспублікі генерал-маёра А. Папова. Аляксандр Паўлавіч у той дзень якраз прыбыў у Смаргонь з прадстаўнічай групай афіцэраў-пагранічнікаў, каб аказаць дапамогу ў арганізацыі граніцы, у матэрыяльна-тэхнічным і метадычным забеспячэнні атрада. Прыемна было назіраць за дакладнымі дзеяннямі старшага афіцэра Упраўлення пагранвойск Віктара Яфіменкі і многіх іншых вартавых граніцы, з якімі давялося пазнаёміцца.

Пагранічнікі ў Смаргоні прыступаюць да выканання сваіх абавязкаў па абароне эканамічных інтарэсаў Рэспублікі Беларусь на граніцы з Літвою. І верыцца, што яны нас не падвядуць — хлопцы сюды падбіраюцца надзейныя. Думаю, што і ўраду не варта эканоміць на граніцы. Каб пераканацца ў гэтым, дастаткова зазірнуць у аператыўныя зводкі КДБ і МУС. Грошай, якія штодзённа страчвае рэспубліка праз «дзіркі ў сваім плоце», хапіла б на стварэнне прыстойных умоў не аднаму пагранатраду!

**Марат БУШЭНКА.**
**Здымкі Віктара ЖЫЛІНА.**

# ЯК ТАБЕ СЛУЖЫЦЦА, НАШЧАДАК СУВОРАВА?

РОЗДУМ
ЛЯ ПАРАДНАГА
ПАД'ЕЗДА

Магчыма, пройдзе час, і я прывыкну спакойна хадзіць уздоўж шэрай бетоннай агароджы па вуліцы Багдановіча, як гэта робяць звычайныя мінчукі. Магчыма, праз гады я стану сівым і сентыментальным і буду падоўгу затрымлівацца тут, апанаваны ўспамінамі пра сваё далёкае і ад таго ўжо шчаслівае юнацтва.

Сёння ж, куды б ні спяшаўся, я мімволі запавольваю крок каля знаёмых шэрых сцен. І абавязкова кідаю позірк на франтон манументальнай будыніны «Минское суворовское военное училище». Ах, які гэта быў час! Мы прывыкалі, што пра нас, сувораўцаў, гаварылі з найгранай спагадай: «Ну-ну, цяжкае дзяцінства, жалезныя цацкі». І праз дружалюбны ўвогуле пасаж чыталася часам зусім не жартаўлівае «Ну, што возьмеш з чалавека, якога з маленства скалечыла армія!». Дарэчы, і цяпер не, не ды і пачую ад добразычліўцаў-таварышаў, згледзеўшых «краба» (значок аб заканчэнні СВВ) на маім афіцэрскім кіцелі, няўцямнае: «Дзівак-чалавек, і навошта табе спатрэбілася марнаваць лепшыя гады юнацтва?»

Карацей, адны бачаць светлае, другія — змрочнае. Таму давайце разам са мною зазірнём у будынак-манумент па вуліцы Багдановіча — падымемся на прыступкі паміж двух макетаў старадаўніх гармат і адчынім дзверы з грозным папярэджаннем «контрольно-пропускной пункт». Праваруч яшчэ адны дзверы — пакой для наведвальнікаў...

## СПРОБА ЗАЙСЦІ З ПАРАДНАГА ПАД'ЕЗДА...

У куце прымасціўся хлопчык, пастрыжаны «пад Катоўскага», у новай, незвычайнай для яго суворaўскай форме, растапыранай ва ўсе бакі. Побач — мамуля, якая настойліва спрабуе ўсунуць яму ладны скрыль пунсовага, як пагоны, кавуна. Час ад часу ў вачах хлапчука бліскаюць слязінкі, якія ён непрыкметна змахвае рукавом кіцеля.

Хачу папярэдзіць: нічога незвычайнага з першакурснікам не здарылася: проста прыехала мама, і яму захацелася дадому. А бываюць, дарэчы, выпадкі больш «значныя». Паслухаем аднаго з афіцэраў Мінскага СВВ.

— Пад час уступных экзаменаў прыходзіць да мяне ў кабінет маладая жанчына, уся ў слязах. Аказваецца, яе сын атрымаў «двойку». Значыць, павінен забіраць дакументы... Што рабіць? Пагутарыў з «пакрыўджаным» і зразумеў, што асаблівага жадання стаць суворaўцам у яго і не было. Сітуацыя даволі звычайная. Таму са звыклай далікатнасцю пачаў супакойваць жанчыну, пераконваць яе ў надуманасці «трагедыі», бессэнсоўнасці насілля над воляй сына. І тут яна не вытрымала: «Паглядзіце на мяне! Мне толькі трыццаць тры! Павінна ж я калі-небудзь уладкаваць сваё асабістае жыццё... Бацьку свайго сын ніколі не бачыў, а айчыма не хацеў. Што ж мне цяпер — паміраць удавой загадаеце?»

З году ў год падобных выпадкаў становіцца ўсё больш. І калі раней начальства імкнулася не заўважаць іх, то цяпер сітуацыя змянілася. Летась, напрыклад, начальнік вучылішча сваім загадам пашырыў ільготы абітурыентам. Сярод ільготнікаў апынуліся дзеці з мнагадзетных сямей, а таксама з тых, якія не маюць кармільца...

Па-мойму, варта вітаць гуманнае пачынанне камандавання. Але ж... Міністэрства абароны — не дабрачынная арганізацыя. Гэта 50 гадоў назад суворaўскія вучылішчы давалі прытулак дзецям, бацькі якіх загінулі на Вялікай Айчыннай. Цяпер жа маладое беларускае войска наўрад ці зможа раскашэліцца на школу-інтэрнат для дзяцей, абяздоленых... перабудовай. Зрэшты, магчыма я не маю рацыі. Тады давайце разам пагартаем гісторыю Мінскага СВВ.

У адрозненне ад першых «франтавых», яно было створана праз дванаццаць гадоў пасля вайны і належыць, умоўна кажучы, да «другой хвалі» навучальных устаноў такога тыпу. «Першая хваля», як было адзначана вышэй, абавязана была аблашчыць сірот вайны і за сем гадоў (4—10 класы) выхаваць у іх дысцыплінаванасць, адданасць ідэалам КПСС, Савецкай улады і нянавісць да імперыялістаў. «Другая хваля» ўзнялася тады, калі якасна новай арміі спатрэбіліся адукаваныя афіцэрскія кадры. У Мінскім суворaўскім паступова сфарміраваўся адзін з лепшых педагагічных калектываў рэспублікі. Натуральна, конкурсы сюды падняліся да ўзроўню прэстыжных ВНУ. На сірот і дзетдомаўцаў зважалі значна менш увагі, хаця нейкі працэнт іх сярод навучэнцаў усё ж вытрымліваўся.

Якія веды тут набываліся? Самыя разнастайныя. Выпускнікі валодалі некалькімі замежнымі мовамі, няблага разбіраліся ў музыцы, маглі свабодна ўступіць у дыскусію з прафесіяналамі балета... Галоўнае ж, пад час вучобы з такога дасканалага «чалавечага матэрыялу», якім з'яўляюцца дзеці, ляпілі сапраўдных фанатыкаў ваеннай службы і патрыётаў Савецкай радзімы.

Выпускнікі адразу ж пераапраналіся ў курсанцкую форму і станавіліся другакурснікамі вышэйшых ваенных вучылішчаў. Звальненняў на «гражданку» амаль не было, і гэта зразумела — запраграмiраваныя ахвяраваць сваё жыццё роднай арміі, яны ўжо не маглі існаваць без яе...

Што далей? Суворaўскія вучылішчы пераводзяць на трох-, а затым і двухгадовы цыкл навучання. Сэнс існавання ўстаноў, створаных па прынцыпу кадэцкіх карпусоў, амаль страціўся, але прэстыжнасць іх, як ні дзіўна, узрасла. Хаця здзіўляцца няма чаму. Бо пры новай, істотна спрошчанай, сістэме захаваліся і надзвычай моцны педагагічны калектыў, і галоўная прывілея выпускнікоў СВВ — паступленне без экзаменаў у вышэйшыя ваенныя ўстановы.

Дый бацькам, якія бачылі сваіх сыноў прадаўжальнікамі ваеннай дынастыі, такая рэарганізацыя прыйшлася даспадобы. Папершае, ім не трэба было шукаць блату ў Маскве ці Ленінградзе, усе цяжкасці пераадольваліся на перыферыі. Па-другое, дзівоснае спалучэнне дысцыпліны і настаўніцкага таленту ў СВВ гарантавалі сярэднюю адукацыю па вышэйшаму класу. Патрэцяе, у іх сыноў была някепская перспектыва.

Зразумела, што пры такіх умовах вучылішча захліснула хваля пратэкцыянізму. Сёння, напрыклад, каб трапіць у яго, трэба мець салідны капітал. Але ж затое сына корміць і выхоўвае дзяржава. Вось і з'язджаюцца штогод на вуліцу Багдановіча падлеткі, каб пакінуць тут два гады свайго жыцця.

Што чакае іх па той бок КПП?

## ...І З «ЧОРНАГА ЎВАХОДА»

Спрактыкаванаму воку яго няцяжка пазнаць па мноству брудных слядоў ад абутку на пафарбаваным бетоне агароджы. І хоць у Мінскім СВВ знайсці чорны ход няпроста, аднак гэтае месца вядома кожнаму выхаванцу «кадэткі». Тут праходзіць самы бяспечны для самавольшчыкаў шлях у горад. Не здзіўляйцеся, і сярод гэтых дысцыплінаваных падлеткаў трапляюцца парушальнікі. Можа таму, што парадак тут больш жорсткі, чым у лінейных вайсковых часцях, хоць і ў суворaўскім асяроддзі множацца вірусы ўсіх армейскіх хвароб. Адна з іх — «дзедаўшчына».

Праўда, ветэраны сцвярджаюць, што раней яе не існавала. І толькі ў сямідзесятых гадах «кадэтамі» сталі называцца выпускнікі, а першакурснікаў называлі «фантомамі», што ў перакладзе з латыні азначае прывід. Гэта той самы «дух», якім клічуць армейскія «дзяды» маладога салдата. Праўда, у вучылішчы свая сістэма адносін «кадэтаў» з «фантомамі»...

Куды глядзяць выкладчыкі?

Дарэчы, пра выкладчыкаў. Камандзірскія кадры — гэта ў асноўным афіцэры, якія маюць недзе «валасатую лапу». Працаваць тут прэстыжна, бо пасады на дзве ступені вышэйшыя, чым у звычайных вайсковых

часцях. Напрыклад, камандзір узвода, які называецца афіцэрам-выхавальнікам, мае маёрскую катэгорыю. І служба яго праходзіць у цэнтры сталіцы, у цёплым і чыстым памяшканні. А ягоны акопны сабрат у званні старшага лейтэнанта ходзіць у смярдзючым зашмальцаваным мазутам камбінезоне па брудным палігоне, абедае ў халоднай палатцы.

Стварэнне выключных умоў для афіцэраў СВВ мела першапачатковá высакародныя мэты: камандаваць такім спецыфічным вайсковым калектывам павінны прыстойныя людзі. Ільготы для іх былі ўведзены яшчэ ў царскім войску. Але спаганіць гэтую традыцыю ўдалося толькі ў савецкай арміі. Кандыдатаў сюды высокае начальства падбірала, як кажуць, па-сваяцку. А ў выніку да дзяцей часта прыстаўлялі не педагогаў, а салдафонаў. І іх выхаванцы станавіліся такімі ж салдафонамі.

На жаль, змен да лепшага пакуль не назіраецца. Настаўнікі СВВ звыкла праводзяць заняткі па старых праграмах. Будучыя афіцэры вывучаюць гісторыю неіснуючай Савецкай дзяржавы. Грамадскія дысцыпліны выкладаюць кадры «старой загартоўкі», для якіх суверэнітэт і незалежнасць Беларусі, прабачце, — голая дэкларацыя.

### СУВОРАВЕЦ — ГЭТА ЗВАННЕ!

На ярка-чырвонай вокладцы майго выпускнога альбома зіхцяць «залатыя словы»: «Суворавец — это звание на всю жизнь». Ці так гэта на самай справе? Давайце паразважаем.

Суворавец два гады вымушаны жыць адпаведна вайсковаму статуту. Аднак гэты перыяд не залічваецца ў тэрмін службы, у адрозненне, скажам, ад выпускніка прафтэхвучылішча. Суворaўцы займаюцца па школьнай праграме, аднак падпарадкоўваюцца строгаму распарадку дня: заняткі да абеду, пасля самападрыхтоўка, нарады, рэдкія звальненні ў горад. Увогуле, жыццё мала чым адрозніваецца ад службы курсанта вайсковага вучылішча. Аднак першых нават не ставяць у аднолькавае становішча з былымі салдатамі, якія таксама паступаюць у ВВВ. Вось і атрымліваецца, што суворавец — гэта сапраўды толькі званне, на якое амаль ніхто не звяртае ўвагі.

Такое становішча можна было б апраўдаць раней, калі на армію выдаткоўвалася безліч грошай. А дзе іх узяць цяпер? Выхад адзін — патрэбна рэформа суворaўскага вучылішча. І хоць яго калектыў выйшаў з прапановамі, пакладзенымі ў аснову канцэпцыі рэфармавання, яна наўрад ці стане жыццяздольнай. Бо пакуль не вядомыя ні колькасныя, ні якасныя патрабаванні да будучых кадраў беларускага войска. Прапановы распрацаваны дзеля таго, каб неяк апраўдаць сваё існаванне: камандзіры і педагогі хвалююцца, што ў любы момант і яны могуць аказацца па той бок КПП.

На мой погляд, рэформы самы час пачаць з... назвы. Сумна вядомая роля генералісімуса Суворава ў гісторыі Беларусі не пакідае ніякіх сумненняў у тым, што будучы афіцэр не можа называцца сувораўцам. І тут нельга не пагадзіцца з Зянонам Пазьняком, які лічыць, што СВВ павінна пераўтварыцца ў «ваенны калегіум імя Астрожскага». Асабіста мне бліжэй нейтральныя варыянты: ваенная гімназія ці ваенны ліцэй. Але галоўнае — сістэма адукацыі і выхавання ў навучальнай установе павінна найперш адпавядаць назве. Тады яе выпускнікі ніколі не будуць лічыць змарнаваным сваё юнацтва.

**Марат БУШЭНКА.**



# СЫНЫ ЦІ ПАСЫНКІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

За межамі рэспублікі, згодна даных Міністэрства абароны РБ, знаходзіцца каля 40 тысяч афіцэраў-беларусаў. Амаль пяць тысяч з іх прынялі ваенную прысягу іншых краін СНД і па сутнасці не могуць прэтэндаваць на грамадзянства Беларусі. 10 тысяч ваеннаслужачых падалі рапарты з просьбай вярнуцца на Бацькаўшчыну. Больш як тры тысячы з іх ужо ўладкаваны ў беларускім войску. Лёс астатніх дасюль не вырашаны.

Рэдакцыя часопіса папрасіла начальніка ўпраўлення кадраў Міністэрства абароны РБ палкоўніка **Івана ЗУБКО** і старшыню прэс-цэнтра Беларускага згуртавання вайскоўцаў падпалкоўніка **Аляксандра КУЛЕША** адказаць на пытанні:

1. Тры тысячы афіцэраў, мара якіх здзейснілася, гэта многа ці мала?
2. Што стрымлівае працэс?
3. Ці варта паскараць працэс вяртання? Калі так, то якім чынам?
4. Вашы адносіны да заклiку: «Беларусі — беларускіх афіцэраў!»?





### Іван ЗУБКО

1. Многа ці мала — тры тысячы вернутых на Бацькаўшчыну афіцэраў? Гэта як паглядзець на праблему. За кожным чалавекам не толькі ягоны ўласны лёс, але і лёс яго сям'і. Таму варта клапаціцца не толькі аб прызначэнні афіцэраў на адпаведныя пасады, але і аб уладкаванні іх жонак, дзяцей, а то і бацькоў. А справа гэтая складаная.

2. Перш чым адказаць на другое пытанне, адзначу, што Узброеным Сілам Беларусі патрэбна каля 18 тысяч афіцэраў. А цяпер у часцях і падраздзяленнях іх больш як 30 тысяч. Як бачыце, вакантных пасад няма. Калі б можна было прыняць усіх жадаючых, паверце, мы даўно запрасілі б іх.

3. Сітуацыя ўскладняецца з кожным днём. Таму аб нейкім адміністрацыйным паскарэнні не можа быць і гаворкі. Прыняць хаця б тых, хто вяртаецца з гарачых кропак, з Прыбалтыкі. Калі медыкаў, сувязістаў, аўтамабілістаў яшчэ неяк можна ўладкаваць, то астатніх спецыялістаў проста няма куды дзяваць. Скажам, афіцэраў проціпаветранай абароны. Іх, дарэчы, рыхтавала Мінскае вышэйшае зенітна-ракетнае вучылішча, і займаліся там, у асноўным, беларусы. А служылі яны ў розных кутках былога Саюза. У выніку 60 працэнтаў афіцэраў, якія пажадалі вярнуцца, — спецыялісты ППА. Тая ж праблема і з выпускнікамі Мінскага палітычнага вучылішча.

Каб даць ім месца, мы цяпер вымушаны звальняць тых, хто, нягледзячы на ўзрост, мае права на пенсію, нават мінімальную (15 гадоў службы — 40 працэнтаў). Каму крыху не хапае да пенсіі, трымаем па-за штатам.

Канешне, сумны мой аповед, але што зробіш...

4. Мае адносіны да заклiку — адмоўныя. Таму што ўсе мы — грамадзяне Рэспублікі Беларусь. Для яе куды важней, каб афіцэр шчыра, самаадданa служыў, быў прафесіяналам сваёй справы.

### Аляксандр КУЛЕШ

1. Хочацца верыць у лічбы, якія «адкрыла» Міністэрства абароны. Але ж ні мы, ні грамадскасць, ці нават народныя дэпутаты не могуць азнаёміцца з імі больш дакладна. Чамусьці таварышы ў папахах трымаюць гэтыя спісы (калі яны ёсць) у сакрэце. Таму вельмі цяжка меркаваць, які клопат на самай справе праяўляе міністэрства, каб вярнуць афіцэраў дадому. Гэта першае. Другое: пакуль існуе небяспека ваенных канфліктаў, у якія могуць быць уцягнуты нашы хлопцы ў саставе войскаў СНД, нельга супакойвацца і цешыць сябе лічбамі, якімі б яны значнымі ні былі.

2. Стрымлівае, канешне ж, адсутнасць вакансій і ўмоў для размяшчэння афіцэраў. Гэта — прычыны аб'ектыўныя. Але ж хвалюе і тое, што ў рэспубліцы на ўзроўні ўрада і Мінабароны няма адзінай праграмы ці канцэпцыі вяртання вайскоўцаў. БЗВ выступіла адным з заснавальнікаў «Камітэта вяртання», які на грамадскіх пачатках распрацоўвае такую канцэпцыю.

3. Варта. І ў мяне ёсць канкрэтныя прапановы. Напрыклад, існуе рэальная магчымасць звальняць з войска ўсіх афіцэраў, якія маюць кватэры і максімальную пенсію. А такіх нямала! Яны круцяцца каля вялікіх начальнікаў, выконваючы «асобыя» даручэнні, а выключэнне павінна быць толькі для вельмі каштоўных спецыялістаў, навукоўцаў, выкладчыкаў.

Здзіўляюся, чаму да гэтага часу ў кадравых органах міністэрства няма спісаў, у якіх значылася б асноўная інфармацыя пра афіцэраў, якія пажадалі вярнуцца ў Беларусь: дзе служаць, пасада, жыллёвыя ўмовы і г. д. Гэта значна спрасціла б абмен вайскоўцамі ў рамках краін былога Саюза.

Яшчэ адна прапанова. Часці, якія цяпер выводзяцца да нас з Нямеччыны і іншых краін, фактычна знаходзяцца пад юрысдыкцыяй Расіі. Таму, напэўна, мае сэнс накіроўваць іх у Расію, а на іх месца вяртаць нашых афіцэраў. Усё роўна ж большасць такіх часцей расфарміруюць.

4. У беларускім войску павінны служыць тыя, хто шчыра падтрымлівае суверэнітэт, культуру і мову нашага народа. Тыя, хто будзе лічыць Беларусь сваёй краінай, сваёй другой радзімай, незалежна ад таго, якой яны нацыянальнасці і дзе нарадзіліся.

**Бліцінтэрв'ю ўзялі Уладзімір РУДЗЕНКА і Марат БУШЭНКА.**

# ЦЯПЕР У НАС СВАЕ ЗАКОНЫ, БАЙЦЫ, ПРЫСЯГА, ПАЛІГОНЫ...

**Ужо можна сказаць упэўнена: ваеннае будаўніцтва ў нашай маладой суверэннай дзяржаве набірае моц і размах. Сведчаннем таму — вынікі работы кастрычніцка-лютаўскай сесіі Вярхоўнага Савета, якая прыняла пакет ваенных законаў. У рэспубліцы ёсць, нарэшце, ваенная дактрына, з'арыентаваная на дасягненне статуса нейтральнай бяз'ядзернай дзяржавы.**

**Дакумент, на наш погляд, вельмі важны, асабліва калі разглядаць яго ў кантэксце новай ваенна-палітычнай філасофіі, сутнасць якой — канфрантацыйны свет саступіў месца шматмернаму, у якім пагроза глабальнага сутыкнення, па словах замежных экспертаў, зведзена практычна да нуля.**

**Як удала і гарманічна ўпішацца Беларусь у сістэму еўрабяспекі, пакажа час. Аднак, па сцвярджэнню спецыялістаў, рэспубліка можа стаць бяз'ядзернай гады праз два з палавінаю. А яшчэ праз год яе тэрыторыю, магчыма, пакіне апошняе падраздзяленне стратэгічных войск. Да таго часу колькасць уласных Узброеных Сіл павінна дасягнуць узроўню разумнай абароннай дастатковасці, якая ў мірны час адпавядае прыкладна аднаму працэнту ад колькасці жыхароў рэспублікі.**

**Многа гэта ці мала! Ці забяспечыць такое войска надзейную абарону свайго нейтралітэту і незалежнасці! Пытанні далёка не рытарычныя. І адназначна адказаць на іх сёння нельга. Кіраўнікі міністэрства абароны сцвярджаюць, што рэспубліка не застанецца сам-насам з патэнцыяльным праціўнікам. Яна можа заключаць двухбаковыя пагадненні і дагаворы з суседнімі дзяржавамі аб супрацоўніцтве і ўзаемадапамозе, у тым ліку і ў ваеннай сферы.**

**Нягледзячы на абаронную накіраванасць дактрыны, яна замацоўвае за рэспублікай права на прымяненне сілы ў выпадку любой агрэсіі ці ваеннага канфлікту, калі палітычныя, эканамічныя і дыпламатычныя сілы акажуцца бездапаможнымі. Дзяржава павінна ўмець абараніць сябе!**

**У рэспубліцы ўступілі ў сілу Законы аб абароне і Узброеных Сілах, усеагульным воінскім абавязку і ваеннай службе, аб альтэрнатыўнай службе, аб статусе ваеннаслужачых... А 31 снежня ўвесь асабовы састаў Узброеных Сіл, пагранічных і ўнутраных войскаў, Камітэта дзяржаўнай бяспекі прыведзены да прысягі на вернасць беларускаму народу і дзяржаве.**

**Канешне, такія рашэнні не могуць не радаваць. Але ж амаль штодня паступаюць звесткі зусім іншага характару.**

**Так, армія не можа абысціся без трывалай дапамогі ўрада. 10 працэнтаў ад дзяржаўнага бюджэту, бадай, не хопіць на патрэбы міністэрства абароны. А значыць, праблемы застануцца. Хвалюе і тое, хто будзе служыць у беларускім войску. Восеньскі прызыў паказаў, што з 20 800 чалавек годнымі да службы прызнаны толькі 13 882, з якіх 67 працэнтаў адмаўляюцца стаць салдатамі. Амаль чатыры тысячы юнакоў прызнаны непрыгоднымі да страявой. На зборныя пункты не прыбыў 3 601 прызыўнік. Лічбы прымушаюць задумацца не толькі ваенных, але і нас, бацькоў, настаўнікаў, медыкаў, усё грамадства. Усе мы ў адказе за сыноў — абаронцаў Бацькаўшчыны.**

**І апошняе. Згодна новых законаў, у войску ўводзяцца такія прававыя нормы, як забарона на дзейнасць партый, грамадска-палітычных рухаў і іншых арганізацый, якія дамагаюцца палітычных мэт, а таксама забарона на стварэнне любых ваенных фарміраванняў «добраахвотніцкага» накірунку.**

**Нельга не пагадзіцца з такім рашэннем. Час палымяных прамоўцаў і агітатараў у пагонах мінуў. Цяпер, на наш погляд, войска мае вялікую патрэбу у псіхолагах, якія на аснове навукова абгрунтаваных методык змаглі б праводзіць тэсты сярод асабовага саставу, выяўляць нефармальных лідэраў, камплектаваць сумесныя экіпажы, разлікі, папярэджваць напружанне, якое ўзнікае ў любым калектыве, умела працаваць з прадстаўнікамі розных нацыянальнасцей і сацыяльных груп.**

**У складаны і трывожны час ідзе станаўленне маладога беларускага войска. Але гэта не значыць, што яму дадзена права страчваць свой прафесійны і інтэлектуальны ўзровень.**

**АДДЗЕЛ ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫХ ПРАБЛЕМ.**

---

**Алесь БАДАК**

▣ ▣ ▣

*Жанне.*

*Што з табой мы ведалі пра шчасце*
*Між агнём і тлумнай пустатой?!*
*Юны сокал, бог любві і страсці,*
*Дзень і ноч для нас бярог спакой.*

*Што з табой мы ведалі пра словы*
*Між святлом і хмельным забыццём?!*
*Ад зіхоткіх зор да ранку совы*
*Закрывалі крыламі наш дом.*

*Што з табой мы ведалі пра слёзы*
*Між маной і мудрасцю цяпла?!*
*Юны сокал плыў над нашым лёсам,*
*Перыйкі губляючы з крыла.*

▣ ▣ ▣

*Дзве бяды за намі, дзве бяды.*
*І калі б назад ні азірнуцца —*
*Белы сум брыдзе, як белы дым,*
*І у душы просіцца вярнуцца.*

*Дзве сцяны між намі, дзве сцяны.*
*Ні канца няма ім і ні краю.*
*Чорнай прорвай два сляпых акны*
*Прама ў вочы нашы пазіраюць.*

*Два агні над намі, два агні*
*Нашы думкі берагуць ад блуду.*
*Можа ўсё ж і праўда, тыя дні*
*Я хутчэй, чым думаю, забуду?*

*Два шляхі пад намі, два шляхі*
*Скрыжаваннем больш ужо не стануць.*
*Першы ўдаль імкнецца, а другі*
*Маладой травою зарастае.*

*Два масты прад намі, два масты,*
*Нібы ў сне, у сонечным тумане.*
*Па адным з усмешкай пройдзеш ты,*
*а мяне другі з іх не ўтрымае...*

## *Балада вяртання*

*Мяне абступаюць*
*незнаёмыя людзі,*
*недаўменна глядзяць*
*на мой здзіўлены,*
*перапужаны твар.*
*— Чаго ты спыніўся? —*
*пытаюцца яны ў мяне.—*
*Вунь твая хата,*
*няўжо не пазнаеш?*
*І паказваюць мне*
*на чужую будыніну.*
*— А вунь і маці твая,—*
*гавораць мне людзі,*
*але з хаты выходзіць*
*незнаёмая жанчына.*
*— А вунь і бацька твой,—*
*гавораць мне людзі,*
*але з хаты выходзіць незнаёмы мужчына.*
*— А вунь і брат твой,—*
*гавораць мне людзі,*
*але з хаты выходзіць*
*незнаёмы хлопец.*
*Мужчына і хлопец*
*спаважна здароўкаюцца са мной,*
*а жанчына, са шчаслівай усмешкай*
*і слязьмі на твары,*
*бярэ мяне за руку і вядзе ў хату.*
*— Вось твая калыска,—*
*пяшчотна гаворыць яна.—*
*А вось твае дзіцячыя кашулі*
*і сандалікі, пазнаеш?*
*Я здзіўлена гляджу*
*на не знаёмыя мне рэчы.*
*Пасля з цікавасцю разглядаю на сцяне*
*не знаёмыя мне фотакарткі.*
*Пасля гляджуся*
*ў вялікае старое люстэрка*
*і са страхам адхінаюся.*
*— Хто гэта?! —*
*дрыготкім голасам пытаюся я ў жанчыны.*
*— Як гэта хто?*
*Ты, сынок...*

**Эдуард АКУЛІН**

## *Маланка*

*Забяры мяне ў неба, маланка!*
*Хоць шчасце з табою на міг...*
*Клянуся быць шчырым каханкам*
*ў абдымках пякельных тваіх.*

*Лепш знікнуць у сіняй прасторы,*
*збудзіўшы залевай раллю,*
*чым жыць у маўклівай пакоры,*
*каб неяк сысці пад зямлю.*

▣ ▣ ▣

*Як зморыцца ноч ад кахання,*
*настыне ў тумане язмін*
*і неба даспее світаннем,*
*ты мовіш сціхотна: — Вазьмі,*

*вазьмі маё цела, каханы,*
*і боль мой, і слёзы мае...*
*І сонца ударыць фантанам*
*рассыпаных кос*
*па траве.*

## *Смутак*

*Мой погляд размылі туманы,*
*мой гнеў, як загублены нож...*
*Мой смутак, нібы несціханы*
*кастрычніцкі помслівы дождж.*

*Твой погляд — зялёная зорка.*
*Твой гнеў — ненароджаны сын.*
*Твой смутак пранізліва-горкі,*
*як смак недаспелых ажын.*

## *Здрада*

*Думка аб здрадзе — здрада.*
*Ноччу ёй явай стаць...*
*О, як была ты рада*
*іншага ў сне кахаць.*

*Гэта душы блакада.*
*Гэта аблога сноў.*
*Думка аб здрадзе — здрада.*
*Сёння ты здрадзіш зноў.*

▣ ▣ ▣

*Я стаміўся на свеце жыць...*
*Я аб смерці стаміўся думаць.*
*Ліст на ветры ўгары дрыжыць*
*І на дол пазірае з сумам.*

*Ён прывык да птушыных дум,*
*ён крылом звыкся быць для дрэва...*
*Лістапад — яснавокі сум,*
*залатога лісця залева.*

*Я стаміўся на свеце жыць.*
*Супачыну істота просіць.*
*І душа, як лісток, дрыжыць,*
*а за вокнамі восень... Восень.*

*Да 100-годдзя з дня нараджэння Максіма Гарэцкага*








# З БАГАЦЬКАЎКІ

«Судзі мяне, судзі мяне, кожны і ўсякі! Судзі мяне судом сваім, і кожным і ўсякім... Карай мяне карамі сваімі, карай...

Толькі прашу цябе: не выбівай з маіх худых і кволых рук гэтага маленькага пучочка васількоў...

А выб'еш — буду азірацца на іх з сумам і жалем вялікім, перавышаючым мае слабыя сілы...

Як мне забыцца на іх, пакінутых там, адразу, на дарозе, у пыле і брудзе, на цярнёвай дарозе, якою народ мой ішоў...»

Як жа павінна была збалецца, спакутавацца душа, з якой выдыхнулася гэтае па-хрысціянску цярпліва-пакорлівае маленне? Толькі пучочак васількоў... Мілы, тужліва-светлы напамін, у якім моцна спляліся першы крык, маці, бацькоўская хата, свет і апошні ўздых...

Банальная ісціна пра тое, што радзіма і свет пачынаюцца з роднага кутка, відаць, ніколі не стане банальнай для таго, хто не проста сентыментальна здалёк помніў пра свае вытокі, а назаўсёды, кожным крокам сваім, быў нябачна прымагнічаны да маленькага кавалачка зямлі, на якім кожны год, сярод ільну ці жыта, недалёка ад бацькоўскай хаты, упарта і вечна сінее васілёк. Ніхто з беларускіх пісьменнікаў (акрамя, відаць, Коласа) не быў так моцна прымагнічаны да сваёй Малой Багацькаўкі, як Максім Гарэцкі. На жаль, хаты, да якой заўсёды ляцелі думкі і пачуцці Максіма, даўно няма, але засталася незабудаванай тая пляцоўка, дзе стаяла хата, падворышча, частка былога саду, некалькі дрэў, зрэшты — вёска, такая ж маленькая, прыгожая ўлетку і брудная ўвосень, у якой цяпер ужо больш паміраюць, чым нараджаюцца. Вёска, зямля нібы выканалі сваё галоўнае прызначэнне, даўшы фенаменальна-таленавіты род — род Гарэцкіх — і ціха, стомлена, пакорліва дажываюць, згасаюць, адыходзяць... Тут у канцы XIX стагоддзя 18 лютага 1893 года загарэлася зорка Максіма Гарэцкага. У галоўнай кнізе яго жыцця «Камароўскай хронікі», якую Алесь Адамовіч назваў «апошнім пакланам вёсцы», гэтая падзея апісана так: «А пасля стрэчання, на масленку, у суботу, радзіла сына. Масленка тады дужа ранняя была. У пятніцу ўвесь дзень мычкі мыкала, пражу матала. У лазню ўвечары схадзіла. Удосвітак мужчыны ўсталі гарох выбіраць на семя, на стол насыпаўшы, а бабы — мычкі мыкалі. І начаваў у іх тады Стратон Адарчын з Палянкі, малы яшчэ хлопец. Алена Саўцы сказала, агонь загасілі. Мужчыны паляглі. Наўчыла Алена Ганку разагнацца ды каленямі дрогнуцца аб падлогу, «спатрахнуцца»... Ганна дрогнулася. Мужчыны спалохаліся: «Ці не забілася яна?» І на печы з Аленаю ляжала. Мучылася. Злезла з печы, пайшла ў другую хату,— ужо віднелася на дварэ. Прыходзіць туды Стахван: «Чаго тут мерзнеш?» А ў іх старая хата ўзімку халодная стаяла. — «Маўчы, бяжы па Алёну, дзіцёнак радзіўся...» Была Ганна не рада, што хлопец, а не дзяўчынка. Бабіла Хоўра Міхасіха. У нядзелю ўранні хрэсьбіны былі. Кумы — Максім, бабы Міхасіхі сын, і Аксёна Курыліха, Курылы Скнарыцы жонка. Палагея Мацвееўна з Харошага прыйшла. Стаўбун масла, стаўчык блінцоў прынясла. Хрысцілі ў Харошым. Імя далі — Лявон...»

Маці Максіма, Ефрасінню Міхайлаўну ЭЛІМБел смела і зусім, відаць, справядліва назвала беларускай народнай спявачкай. Гэтая простая вясковая жанчына ведала незлічонае мноства песень, пераважна сямейна-абрадавых і каляндарных, сярод якіх асабліва вылучаліся радзінныя, вясельныя і жніўныя. Песні ад яе пачала запісваць адзіная дачка Ганна, а поўны запіс зрабілі Максім і кампазітар А. Ягораў, наладзіўшы ў Багацькаўку ў 20-я гады фалькларную экспедыцыю. 318 (!) тэкстаў з мелодыямі склалі асобную кнігу «Народныя песні з мелодыямі», выдадзеную Інбелкультам у 1928 годзе, якая стала бібліяграфічнай рэдкасцю. Запісы асобных песень, зробленых рукою Максіма, захоўваюцца ў Акадэміі навук, адзін з іх датаваны яшчэ 1912 годам. Гэтым жа годам пазначаны і маленькі кавалачак паперы з першым сведчаннем творчай спробы, зробленай у Багацькаўцы з зусім будзённай, хатняй нагоды:

Гаўрылька і Ганна
Сяньня ўраньні,
Узяўшы кашолкі,
У лес у грыбы
Па роснай травіцы пайшлі.
Там доўга хадзілі,
І пільна шукалі,
І поўны кашолкі
Грыбоў назьбіралі,
І ўдвору к сьняданьню прышлі.

У багацькаўскай хаце гучалі не толькі матчыны песні. «У гэтай хаце, — успамінаў Гаўрыла Гарэцкі, — Максім натхнёна іграў сваім меншым на скрыпцы і дудках — жалейках ды апавядаў найцікавейшыя гісторыі-імправізацыі, часам такія страшныя, жудасныя, што малыя аж крычалі і хапаліся за апавядальніка... На калядныя вакацыі Максім дабіраўся да хаты пехатою або прыязджаў на санях, прыносячы з сабой вясёласць, радасць і шчасце для ўсёй сям'і... У навейшай хаце збіралася ў нас багацькаўская моладзь, дзяўчаты і хлопцы. Гулялі ў розныя гульні, вадзілі карагод. Максім часта сам вёў карагод, стоячы нападзе з чапялою ў руках і стукаючы ёю аб падлогу, запяваючы карагодныя песні...»

На жаль, дайшоўшыя да нас фотаздымкі глыбока схавалі ўсмешлівасць, жартаўлівасць і маладую гуллівасць Максіма Гарэцкага, відаць, таму так дзіўна-прыемна і трошкі сумна чытаць ва ўспамінах, што любіў ён пайсці на ігрышчы ў Большую Багацькаўку, Слаўнава, Курманава, ска-




# РОДАМ...

каў кадрылю і полечку, вадзіў карагоды, дэкламаваў, спяваў, граў, а яшчэ — умеў араць, касіць, плесці з лазы кошыкі, майстраваць дудкі.

Відавочна, з дзіцяча-юнацкіх багацькаўскіх уражанняў, песень, казак, «страшных» аповедаў, «забабонаў» у ранняй прозе Гарэцкага матыў «патаемнага», неразгаданасць якога з дзяцінства трымае амаль кожнага чалавека. Магчыма, першыя лісты з Багацькаўкі студэнту Горацкага каморніцка-агранамічнага вучылішча з паклонамі ад усёй радні і няхітрымі вясковымі навінамі былі яшчэ й падсвядомым штуршком да замыслу «Камароўскай хронікі», унікальнай эпапеі аб жыцці чатырох пакаленняў беларускай вёскі, у якой выразна пазнавалася Багацькаўка. Ніхто з беларускіх пісьменнікаў не быў так біяграфічна-дакументальны ў сваёй творчасці, як Гарэцкі. Ён зберагаў і запісваў літаральна ўсё, што магло спатрэбіцца для працы. Дачка Гарэцкага Галіна Максімаўна ва ўспамінах пра бацьку пісала: «Аднойчы захацелася мне і Мані Кушановай падражніць старую Домну, што жыла ў канцы нашай вуліцы, як павярнуць у Багацькаўшчыну. Даволі было запаволіць крок і ўзірацца праз высокі паркан у Домнін сад (насупраць яе хаты, цераз вуліцу). Выскачыла Домна з праклёнамі. Я зір у бок свае хаты, ці не выйшаў бацька. А ён стаіць каля лескі Дземянковых, наўскасяк ад дзедавага ганка, і, як я здагадалася, запісвае гэтыя праклёны ў кніжачку. Аднак тут жа перастаў пісаць і крыкнуў, каб не дражніліся...»

У Багацькаўку Гарэцкі прыязджаў кожнае лета: то з сям'ёю, то адзін. Брат Парфір пабудаваў у 1924 годзе новую хату для сваёй сям'і і бацькоў (яна згарэла ў 1974 годзе). Непадалёку жыў старэйшы брат Іван з жонкай і шасцю дзяцьмі. Не забываўся наведаць радню ў Большай Багацькаўцы, Слаўнаве, Галалобаўцы, Шумякіне. У 1927 годзе Максім правёў у багацькаўскую хату першае ў вёсцы радыё, якое па чарзе, праз навушнікі, слухалі многія вяскоўцы.

Гарэцкі ніколі не ідэалізаваў, не прыхарошваў сваю Багацькаўку, ён проста яе любіў і пакутаваў ад таго, што «жывуць людзі ліха ведае як, покуль недзе будуюцца Нью-Йоркі», і пакута гэтая была яшчэ больш пякучай ад таго, што людзі гэтыя — родныя, дарагія. Вось як ён апісвае, здавалася б, мірную справу — сямейную вячэру: «Селі вячэраць. Усе ядзім з аднае міскі драўлянымі лыжкамі. Тата, укусіўшы хлеба, збірае кусанікам і крошачкі на стале і падстаўляе пад лыжку, каб не капала на стол. Дзяцём далёка даставаць, дык яны дужа разліваюць, льюць сабе на грудзі, абліваюцца... Брыдка глядзець, як у дзяўчынкі паўзуць саплі, а яна скрозь увесь час чмыхае носам і наводмах сморгае пад ім рукавом кашулёнкі. Яна пялёскаецца ў місцы, выбірае з капусты лепшы грыб. Выцягнула адзін, пакаштавала яго на зубах, пашчупала пальцамі і плёхнула назад у міску.

Трах! — стукнула ёй матка лыжкаю ў лоб...

— Ты ж еш, калі выцягнула, паскуда!

Дзяўчынка захлібнулася, завыла і паціснулася пад стол.

— Ніяк без гвалту не абойдзецца,— кажу скрозь зубы, і зараз пашкадаваў, што сказаў, бо яна пасля гэтага загаласіла яшчэ дужэй.

Тады нявестка ўзлавалася, што дачка не сціхае, выйшла з застолля, кінула дзіцёнка ў люльку так, што і той заплакаў, схапіла атолак з аборынаю, выцягнула яе з-пад лаўкі за ручку і больна секанула канцом аборыны, і ўзняўся звычайны для кожнага абедання і вячэрання плач і крык...»

Лаянка, сварка, бруд для вёскі заўсёды, на жаль, і сёння, былі звыкла-штодзённай з'явай, як і нарадзіны, хрысціны, вяселле і нават смерць, як частка самога жыцця з яго спрадвечна-пакорлівай мудрасцю: «бог даў — бог узяў». Але часам смерць урывалася недарэчна-злоснай нечаканасцю. Такой была смерць адзінай сястры Максіма Гарэцкага Ганны, якая ў дваццацігадовым студэнцкім узросце пакутліва памерла ў бальніцы, трапіўшы ў 1922 годзе ў абыякава-тлумнай Маскве пад трамвай: «Народу было многа, усе хапаліся сходзіць, я завалілася, людзі сходзілі і наступалі на мяне, у гэты час трамвай скрануўся, і мае ногі папалі...» Невыносна цяжка было перанесці страту маці, якая памерла ад ушчамлення кішак, падняўшы з пограба цяжкі кош з бульбай. Было гэта ў 1935 годзе, калі над Гарэцкім ужо некалькі гадоў вісела чорнай хмарай несправядлівае абвінавачанне і ў родную Багацькаўку прыходзілася ехаць не з Мінска, а з Вяткі, напэўна ж прадчуваючы, што гэтыя спатканні ўжо апошнія, развітальныя. «22 ці 23 жніўня 1936 года,— успамінае Галіна Максімаўна,— бацька ўжо з Лёнем зноў прыехаў у Малую Багацькаўку. Мусіць, у тое лета запісаў ён «Камароўскі парад» — пералік усіх трыццаці пяці двароў у вёсцы і кароценькія звесткі аб гаспадарах і сем'ях іх. Пад № 17— хата Івана Кузьміча Гарэцкага...»

У канцы жніўня 1937 года Гарэцкі прыехаў у Багацькаўку апошні раз. Гаманіў з вяскоўцамі, сядзеў з бацькам і сваякамі ў дзедавым садзе, дзе сам калісьці зрабіў столік і лавачкі, слухаў, як, вяртаючыся надвячоркам з поля, пяюць жанчыны. Ад'язджаючы, папрасіў бацьку спыніць воз на бальшаку каля могілак, каб развітацца з маці... А праз два месяцы яму прыйшлося назаўсёды развітацца з сям'ёй, ідучы насустрач непапраўнаму. Ужо былі напісаныя ім «Скарбы жыцця»: «Усё жыццё праляцела, як адзін дзень. Усё яно — як на далоні.

...Цану рэчам пазнаў. Людзей да самых глыбінь уведаў. Жыццём даражыць навучыўся. І да смерці сябе рыхтаваць умею. Каб прыняць яе меч хоць калі...»

**Лідзія КАМІНСКАЯ,**
**старшы навуковы супрацоўнік**
**Дзяржаўнага гістарычнага музея**
**беларускай літаратуры.**

# З НАМІ БОГ

Вывучэнне пытанняў тэрытарыяльнага распаўсюджвання розных рэлігій у сувязі з этнічнымі асаблівасцямі рассялення і этнічнай структурай насельніцтва Беларусі з'яўляецца новым накірункам у грамадскіх навуках рэспублікі. Неабходнасць вывучэння геаграфіі рэлігій дазваляе лепш зразумець тэрытарыяльныя асаблівасці і агульнасць культуры, паходжанне і ступень устойлівасці традыцый і інш. Гэтая праблема набывае ў нас асаблівую сур'ёзнасць яшчэ і таму, што Беларусь — краіна шматканфесійная. У апошні час, да прыкладу, з'явіліся такія новыя для нашай рэспублікі канфесіі, як Расійская праваслаўная свабодная царква, Новаапостальская, царква Ісуса Хрыста, шмат якія ўсходнія рэлігійныя абшчыны і інш. Таму праблема талерантнасці, дыялогу, экуменізму набывае асаблівае значэнне.

Карты, якія мы тут прадстаўляем, складзены ў лабараторыі этнічнай геаграфіі Мінскага педагагічнага інстытута. Яны паказваюць як геаграфію, так і дынаміку розных канфесій.

Тут патрэбна зрабіць адну істотную агаворку. Пад тэрмінам «храм» на гэтых картасхемах маецца на ўвазе не толькі храм у сваім прамым значэнні, але і ўсе прыстасаваныя для адпраўлення рэлігійных абрадаў памяшканні.

На 1 ліпеня 1992 года ў Беларусі налічвалася 1428 (у 1970 — 655) розных рэлігійных абшчын, у тым ліку 744 праваслаўныя, 278 каталіцкіх і 348 пратэстанцкіх. Такім чынам сумарна гэтыя канфесіі склалі 95,9 працэнта ад агульнай колькасці абшчын. (Гл. табліцу № 1).

Як бачым, сярод усіх раўнапраўных канфесій праваслаўная царква займае першае месца па колькасці прыходаў з найбольш дакладна выяўленай тэндэнцыяй да пашырэння сферы свайго ўплыву. Калі ў сярэдзіне 1992 года ў рэспубліцы было 7 епархій, то цяпер іх 10.

Па абласцях Беларусі сетка рэлігійных абшчын трох асноўных рэлігій характарызуецца наступнымі данымі: у Брэсцкай — 430 (у 1970 г. было 232), у Віцебскай — 175 (было 60), у Гомельскай — 130 (было 54), Гродзенскай — 283 (было 171), Мінскай (разам з Мінскам) — 269 (было 87). Павольней, чым у астатніх, «прачынаецца» богаадчуванне ў Магілёўскай вобласці, дзе цяпер 83 абшчыны (было 38). Ніводнай рэлігійнай абшчыны не было ў 1970 годзе ў 14 адміністрацыйных раёнах, а ў сярэдзіне мінулага такім застаўся толькі адзін Круглянскі.

Асаблівую цікавасць, зразумела, уяўляе геаграфія трох асноўных канфесій Беларусі — праваслаўнай, каталіцкай і пратэстанцкай — у трох найбольш «рэлігійных» абласцях (Гродзенскай, Брэсцкай і Мінскай). (Гл. табліцу № 2).

Самы «веруючы» рэгіён — Заходняя Беларусь (плошча 57,3 тыс. $км^2$, Брэсцкая і Гродзенская вобласці), дзе налічваецца 713 абшчын, у тым ліку 372 праваслаўныя, 173 пратэстанцкія і 168 каталіцкіх. Адна абшчына прыпадае, такім чынам, на 80 $км^2$). Усходняя Беларусь (Віцебская, Магілёўская, Гомельская і — з пэўнай доляй умоўнасці — Мінская) з'яўляецца ў нейкім сэнсе рэлігійнай паўпустэльняй. Тут на тэрыторыі ў 150,3 тыс. $км^2$, ці амаль у тры разы большай, чым Заходняя, існуе 657 абшчын, з якіх 372 праваслаўныя, 175 пратэстанцкіх, 110 каталіцкіх. Адна абшчына — на 228 $км^2$.

З гэтых табліц бачна, што як ва Усходняй, так і ў Заходняй Беларусі самая шматлікая канфесія — праваслаўная, і яна мае ўстойлівую тэндэнцыю да пашырэння.

Уплыў рыма-каталіцкай царквы найбольш моцны на Гродзеншчыне, дзе пражывае 72,0 % усяго польскага насельніцтва рэспублікі і знаходзіцца 48,9 % усіх каталіцкіх абшчын Беларусі. І хоць ідзе працэс тэрытарыяльнага пашырэння сферы ўплыву рыма-католікаў (у 1970 на долю Гродзенскай і Брэсцкай абласцей прыпадала 77,6 % усіх каталіцкіх абшчын, у 1992 — ужо толькі 60,4 %), тым не менш усходняя частка рэспублікі практычна знаходзіцца па-за сферай гэтага ўплыву. Трэба зазначыць яшчэ і такі аспект: нягледзячы на ўзмацненне пазіцый рыма-каталіцкай царквы, яе распаўсюджанне на Беларусі не перавышае даваеннага ўзроўню.

Я даўно задумваюся над такім пытаннем: «Якая статыстычная прырода, якая база даных аб колькасці католікаў у Беларусі?». Ватыкан гаворыць пра 2 мільёны (Byelorussian Review», vol. 2, № 2, 1990). Прыкладна такая ж лічба прыводзіцца і ў шэрагу іншых публікацый. Ст. Плявака заяўляе, што католікаў і насельніцтва каталіцкага паходжання ў Беларусі каля 20 % ад усіх жыхароў (St. Plewako. Odrodzenie katolicyzmu na Bialorusi. «Wschod», № 2, 1991), г. зн. каля 2 млн. чал. Гэтую лічбу прывёў летась і старшыня Саюза палякаў Беларусі Т. Гавін («Glos znad Niemnia», 16—30 czerwca, 1992).

Але нават калі згадзіцца з тым, што кожны з пражываючых у рэспубліцы палякаў (417,7 тыс. чал.) фігуруе у ватыканскай статыстыцы як католік (што, магчыма, і сапраўды так), то гэта будзе азначаць, што па ўласных падліках Ватыкана палякі складаюць толькі каля $^1/_5$ часткі ад усіх католікаў Беларусі. Значыць астатнія $^4/_5$ — беларусы. Так, на думку польскага вучонага З. Гаеўскага, можна дапусціць, што рыма-каталіцкіх беларусаў у рэспубліцы каля 1,5 млн. чал. (Z. Gajewski. Katolicyzm na Bialorusi. Przegląd katolicki», № 22, 1989).

Звернемся да другога польскага даследчыка А. Хлябовіча, аўтара манаграфіі «Kościól w niewoli». Ён піша: «Большасць крыніц, як, напрыклад, апостальскі інспектар беларусаў-католікаў епіскап Чэслаў Сіповіч, які знаходзіцца на эміграцыі, рэспубліканскі міністр па справах рэлігій Анджэй Залескі, айцец Аляксандр Надсан у Лондане (апостальскі візітатар для беларусаў-уніятаў, якія жывуць у Англіі, Францыі, ЗША, Новай Зеландыі, Аўстраліі і Беларусі.— **С. П.**), ацэньваюць гэтую колькасць амаль 2 млн. Іншую крайнюю лічбу прывёў у 1988 г. у час візіту Прымаса Гемпла ў Беларусь мітрапаліт Філарэт, ацэньваючы яе ў 500 тыс. чал., г. зн. лічбу, набліжаную да афіцыйнай статыстыкі, якая вызначае колькасць палякаў, што жывуць тут. Падобныя падлікі зрабіў у 1990 г. і беларускі гісторык, які пастаянна жыве ў Польшчы, Ежы Туронак, ацаніўшы колькасць католікаў у 600—700 тыс. Сутнасць спрэчкі заключаецца ў тым, што калі ёсць

| Вобласці | 1970 г. | | | 1992 г. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | праваслаўная царква | каталіцкі касцёл | пратэстанцкая царква | праваслаўная царква | каталіцкі касцёл | пратэстанцкая царква |
| Гродзенская | 76 | 71 | 24 | 119 | 136 | 28 |
| Брэсцкая | 148 | 12 | 72 | 253 | 32 | 145 |
| Мінская | 49 | 13 | 25 | 137 | 51 | 81 |
| Усяго: | 273 | 96 | 121 | 509 | 219 | 254 |
| Усяго ў Беларусі, | 382 | 107 | 153 | 744 | 278 | 348 |
| у тым ліку ў трох названых абласцях (у %) | 71,5 | 89,7 | 79,1 | 68,4 | 70,8 | 73,0 |

Табліца 2

Табліца 1 **РАЗМЯШЧЭННЕ РЭЛІГІЙНЫХ АБШЧЫН ПРАВАСЛАЎНАЙ, РЫМА-КАТАЛІЦКАЙ І ПРАТЭСТАНЦКАЙ ЦЭРКВАЎ НА ТЭРЫТОРЫІ БЕЛАРУСІ**

| Канфесія | Брэсцкая вобл. | | | Віцебская вобл. | | | Гомельская вобл. | | | Гродзенская вобл. | | | Мінская вобл. (з Мінскам) | | | Магілёўская вобл. | | | Усяго па Беларусі | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1970 | 1990 | 1992 | 1970 | 1990 | 1992 | 1970 | 1990 | 1992 | 1970 | 1990 | 1992 | 1970 | 1990 | 1992 | 1970 | 1990 | 1992 | 1970 | 1990 | 1992 |
| БПЦ | 148 | 215 | 253 | 43 | 69 | 105 | 44 | 64 | 85 | 76 | 112 | 119 | 49 | 106 | 137 | 22 | 37 | 45 | 382 | 603 | 744 |
| РКЦ | 12 | 25 | 32 | 11 | 35 | 46 | — | 5 | 9 | 71 | 121 | 136 | 13 | 33 | 51 | — | 2 | 4 | 107 | 221 | 278 |
| Пратэст. | 72 | 118 | 145 | 6 | 10 | 24 | 10 | 24 | 36 | 24 | 24 | 28 | 25 | 47 | 81 | 16 | 20 | 34 | 153 | 243 | 348 |
| Усяго | 232 | 358 | 430 | 60 | 114 | 175 | 54 | 93 | 130 | 171 | 257 | 283 | 87 | 186 | 269 | 38 | 59 | 83 | 642 | 1067 | 1370 |

Пачуўшы слова «развод» Мятлушка аж здрыганулася — яно нібы ўдарыла яе.

— Не, я сур'ёзна пытаюся: дзе твая жонка?

— Дзе, дзе,— незадаволена пачаў бубнець ляснік, а затым, нібыта гэта госць ва ўсім вінаваты, ашчэрыўся на яго: — Ссучылася твая жонка!

Ясень адразу стаў цвярозы — як і не піў нічога. А Мажэй цяжка падняўся з-за стала, пайшоў у кут, дзе стаяла нейкая невялікая скрыначка. Дастаў ключы і, калі пачаў адкрываць яе,— Ясень зразумеў, што гэта не скрыначка, а самы сапраўдны жалезны сейф. І пакуль ляснік адмыкаў дзверцы за дзверцамі — колькі ж іх там было?! — Ясень спрабаваў здагадацца, што ж аднакласнік хавае ў такім сакрэце? Сейф быў амаль парожні — ляснік дастаў адтуль ўсяго толькі невялікі лісток паперы. Вяртаючыся да стала, задумліва расказваў:

— Набыў я неяк у лясніцтве пуцёўкі і паслаў яе з дзецьмі на поўдзень, на курорт. Пабылі яны там, вярнуліся — дзеці загарэлыя, яна задаволеная, шчаслівая. Быццам бы ўсё нармальна. А затым вось гэтае пісьмо. У рыдыкюльчыку яе знайшоў. Адбірала назад, ледзь рукі не павыварочвала... Не аддаў...

Папугай усё яшчэ бегаў па стале, усё крычаў: «Давай вып'ем! Давай вып'ем!», хапаў з рук хлеб, дзяўбаў, што падабалася, з талерак, але на яго цяпер ніхто не звяртаў увагі.

— Дык вось паслухайце, што пісаў ёй гэты спакуснік: «Ларыска-кіска! Я кахаю цябе і ўсё ўспамінаю, як нам было хораша з табою, калі спалі ўжо дзеці...»

Ляснік чытаў пісьмо, не заглядваючы ў паперку, і яны зразумелі, што Мажэй ведае яго на памяць.

— Хопіць! — перапыніў раптам аднакласніка Ясень.— Як табе не сорамна чытаць такія лісты! Чужыя пісьмы. А ты яшчэ ўвесь гэты бруд беражэш за сямю замкамі — як самую вялікую каштоўнасць. Спецыяльна для гэтага сейф купіў...

— Дык гэта ж ого які доказ! — злаваўся ляснік, не разумеючы, у чым яго абвінавачваюць.

— Вар'ят! Ну і вар'ят! Зараз жа спалі пісьмо! Выкінь сейф! — крычаў Ясень.

— Сам ты вар'ят! — гнеўна адказваў яму Мажэй.

— Давай вып'ем! Давай вып'ем! — нібы спрабуючы памірыць іх, гарлапаніў папугай.

— Давай вып'ем! — Ясень паўтарыў словы нязвычнага сабутэльніка і наліў самагонкі ў чаркі.

У імгненне вока папугай ужо быў каля ягонай пасудзіны — мусіць, ён заўсёды адпівае ў тых, хто налівае.

Цяпер ужо лесніка пачала распытваць Мятлушка, якая сядзела да гэтага ціха, маўкліва,— не сказала за ўвесь час ніводнага слова.

— Дык вы развяліся?

— Канечне, развёўся. Навошта яна мне такая,— якая «такая», ён не дагаварыў, але ўсе зразумелі, што ляснік хацеў сказаць.

— А той... спакуснік яе ўзяў? — дапытвалася Мятлушка.

— І таму такая не трэба.

— А дзе ваша жонка цяпер?

— У бальніцы.

— А што з ёй?

— У яе рак. Ёй выразалі грудзі...

— Божа мой! — усклікнула Мятлушка і зноў замоўкла.

— Не будзеце чытаць? — праз нейкі час спытаўся Мажэй і пашуршэў перад імі пісьмом.

— Не! — у адзін голас адказалі яны.

— Як сабе хочаце. А мне чамусьці здавалася, што вам будзе цікава,— расчаравана сказаў ён і, склаўшы паперыну, нехаця пайшоў да сейфа.

Пакуль ляснік бразгатаў там ключамі, лопаў дзверцамі, замыкаючы іх адна за адною, папугай скідваў са стала відэльцы і ўсё крычаў:

— Давай вып'ем! Давай вып'ем!

Калі гаспадар вярнуўся да гасцей, Мятлушка наліла ў чаркі мужчын самагонкі, капнула крыху сабе і прапанавала Мажэю:

— Давайце вып'ем за вашу жонку. За яе здароўе.

— Што-о-о?! — аж пабялеўшы, зароў ляснік.— Я за гэту... за гэту...— словы душылі яго, і ён ніяк не мог выштурхнуць іх з сябе,— за гэту сучку яшчэ і піць буду?!

Мятлушка зірнула на яго, як на дужа хворага чалавека,— не, такі нічога і нікому не даруе. І ўсё ж спакойным, ціхім, звычлівым голасам сказала:

— Вы тут яшчэ пасядзіце, пагаманіце, а я пабягу. А то ж мой прыйдзе з касьбы, есці захоча, а я яму нічога не згатавала...

— Я цябе правяду,— нясмела прапанаваў Ясень.

— Не трэба,— адмовілася яна.— Тут жа недалёка да аўтобуснай — сама дайду.

Мужчыны пасядзелі крыху адны, выпілі яшчэ па чарцы. Мажэй зноў хацеў завесці размову пра здраду жонкі, без жанчыны пачаў лаяць яе з апошніх слоў — божа мой, во якое балючае яно, адзінства любові і нянавісці! — але Ясень спыніў яго і сам пачаў развітвацца...

Цяпер ён быў перакананы, што Мятлушка ніколі не прыляціць на яго пракосы.

Ясень выйшаў з хаты і пайшоў напрамкі, не разбіраючы — куды вочы глядзяць.

Была ўжо восень.

Дрэвы стаялі амаль што голыя — зрэдзь дзе гарэла апошняе жоўтае лісце.

Ён ішоў наўпрост, па нейкіх лугах і палях, па нейкіх узрэччах і пералесках, і нічога не бачыў і нічога не чуў.

Вецер чапляўся да яго, і з ім на пару яму лягчэй было ісці.

Заходзіла сонца, і ўжо халодныя промні амаль паралельна падалі на заражаную зямлю.

Ён ішоў, не выбіраючы шляху, і раптам, нечакана нават для самога сябе спыніўся. Яшчэ не ведаючы, што перапыніла яго цяжкія думкі і не лягчэйшую ад іх хаду, Ясень зірнуў наперад і аж зажмурыўся ад светлаты.

І чорныя, узараныя ўжо на зіму палі перад ім, і цёмна-зялёныя, пакошаныя лугі, кусты, платы і дарогі, кожная травінка і кожны парастак — усё, здаецца, да самага сонца было пакрыта срэбнымі павуцінкамі. Промні высвечвалі іх, яны іскрыліся, асабліва зіхацелі на чорнай зямлі, і таму здавалася, што гэта ніякія не павуцінкі, а карункі самай тонкай і ўмелай работы.

Павучкі ляцелі якраз у той бок, куды ішоў і ён.

За імі цягнуліся даўгія павуцінкі, якія не давалі падарожнікам заўчасна ўпасці на зямлю, і павучкі, трымаючыся за іх, амаль не вяслуючы, плаўна кудысьці плылі і плылі.

Ён спыніўся каля аднаго з іх, спытаўся:

— Куды яны ляцяць?

— Не ведаю.

— А ты куды?

— Куды і ўсе,— тужліва прызнаўся павучок.

Ясень прыладзіўся да гэтага павучынага выраю, выпусціў даўгую-даўгую павуцінку і сам, дробненькі, несамавіты, амаль з макавае зерне, ледзь-ледзь махаючы маленечкімі празрыстымі крыльцамі, якія тут жа з'явіліся ў яго па баках, як роўны між роўных, паляцеў разам з імі, бо і ён таксама не ведаў, куды яму цяпер трэба ляцець.

*Яўхім Фёдаравіч Карскі... Як многа гавораць гэтыя словы таму, хто хоць крыху знаёмы з творчай спадчынай вялікага вучонага, славіста, з гісторыяй заснавання, станаўлення і развіцця беларускай мовазнаўчай навукі і літаратуразнаўства — асобных галін нацыянальнай філалогіі, этнаграфіі, фалькларыстыкі.*

Як вучоны з энцыклапедычнымі пазнаннямі і рэдкім даследніцкім талентам, Я. Ф. Карскі быў шчыра аддадзены прагрэсіўным накірункам у навуцы, заўсёды прытрымліваўся неабвержных фактаў жывых моў і пісьмовых помнікаў, скрупулёзных даных сумежных навук — гісторыі, этнаграфіі, палеаграфіі...

Ён нарадзіўся ў сям'і настаўніка ў вёсцы Лаша, непадалёку ад Гародні. У часы прыгоннага права пазнаў горыч жыццёвых нягод, бязлітасны цяжар сацыяльнай несправядлівасці, матэрыяльных нястач.

Паспяхова закончаны Нежынскі настаўніцкі інстытут (было гэта ў 1885 годзе), і Яўхім Карскі, зусім яшчэ юнаком, пачынае педагагічную дзейнасць. І адразу хлопец звярнуў на сябе ўвагу як вельмі здольны вучоны-лінгвіст. Міне няшмат часу, і ён узнімецца да вяршынь славістычнай навукі, стане магістрам славянскай філалогіі, прафесарам і рэктарам Варшаўскага універсітэта, рэдактарам самага буйнога ў дарэвалюцыйны час літаратурна-лінгвістычнага часопіса «Русский филологический вестник», членам-карэспандэнтам і правадзейным членам Расійскай Акадэміі навук, старшынёй Аддзялення рускай мовы і славеснасці, дырэктарам Музея антрапалогіі і этнаграфіі, членам праўлення і прэзідыума Акадэміі навук СССР, членам Рэдакцыйна-выдавецкага савета, галоўным рэдактарам часопіса «Известия Академии наук СССР»... Аднаго гэтага пераліку званняў і пасад, якія заслужыў і займаў слынны вучоны, наш зямляк, хапіла б на некалькіх асоб.

Цікава, што Яўхім Фёдаравіч Карскі ніколі не быў кабінетным вучоным, а ўвесь час знаходзіўся сярод студэнцкай моладзі, творчай інтэлігенцыі, поруч са знакамітымі людзьмі «мира сего». Ён ні на хвіліну не губляў сувязяў з простым людам, дасканала вывучыў мову свайго народа, яго фальклор, быт, звычаі. Адначасова напружана працаваў у буйнейшых і кнігасховішчах, і бібліятэках Санкт-Пецярбурга, Масквы, Вільні...

А мэта адна і тая ж: вывучэнне моўных і палеаграфічных асаблівасцей найстаражытнейшых пісьмовых помнікаў, фальклорных і этнаграфічных матэрыялаў.

Упершыню ў славянскай філалогіі Карскі стварае цікавыя працы: «Нарыс славянскай кірылаўскай палеаграфіі» і «Узоры славянскага пісьма з X па XVIII стст.» (1901 г.), якія рознабакова раскрылі працэс узнікнення і далейшага развіцця славянскай пісьмовай культуры, уключаючы шматвяковыя дасягненні беларускіх навукоўцаў. Шмат гадоў мінула з часу выхаду ў свет гэтых неардынарных прац, але навуковае значэнне не страчана і сёння, аб чым сведчыць іх перавыданне сучасным афсетным спосабам.

Значны ўклад унесены вучоным у гістарычную славістычную навуку. Ён правёў стараннае даследаванне моўна-палеаграфічных і ўласна лінгвістычных асаблівасцей такіх надзвычай бясцэнных і арыгінальных

Феномен Карскага — вучонага шырокага профілю і ў тым, што ён валодаў фактычна ўсімі славянскімі і многімі неславянскімі мовамі, глыбока вывучаў і даследаваў польскую, чэшскую, сербскахарвацкую, балгарскую, старажытнацаркоўнаславянскую і іншыя мовы, пісаў артыкулы і рэцэнзіі на творы на гэтых мовах. Карскі вядомы таксама як аўтар «Граматыкі царкоўнаславянскай мовы», якая прызначалася для навучэнцаў сярэдніх спецыяльных і вышэйшых навучальных устаноў і вытрымала каля дваццаці выданняў.

Але асаблівую любасць праяўляў вучоны да роднай беларускай мовы, якая, на вялікі жаль, працяглы час не вытрымлівала належнага асвятлення і належнай інтэрпрэтацыі ў творах не толькі замежных, але і айчынных славістаў. Заслугі Я. Ф. Карскага перад беларускай філалогіяй агромністыя: ён прысвяціў ёй фундаментальную трохтомную

праверку наяўных даных пра беларускую мову, удакладніў межы і зоны яе распаўсюджання на пачатак XX стагоддзя і падрыхтаваў такім чынам падмурак для вырашэння навуковых праблем у галіне агульнаславянскай і беларускай філалогіі.

Пільныя назіранні Я. Карскага, змешчаныя ў яго шматлікіх творах па мове старажытнарускіх пісьмовых помнікаў, фальклорных і літаратурных узораў, жывых гаворак вяскоўцаў, адлюстроўваюць гістарычнае развіццё слоўнікавага і лексіка-фразеалагічнага складу беларускай мовы ад старажытнарускай эпохі і да 30-х гадоў XX стагоддзя. Яны датычаць гісторыі станаўлення і развіцця лексічнага запасу беларускай мовы, яго паходжання, вытокаў, крыніц узнікнення. З уласцівай акадэміку далікатнасцю ён вызначыў тэматычныя пласты слоўнікавага фонду беларускай мовы па прыналежнасці да агульнаславянскай, агуль-

# КАРЫФЕЙ СЛАВІСТЫКІ

помнікаў старажытнай эпохі — «Супрасльскі летапіс» (XI ст.), «Мсціслава евангелле» (пачатак XII ст.) і іншых. Разам з тым ягонаму пяру належыць серыя крытыка-бібліяграфічных артыкулаў на славістычныя працы многіх айчынных і зарубежных лінгвістаў.

Новаўвядзеннем у філалагічнай навуцы з'явіліся даследаванні Я. Ф. Карскага па старажытнарускай і рускай літаратурнай мове, якія раскрылі высокую вартасць лепшых твораў класікаў рускай літаратуры, асвятлілі важнейшыя этапы фарміравання і шляхі развіцця граматычных, графіка-арфаграфічных, вымаўленчых і лексічных нормаў. Арыгінальныя працы ў галіне рускай філалогіі, як «Гісторыя рускай мовы» (1913 г.), «Нарыс навуковай распрацоўкі рускай мовы ў межах СССР» (1926 г.), «Руская літаратурная мова», «Да пытання аб рэформе рускай арфаграфіі» (1928 г.) і іншыя — таксама належаць нашаму земляку.

Вялікую ўвагу ўдзяляў Я. Ф. Карскі вывучэнню сінтаксісу старажытнарускіх летапісаў. Шмат каштоўнага ўнесена ім у распрацоўку гісторыі рускай літаратурнай мовы — новай навуковай дысцыпліны, якая знаходзілася на той час у стадыі станаўлення і развіцця. У сваіх шматлікіх творах ён спасылаўся на літаратурную спадчыну М. В. Ламаносава, М. М. Карамзіна, І. А. Крылова, А. С. Грыбаедава, А. С. Пушкіна, М. В. Гогаля, іх ролю ў развіцці рускай літаратурнай мовы, беспамылкова вывучыў месца гэтых людзей на агульным фоне тагачаснага грамадска-палітычнага і культурнага жыцця, у слаўнай кагорце выдатных прадстаўнікоў сусветнай класічнай літаратуры.

Жыва цікавіўся беларускі вучоны гісторыяй украінскай мовы і гістарычным мовазнаўствам і разам з тым крытыкаваў аўтараў некаторых даследаванняў за тэндэнцыйнасць і павярхоўнасць у гісторыі роднаснай мовы, за скажэнне імі агульнавядомых фактаў блізкасці ўкраінскай мовы з іншымі ўсходнеславянскімі мовамі і, у прыватнасці, рускай.

(у шасці кнігах) працу «Беларусь» (1903—1922 гг.). Гэта маштабнае даследаванне — сапраўдная энцыклапедыя беларускага народа, роўнай якой, па агульнаму прызнанню аўтарытэтных вучоных, не мае ні адзін славянскі народ. Тут і грунтоўныя навуковыя звесткі пра пачатковы этап фарміравання беларускага народа і яго мовы, пра кроўныя сувязі беларусаў з іх продкамі — усходнімі славянамі, пра этнічныя адносіны з іншымі братнімі народамі, пра іх бліжэйшых суседзяў — літоўцаў, латышоў, а менавіта з гэтымі мовамі ўзаемадзейнічала і ўзбагачалася наша родная мова.

Той, хто займаецца пытаннямі беларускай лінгвістыкі, літаратуразнаўства, фальклору, этнаграфіі і новай гісторыі, звяртаецца да прац акадэміка Я. Ф. Карскага, ведае: гістарычная канцэпцыя развіцця беларускай мовы ў ягоных даследаваннях будавалася на даных старажытнай пісьменнасці і жывой гутарковай мовы. Сінхронны і рэтраспектыўны падыход да моўных з'яў, зніталваны з дыяхранічным, дазволіў вучонаму прасачыць тыя змены, якія адбыліся ў беларускай мове за працяглы час.

Каштоўныя працы акадэміка ў галіне даследаванняў беларускай народнай мовы. Па сутнасці, ён першы сістэмна і па адзінай, навукова абгрунтаванай праграме абследаваў беларускія гаворкі і стварыў унікальную дыялекталагічную карту Беларусі, што ў значнай меры садзейнічала далейшаму паспяховаму вывучэнню дыялектычных праблем. У мэтах збору фактычнага матэрыялу, праверкі і ўдакладнення даных аб беларускай мове, скалясіў усю Беларусь, наведаў мясціны пагранічных і шэрагу глыбінных беларускіх гаворак. Сотні населеных пунктаў, «забытых людзьмі і богам» вёсак і вёсачак, глухіх закуткаў тагачаснай Расіі, мноства паветаў больш чым у дзесяці губернях, не зважаючы на бездарожжа, наведаў вучоны. Гэтай вандроўкай ён зрабіў генеральную

наўсходнеславянскай альбо ўласна беларускай лексікі, вызначыў лексічныя запазычанасці з іншых моў. Яму належыць прыярытэт у этымалагічных назіраннях над беларускай лексікай, у падрыхтоўцы матэрыялаў для літаратурных слоўнікаў беларускай мовы.

Нямала зроблена працаздольным вучоным па даследаванні беларускай літаратурна-пісьмовай мовы, па вывучэнні моўных асаблівасцей мастацкіх твораў XIX — першай трэці XX стагоддзяў — Рыпінскага, Чачота, Баршчэўскага, творчай дзейнасці Дуніна-Марцінкевіча, Я. Лучыны, Ф. Багушэвіча, М. Багдановіча, Я. Купалы...

Багацце ведаў пра беларускую мову, літаратуру і фальклор наш слынны зямляк зрабіў здабыткам сусветнай славістычнай навукі яшчэ на рубяжы XIX—XX стагоддзяў. І гэта вельмі важна падкрэсліць сёння, амаль праз стагоддзе, калі нашай роднай мове ўрэшце нададзены статус дзяржаўнай.

...Яўхім Фёдаравіч Карскі адышоў ад нас на 71-м годзе жыцця. Ён пакінуў пасля сябе найбагацейшую навуковую спадчыну па многіх галінах навукі, якая ніколі не страціць сваёй навуковай і грамадзянскай каштоўнасці.

**Аркадзь НАРКЕВІЧ,**
**доктар філалагічных навук,**
**прафесар Беларускага**
**дзяржаўнага універсітэта.**

# СКАРЫНА ВЯРТАЕЦЦА Ў ПАДУЮ І ВЕНЕЦЫЮ

С пачатку мы збіраліся ехаць у Італію «шляхам Скарыны» — праз Кракаў, дзе ён вучыўся ў Ягелонскім універсітэце, Прагу, дзе ён у 1517 годзе паклаў пачатак беларускаму кнігадрукаванню, а потым працаваў каралеўскім садоўнікам, і Вену, куды ён, відаць, прыязджаў у складзе пасольства польскага караля. Аднак раптам аказалася, што Аўстрыя ўзняла плату за транзітныя візы, і нам, бедным на валюту, давялося памяняць дарогу на даўжэйшую, але больш танную — праз Славакію, Венгрыю і былую Югаславію.

«Мы — гэта група ў складзе амаль трыццаці чалавек: навукоўцы і пісьменнікі Георгі Галенчанка, Алег Лойка і Вячаслаў Чамярыцкі, скульптар Валеры Янушкевіч, сакратар Беларускай камісіі ЮНЕСКА Зоя Калантай, сябры Таварыства імя Данта Аліг'еры пры Мінскім універсітэце замежных моў перакладчыкі Ніна Аляксеева і Фёдар Міхасенка, журналістка са «Звязды» Алена Ціхановіч, вядомы беларускі спявак Марат Грыгорчык, не менш вядомыя музыканты, лаўрэаты розных конкурсаў з ансамбля «Класік-авангард» ды яшчэ работнікі тэлебачання.

Дзякуючы пасрэдніцтву пасла Італіі ў Беларусі спадара Берцінеці наша прабыванне ў Падуі і Венецыі ўзялі на сябе італьянскія фірмы, банкі і фонды — найперш славутая і ў нас фірма «Сімод» на чале з Паола Сінігалья і фонд Джорджа Чыні. Але даехаць туды трэба было за свой кошт. А паколькі самалёт і цягнік аказаліся «не па зубах», выбралі «Ікарус». Набралі харчоў на дні тры — чатыры. Ды яшчэ, пятляючы, абміналі платныя аўтастрады. Правесці па двое сутак у аўтобусе было, паверце, нялёгка. Але затое якія ўражанні, якія краявіды! Кракаўскі Вавель, які цьмяна ўзвышаўся ў начным паўзмроку. Славацкія Карпаты ў ранішнім вэлюме белых хмарак. Палацы, помнікі і масты Будапешта, адкуль быў родам наш «Ікарус». Свінцовыя хвалі Балатона, акружанага атэлямі і атэлікамі, маляўнічымі харчэўнямі. І, нарэшце, непаўторная Славенія (праз Харватыю нас не пусцілі, бо там усё яшчэ стралялі). Акуратныя цагляныя домікі, акружаныя садамі. Старадаўнія касцёлы са стромкімі квадратнымі вежамі. І надпісы на вуліцах і дарогах, блізкія да беларускіх — толькі лацініцай.

Праехаўшы па серпанціне пасму казачна-заснежаных гор, мы ноччу нечакана апынуліся на славенска-італьянскай граніцы. Італьянскі пагранічнік пачаў прыдзірацца да інструментаў нашых музыкаў ды намякаць на «сувеніры», але даведаўшыся, куды і з чым мы едзем, цалкам задаволіўся гліняным медалём Скарыны. У Італіі, за гарамі, неяк пацішэла, пацяплела. Па-паўднёваму цёмна-сіняе неба неўзабаве пачало святлець, пераліваючыся ўсімі адценнямі ружовага. І з цемры сталі выступаць прыдарожныя таверны, вінаграднікі, а далей — альпійскія адгор'і. На сняданак мы ўжо былі ў чатырохзорачным атэлі «Ля падаванэла», што мы жартаўліва пераклалі «Падуаначка» (Лойку мы адразу ж пачалі ўгаворваць, каб ён напісаў пра гэты атэль верш). Ля парцье нас сустрэў сын уладальніка фірмы, Масіма Сінігалья. Нягледзячы на строгі касцюм, сам дапамагаў нам укласці ў багажнік цяжкую мемарыяльную дошку. І адразу ж запрыязніўшыся, перайшоў на ты з нашым маладым, але ўжо барадатым скульптарам. Потым Масіма Сінігалья, хоць яшчэ і студэнт, праяўляў зайздросныя для нашай моладзі дасведчанасць і рашучасць у самых розных, часам і крытычных сітуацыях (да прыкладу, дастаўшы «з-пад зямлі» раяль для канцэрта, відэакамеру для здымкаў).

Адна з першых такіх крытычных сітуацый узнікла адразу ж пасля нашага прыезду ва універсітэт. Аказалася, што на «ніжэйшым» узроўні нас не дужа чакалі. Дакладней, не дужа ведалі, а што гэтыя беларусы прывязуць (раптам — раней-шы «сацрэалізм»?), а куды гэтую дошку прымацаваць... Сказалі, страхуючыся, што патрэбна згода Міністэрства культуры і яшчэ кагосьці. Прапанавалі проста перадаць дошку «з рук у рукі», а потым, праз які месяц, калі высветліцца, дзе Скарына здаваў тыя экзамены, прымацаваць яе да сцяны. Бо нельга ж, маўляў, гэта зрабіць за адну ноч...

Апошні аргумент лёгка адвёў Валеры Янушкевіч. Ён рашуча заявіў, што гатовы ўсё зрабіць сам, прывёз для гэтага свае інструменты і нават адпаведныя цвікі. Не менш рашуча павёў сябе Пётр Краўчанка, які абвясціў, што, не ўстанавіўшы дошку, мы адсюль не паедзем і што дзеля гэтага ён гатовы зараз жа званіць самому міністру культуры.

І тут, у самы напружаны момант, да нас падышла сівая невялікага росту жанчына. І паклала перад намі на лаўцы, як нешта самае звычайнае, рукапіс XVI стагоддзя, дзе сказана пра экзамен Скарыны. Янушкевіч з пашанай схіліўся над рукапісам, як ён гэтага і заслугоўваў. Я ж, даведаўшыся, што перад намі вядомы гісторык Падуанскага універсітэта Люцыя Расеці, падвёў яе да дошкі, што сіратліва чакала ў кутку вырашэння свайго лёсу, і спытаў:

— Падабаецца?

— Вельмі! — усміхнулася прафесар.

І, ведаючы яе тонкі густ, заўсміхаліся нават скептыкі-апаненты. Узнікла прапанова пайсці да рэктара, прафесара Бонсамб'янтэ. Ён прыняў нас





у сваім, упрыгожаным старадаўнімі палотнамі, кабінеце, уважліва выслухаў усе аргументы за і супраць. І паколькі касцёл святога Урбана, у прыбудове да якога Скарына здаваў экзамены (па беднасці — неўрачыста), да нашага часу не захаваўся, а іншыя памяшканні, звязаныя з нашым першадрукаром, невядомыя, запрапанаваў нам самім выбраць месца для дошкі — хоць у славутай «зале сарака», дзе выкладаў Галілей.

Але... У «зале сарака» Скарына ўжо нас чакаў. Няхай і зусім не падобны да сябе, да свайго аўтапартрэта, відаць, не вядомага італьянскаму мастаку, які ў часы Мусаліні намаляваў вялікага Палачаніна. Партрэт Скарыны — адразу ж над бюстам Галілея, які ўзвышаецца над тагачаснай трыбунай, збітай з няроўных дошак. Злева ад нашага першадрукара — польскі паэт Ян Каханоўскі, справа — «маскавіцкі» лекар Васіль Поснікаў.

— Гэта — як наш гістарычны лёс: быць паміж магутнымі Расіяй і Польшчай і выстаяць,— заўважыў Пётр Краўчанка.

Пасля кароткай дыскусіі пагаджаемся: дошка была б тут недарэчы. І тады зноў ідзём у запрыкмечаны раней праход. Ён вядзе ў прамавугольны двор з вежай, упрыгожанай выявай сонца (ці не адсюль яно трапіла на выдавецкі знак Скарыны?). І хаця ў 1512 годзе, калі сюды «з далёкай поўначы» прыбыў будучы першадрукар, тут была прыватная рэзідэнцыя, хаця яна толькі пазней перайшла універсітэту, усе, нават нашы нядаўнія апаненты, прыйшлі да высновы, што Скарына не мог не бываць у гэтай браме-праходзе 1504 г. (аргументы занялі б цэлую старонку) і што яна — самае зручнае месца для дошкі (пасярэдзіне сцяны нават аказалася не занятая гербамі плошча).

А назаўтра, у кульмінацыйны дзень 20 кастрычніка, усё ішло ўжо суладна. З раніцы — візіт да мэра Падуі, якога зацікавіла пабрацімства з нашым Гомелем, дзе ёсць універсітэт імя Скарыны. Затым рэктар Бонсамб'янтэ і Пётр Краўчанка адсланілі мемарыяльную дошку, да гэтага прыкрытую сцягам правінцыі Венецыя, да якой належыць і Падуя. Пасля прамоў прагучала ўрачыстая мелодыя нясвіжскага кампазітара Я. Д. Голанда ў выкананні «Класік-авангарда» (прысутныя пыталі: «Хто аўтар гэтай чароўнай музыкі?», «Што гэта за ансамбль?»). І неяк зусім натуральна ўслед загучаў гімн італьянскіх студэнтаў, што у суседнім дворыку якраз здавалі экзамены, а цяпер дружна прайшлі ў горад. Гісторыя нечакана перапляталася з рэальнасцю.

А пасля ўрачыстасці перанесліся ў самую вялікую і прыгожую універсітэцкую залу, сцены якой спрэс пакрыты гербамі фундатараў і знакамітых выпускнікоў. Спярша прысутных вітаў рэктар. Затым Пётр Краўчанка прачытаў даклад «Подзвіг Скарыны» (беларускі і італьянскі яго тэксты тут жа раздаваліся слухачам) і, па нашаму звычаю, аперазаў рэктара вышываным ручніком. Прачулую прамову сказаў пасол Берцінеці. І гучала музыка — Голанда, Радзівіла, Ванжуры, малавядомая нават у нас, дзе яна нарадзілася. І гучалі песні ў выкананні Марата Грыгорчыка — беларускія, італьянскія. І тыя, і другія ішлі пад воклічы «бравісіма». Чуваліся словы «бянкаруса Паварoці...»

У той дзень было яшчэ пешае падарожжа па непаўторнай Падуі, у час якога Алег Лойка вышукваў будынкі, што ўжо стаялі ў часы Скарыны. Студэнты, што здавалі днём экзамены, працягвалі сваё свята — спявалі песні, вывешвалі дасціпныя газеты-плакаты, узрывалі петарды, і нам неяк верылася ці хацелася верыць, што гэта — таксама ў гонар іх беларускага папярэдніка... І быў вечарам у «Падуаначцы» банкет з нашым канцэртам, у час якога італьянскія бізнесмены, што наладзілі вечар, двойчы стоячы (а гэта «нячаста бывае») віталі беларускіх артыстаў. А Марата Грыгорчыка Паола Сінігальля абвясціў сваім хроснікам і абяцаў яму аплачваць гастрольныя праезды ў любы горад свету... Калі ж, падумалася, такога мы дачакаемся ад нашых прадпрымальнікаў?!

Назаўтра свята беларускай культуры перамясцілася на семдзесят кіламетраў на ўсход — у Венецыю, дзе Скарына не мог не бываць. Па-першае, тут ужо існавала кірылічнае кнігадрукаванне, быў вопыт, варты пераймання. Па-другое, тут убачыла свет чэшская Біблія, якая — сведчаць даследчыкі — стала для яго ўзорам пры перакладзе. Па-трэцяе, Венецыя мела даўнія сувязі з Полаччынай — іх звязвалі адны і тыя ж традыцыі «вольніцы». Па-чацвёртае... трэба проста глянуць на Венецыю, каб зразумець, што Скарына не мог яе абмінуць, будучы побач. Гэта горад-казка (хоць і нялёгкі для жыцця), дзе палацы вырастаюць проста з вады, дзе хвалі плёскаюцца ў прыступкі ці тэрасы дамоў, а ролю шафёраў выконваюць спрытныя гандальеры.

Адзін з такіх гандальераў, праўда ўзброены не вёсламі, а маторам, прывёз нас на невялікі востраў Сан-Джорджа, у былы кляштар Сан-Джавані, дзе мы сышлі з лодкі прама ў сені палаца, у якім цяпер месціцца фонд Джорджа Чыні — комплекс інстытутаў, якія даследуюць гісторыю мастацтваў, гісторыю горада, узаемадачыненні яго з Усходам, арганізуюць міжнародныя канферэнцыі, выдаюць кнігі, карацей кажучы, займаюцца ўвогуле тым самым, што і наш Нацыянальны навукова-асветны цэнтр імя Ф. Скарыны. Толькі нашы магчымасці не ідуць ні ў якое параўнанне: у Венецыі — раскошныя памяшканні, упрыгожаныя палотнамі славутых мастакоў, багатая бібліятэка, зручна абсталяваныя залы для пасяджэнняў, а за ўсім гэтым стаіць багаты спонсар, у Мінску ж...

Зрэшты, не выпадае і дужа плакацца. У Венецыі, на першай канферэнцыі, прысвечанай беларуска-італьянскаму культурнаму ўзаемадзеянню на працягу вякоў, два яго суарганізатары, Фонд Чыні і Цэнтр імя Ф. Скарыны, выступалі на роўных — кожны бок прадставіў па чатыры даклады. Дзевятым быў «і беларускі, і італьянскі» доктар Анджэй Цеханавецкі з Лондана. «Беларускі» — бо ён нашчадак нашых князёў Мсціслаўскіх і Заслаўскіх, аўтар даследаванняў па гісторыі Беларусі (на гэты раз ён выступаў з дакладам пра «еўрапейскасць», «італьянскасць» Нясвіжа). «Італьянскі» — бо выступаў па-італьянску, бо мае ў Рыме сваю рэзідэнцыю і розныя італьянскія ўзнагароды.

Я не буду тут пераказваць, што гаварылася на канферэнцыі. Праз месяц пасля нашага вяртання прафесар Сантэ Грачыёці, душа канферэнцыі і даўні сябар нашай культуры, паведаміў мне, што Фонд Чыні дасць грошы на выданне дакладаў паралельна беларускай і італьянскай мовамі — значыць, праз які год усе, хто пажадаюць, змогуць іх прачытаць. Адзначу толькі, што адкрыў канферэнцыю генеральны сакратар Фонду Рэнца Зорзі. Удзельнікаў віталі Пётр Краўчанка і Джанлука Берцінеці. Першым жа дакладам быў даклад Алега Лойкі «Скарына ў Падуі». З італьянскага боку хацелася б вылучыць выступленне прафесара Эмануэлы Сгамбаці пра беларускія рыцарскія раманы, заключаныя ў Познанскім кодэксе і генетычна звязаныя з Італіяй. Калі ж гаварыць пра беларусаў, дык сенсацыяй стаў даклад Георгія Галенчанкі, які знайшоў нясвіжскія эскізы славутага італьянскага архітэктара Я. М. Бернардоні. Гаспадары канферэнцыі выказалі гатоўнасць іх выдаць.

Пасля двухдзённых пасяджэнняў была яшчэ незабыўная экскурсія ў Палац дожаў, дзе ўсё ўражвае раскошай і тонкім густам, дзе на карцінах прадстаўлены важнейшыя моманты з венецыянскай гісторыі, а ў падзямеллі, у вытанчаных вязніцах і катоўнях,— яе змрочныя старонкі. Свята і цень тут, у горадзе, пабудаваным на вадзе, вельмі выразныя — і ў мінулым, і ў краявідах, і ў побыце.

Вярталіся мы дамоў тым жа ці амаль тым жа шляхам (бо з заездам у Варшаву) задаволеныя, што дапамаглі ўвекавечанню памяці Францішка Скарыны ў Італіі, на супрацьлеглым канцы Еўропы, дзе беларускага асветніка цяпер будуць больш ведаць і больш памятаць.

Зрэшты, вяртанне Скарыны ў Падую будзе працягвацца. Рэктар Бонсамб'янтэ сказаў, што ва універсітэце гатовы ўстанавіць яшчэ і бюст усходнеславянскага першадрукара: у адной з ніш, побач з бюстамі іншых славутых выпускнікоў, ёсць свабоднае месца...



**Адам МАЛЬДЗІС,**
**прафесар, кіраўнік Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Францішка Скарыны.**

**Фота аўтара.**

## МАРА (МАРНЯ)

Мара — нейкая вялізная жахлівая істота на каротківх лапах, абавязкова чорная, якой дзеці вельмі баяцца. Калі Мара рухаецца, ад яе ідуць металічныя гукі, як аддаленыя ўдары ў чыгунны кацёл. Цяпер Мара — пудзіла з саломы, апранутае ў лахманы.

*Романов, 8, с. 285.*

Марня — нейкі дух ці прывід. Па ўяўленню беларусаў Марня праследуе людзей, якія ўчынілі якое-небудзь зладзейства: для гэтага яна звычайна прымае выгляд таго чалавека, якога праследуе, і, выстаўляючы перад ім яго злачынства, не дае яму нідзе і ніколі спакою, так што той вымушаны аб'явіць пра сваё злачынства перад начальствам... Марня праследуе злачынцаў і пасля іх смерці: прыняўшы выгляд памёршага, яна з'яўляецца ў сне родным яго і не дае ім спакою да таго часу, пакуль яны не раскрыюць злачынствы нябожчыка перад народам. Марня вядома ва ўсёй Беларусі, і, напэўна, паданне пра яе захавалася між беларусамі ў спадчыну ад старажытных славян.

*Древлянский, с. 107—108.*

Мара... юнакоў і дзяўчат душыць у час моцнага сну; ад яе не можа пазбавіцца і хатняя скаціна. Конь, на якім ездзіла Мара ўночы, мае на сваіх баках знакі, зробленыя каароткімі нагамі гэтага страшыдлы. Мара не пойдзе да скаціны, калі ў хляве вывешана забітая сарока; каб аддаліць Мару ад людзей, купляюць, не таргуючыся, новы гладыш; хто хоча ад яе пазбавіцца, злавіўшы на сабе ўночы звярка, кладзе яго ў гэты гладыш ці, запрасіўшы Мару на сняданне, кладзе на парозе накрыж мятлу і сякеру.

*Бобровский, с. 823.*

П. Бобровский. Материалы для географии и статистики России. Гродненская губерния, ч. I, СПБ, 1863.

Мары мучаць сонных, не перапыняючы іх сну. Звычайна Мара садзіцца на грудзі ці горла соннага чалавека і пачынае душыць, прычым, перашкаджаючы чалавеку дыхаць, яна час ад часу адпускае яго, каб нацешыцца яшчэ большымі пакутамі ахвяры пасля перадыху. Ахвяра, імкнучыся выратавацца, падымае руку, каб адагнаць Мару ці перахрысціцца, але тут вёрткая Мара прытрымлівае занесеную руку, прычым рука млее, робячы новыя пакуты. Адзіным сродкам выратавання ад Мары лічыцца згадка, што ўсё гэта адбываецца ў сне, а не наяве, пакутнік прачынаецца — і Мара знікае. Але дадумацца да гэтага могуць толькі пажылыя людзі, да якіх, дарэчы, Мара чапляецца наогул рэдка, хаця б яны спалі нават на спіне (любімая Мараю поза соннага чалавека). Людзі ж маладыя, «з цёпленькай крывёю», да якіх любіць прыставаць Мара, звычайна не дадумваюцца да гэтага сродку і прымушаны падоўгу пераносіць пакуты...

Яна прыстае ў сне пераважна да таго чалавека, які шумна правёў час перад сном і, значыць, цяжка можа разабрацца ва ўражаннях. Мара мяняе сваё аблічча, калі паслядоўна прыстае да адной і той жа асобы. Выгляд Мары вырысоўваецца прыблізна так: яна мае чалавекападобныя формы, ростам з тыднёвае дзіця, з голай скураю ці пакрытая рэдкім кароткім пер'ем, часам шэрсцю, мяккая навобмацак, падае на ахвяру няважка і не адразу, а спадцішка, прычым першае яе дакрананне нават лашчыць. Адступаецца ж Мара ад ахвяры імклівa, пакінуўшы пасля сябе ў соннага анямелыя рукі ці ногі ды вялікі пот на твары і целе.

Мары не баяцца асвечаных прадметаў і крыжоў, і таму свабодна прабіраюцца да соннага чалавека. Ці гінуць Мары і з якой прычыны — застаецца невядомым і дагэтуль.

*Неч., с. 63—64.*

«Калі Мара ўвойдзе, то трэба тую дзірку заткнуць асовым калочкам, каб не выйшла, бо яна іначай не выйдзе нікудэю, толькі як увайшла, каб нават вокны былі паадчыняныя, то ніц не значыць».

«Як Мара на чалавека наляжа, то трэба варушыць мезеным пальцам на правай руцэ, то Мара адляціць».

Некаторы вупыр, званы мясцовымі людзьмі Мараю, з'яўляецца ў выглядзе розных мёртвых прадметаў, напр.: шкілета, труны, шыбеніцы, асмаленага пня, калоды, што тырчыць, як пень, і г. д. Узнікае неспадзявана, стаіць на месцы ці павольна пасоўваецца за ідучым. Мара нічога благога не робіць, але само яе знаходжанне прыгнятае («сэрца нача каты дзяруць, на душы ляжыць пячаль важкім каменем»).

Ходзіць таксама апавяданне з мястэчка Петрыкова, дзе штодня ў летнія месяцы на досвітку паяўлялася Мара ў вобразе тоўстай вертыкальнай калоды, два разы вышэйшай за чалавека, на вельмі кароткіх нагах у форме барсучыных лап. Стоячы нерухома пры ўездзе ў мястэчка, енчыла чалавечым голасам і з усходам сонца знікала. Як яе пазбыліся — невядома, але народ згадвае яе не толькі ў казцы, але і ў размовах, у прыслоўях. Калі хто каму дакучае, кажуць: «Надаеў, як Мара петрыкоўская. Чаго ты прыстаў, як Мара петрыкоўская? Адчапіся ты ад мяне, Мара петрыкоўская».

Pietkiewicz, с. 185.

Мара — ёй прыпісваюць усе начныя душнасці, прывіды і болі, асабліва болі галавы... Не мела яна канкрэтнага вобраза. У залежнасці ад ваколіц змянялася яна ў розных звяроў або птушак. Мара ў расказах выступае ці сама па сабе, ці яна — на паслугах чорта. Паяўляецца ноччу. Непрыкметна праслізгваецца ў хату або гаспадарчыя будынкі. Даволі часта з'яўляецца ў стадоле, асабліва, калі нехта там спіць. І таму так часта і старанна, нават цёплай летняй ноччу замыкалі перад сном у хаце ўсе вокны ды засоўвалі бляху камінoвага праходу. Застромвалі над дзвярамі абораў ліпавыя галінкі, што было формай аховы жывёлы перад Марай. Выгляд ды характар Мары рысуюць паасобныя намёкі, якія захаваліся ў народзе: «выглядаеш, як Мара» — у адрас раскудлачанай дзяўчыны, ці «Прычапіўся, як Мара» — пра чалавека нахабнага і прычэплівага...

У ваколіцах Драгічына бачылі Мару на кані. Калі яе злавілі, пачала яна прымаць аблічча ўсялякіх звяроў і ў пэўным момaнце змянілася ў каня. Чалавек, доўга не думаючы, узяў ды падкаваў яго. Вярнуўшыся дамоў, убачыў ён, што ў іх у хаце ёсць нейкая жанчына з акрываўленымі рукамі. Прыгледзеўся ён да іх, а там падковы.

*Шаховіч, с. 132.*

## МАРОВАЯ ПАННА

Маровую панну ўяўлялі жанчынай у чорнай хустцы. Лічылі, што яна прыносіць мор. Каб засцерагчыся ад павальнай хваробы, увасабленнем якой была Маровая панна, дзяўчаты праводзілі вакол вёскі баразну. Іх суправаджалі старыя жанчыны з косамі, скавародамі, каб шумам, трэскам, крыкам адпужаць Маровую панну.

*ЭБ, с. 309.*

## МАРЭНА

Радаўніца называецца «наўскі вялікдзень». У гэты дзень яшчэ і цяпер дзе-нідзе топяць куль саломы, прыбраны за бабу, у першай за вёскай лужыне, разумеючы, што гэта топяць саму Марэну — смерць, каторая разам з маразамі панавала ўсю зімку над зямлёй і людзьмі; цяпер ужо скончылася яе панаванне, цяпер ужо прыйшла закліканая Ладава дачка, Лёля, каб панаваць над светам.

*Наша ніва, 1910, с. 257.*

## НАЧНІЦА

«Катора кабета ніколі не мела дзіцяці праз сваё шальмоўства, або яе людзі праклялі, то такая па смерці ходзіць Начніцаю: не дае дзецям спаць, шчыпле іх, дакучае, а дзіця ўсё плача ды плача ўсю ноч».

«Начніца дае ссаць з сваіх грудзей, а ў яе цыцках не малако, а атрута, то і дзіця праз тое хварэе, мэнчыцца, а як не дагадаюцца чым лячыць, то і ўмірае...»

«Начніцы, як толькі ноч настане, то лазяць па гнёздах птушыных, выпіваюць яйка і ядзяць птушанятка».

Fed., с. 76—77.

«Як Начніца пералезе пад калубелю, або ў калубель улезе, то дзіця плача па начах».

Fed., с. 217.

«Калі Начніца да дзіцяці падпадзе, то трэба з брудных хустаў нарабіць лялек, папастаўляць на кожным акне па дзве-тры і сказаць: «Глядзіце, лялечкі, каб мой маленькі спаў!» — то і Начніцы мінуцца».

Fed., с. 270.

Уладзімір ПАЎЛАЎ



# ТРЫЯЛЕТЫ

### Журавы

*Над мінскай тэлевышкай журавы,*
*Высока пралятаючы, курлычуць.*
*Суродзічаў нібыта ў вырай клічуць*
*Над мінскай тэлевышкай журавы.*
*А дзе той мох, што птушкі*
*ў гнёзды клычаць,*
*Балотны рай іх з купін і травы?*
*Над мінскай тэлевышкай журавы,*
*Высока пралятаючы, курлычуць.*

### Шкадоба

*Як бэз зацвіў, і сёлета не бачыў.*
*Не бачыў, як чаромха адцвіла.*
*Паставіў бы букет сярод стала —*
*Як бэз зацвіў, і сёлета не бачыў.*
*Не пазнаю — да ганьбы! — паўсяла.*
*Зусім не знаю подлетак юначы.*
*Як бэз зацвіў, і сёлета не бачыў.*
*Не бачыў, як чаромха адцвіла.*

### Лес

*Пайду, развітаюся з лесам.*
*Скажу майму лесу бывай.*
*Ад'еду ў нядальні я край —*
*Пайду, развітаюся з лесам.*
*Жывому крычым: «Выжывай!»,*
*Шукаючы ўсюды прагрэсу.*
*Пайду, развітаюся з лесам.*
*Скажу майму лесу бывай.*

### Прадчуванне

*Жыву прадчуваннем бяды*
*Сабе і любімаму краю.*
*Хоць міру і шчасця жадаю,*
*Жыву прадчуваннем бяды.*
*Яна — не адзін гэта знаю! —*
*Запомніла к нам пахады.*
*Жыву прадчуваннем бяды*
*Сабе і любімаму краю.*

### Няўдзячнасць

*За гутай Купалы, за вёскай Залессе*
*Хлапцы Каліноўскага мужныя спяць.*
*Пра волю, што выбілі з рук у іх,*
*сняць*
*За гутай Купалы, за вёскай Залессе.*
*Сякераю трэба кустоўе расцяць,*
*Тады да магілы іх можна далезці.*
*За гутай Купалы, за вёскай Залессе*
*Хлапцы Каліноўскага мужныя спяць.*

### Туман

*Калі туман па поплаве блудзіў,*
*Аброснелі падсохлыя пракосы.*
*Падвялым сенам пахлі твае косы,*
*Калі туман па поплаве блудзіў.*
*З тае пары абагаўляю крозы*
*І па-юнацку летуценю дзіў.*
*Калі туман па поплаве блудзіў,*
*Аброснелі падсохлыя пракосы.*

### Позірк

*Асенняе неба ў вачах*
*І позірк, у даль скіраваны.*
*Я бачу на картачцы ў мамы*
*Асенняе неба ў вачах.*
*Ці буду і я такі самы,*
*Як стане з касой ля пляча —*
*Асенняе неба ў вачах*
*І позірк, у даль скіраваны?*

### Дарога

*Дарогу, што к храму вядзе,*
*Далёка не кожны спытае.*
*Далёка не кожны і знае*
*Дарогу, што к храму вядзе.*
*Вось праўда людская святая:*
*Пакуль не адбыцца бядзе,*
*Дарогу, што к храму вядзе,*
*Далёка не кожны спытае.*

### Вера

*Я веру ў твае сілы, мой народ!*
*Ты варты лепшай, шчаслівейшай долі,*
*Чым у знядбанай горкае куколі.*
*Я веру ў твае сілы, мой народ!*
*Хоць першы зброі ты не браў ніколі,*
*Але правучваў неаднойчы зброд.*
*Я веру ў твае сілы, мой народ!*
*Ты варты лепшай, шчаслівейшай долі.*

### Кара

*Здалёку гнюсіць гнус і пагражае*
*карай,*
*Што дыванком яму пад ногі не ляглі.*
*Калі бярэцца лад на нашае зямлі,*
*Здалёку гнюсіць гнус і пагражае*
*карай.*
*Двудушныя, на жаль, і дома век былі.*
*Уссесці на гарба — жаданая іх мара.*
*Здалёку гнюсіць гнус і пагражае*
*карай,*
*Што дыванком яму пад ногі не ляглі.*

### Адчуйце

*Адчуйце волі смак —*
*Ужо ідзе дыктатар.*
*Адзеньць рэспіратар —*
*Адчуйце волі смак.*
*Ен зробіцца, як трактар,*
*Пакуль яшчэ слімак.*
*Адчуйце волі смак —*
*Ужо ідзе дыктатар.*

### Талент

*Талент талента не любіць,*
*Нібы кот ката.*
*Між людзьмі сарамата:*
*Талент талента не любіць.*
*Можа ўскрыкнуць немата,*
*Як сабрат сабрата чубіць.*
*Талент талента не любіць,*
*Нібы кот ката.*

### Зямля

*Таму, хто ў суседа зямлю захапіў,*
*Адліся крывёю, слязіна чужая.*
*Апошняю стань, баразна межавая,*
*Таму, хто ў суседа зямлю захапіў.*
*Няхай ён сваё з-пад сябе спажывае,*
*Не ганіць таго, што я потам скрапіў.*
*Таму, хто ў суседа зямлю захапіў,*
*Адліся крывёю, слязіна чужая.*

З ПАЭТЫЧНАЙ ПОШТЫ

Інеса ТАРАСАВА

### Вандроўка

*Першы прыцемак летняй ночы.*
*Бар. Кавярня. ДК. Вакзал.*
*Ліхтары расплюшчваюць вочы —*
*Назіральнікі — хтось сказаў.*

*Яшчэ зоркі няма ніводнай.*
*Вокны свецяцца дзе-нідзе.*
*Доўгі цень, на цябе падобны,*
*Неадчэпна за мной ідзе.*

### Эцюд

*Прамень крадзецца да фіранак,*
*Панура бляклых уначы.*
*І у блакітны весні ранак*
*Знікае месяц, як каханак,*
*Не вінаваты ані ў чым.*



*Імя Кастуся Мерляка добра вядомае беларускаму замежжу, найперш, дзякуючы шматгадоваму чыннаму ўдзелу ў грамадска-палітычным і царкоўным жыцці эміграцыі. Сёння ён узначальвае Беларуска-Амерыканскае аб'яднанне ў Нью-Ёрку і царкоўную ўправу прыхода святога Кірылы Тураўскага ў Рычманд Гіле. Летась спадар Кастусь на чале дэлегацыі свайго прыхода ўдзельнічаў у святкаванні 1000-годдзя хрысціянства ў Беларусі, быў прыняты старшынёй Вярхоўнага Савета РБ Станіславам Шушкевічам.*
*Якраз напярэдадні доўгачаканага прыезду на Бацькаўшчыну ў ЗША выйшла кніга ўспамінаў К. Мерляка, якая ахоплівае ўсё ягонае жыццё — ад прыходу на свет у 1919 годзе ў вёсцы Дзетамля паблізу Навагрудка да апошніх падзей на эміграцыі, звязаных з нацыянальным адраджэннем у Беларусі. Адметнасць гэтай кнігі ў даволі рэдкім для мемуарыстыкі літаратурным прыёме: аўтар піша пра сябе ў трэцяй асобе, што, на ягоную думку, робіць аповед больш аб'ектыўным і шматмерным. Увазе чытачоў прапануецца фрагмент успамінаў, дзе расказваецца, як Кастусь Мерляк ажыццяўляе ў 1944 годзе свой план пераходу да амерыканцаў.*
*Тэкст друкуецца з захаваннем правапісу аўтара.*

*Уладзімір* АРЛОЎ.

**Кастусь МЕРЛЯК**

# ІТАЛІЯ

## ВЭРОНА

У прыгожы восеньскі сонечны дзень, па абедзе, Кастусь выйшаў са станцыі пэрона на пляц, які быў запоўнены людзьмі. Пляц нагадваў Навагрaдзкі базар, дзе адны прадавалі, а другія куплялі, пры гэтым голасна таргаваліся на незразумелай мове.

Першы раз Кастусь пабачыў вінаград, купіў сабе поўкілаграма й адразу зьеў. Далей узяў павозку, паказаў адрас, дадзены яму ў Вене, і паехаў на сваё прызначэньне. Раптам павозка затрымалася і павозчык паказаў пальцам на прыгожую вільлю, кажучы: «Кві». Пасажыр разьлічыўся і ўвайшоў у прыёмную, якая была прыцьмененая заслонамі ад сонца. У прыёмную зараз-ж ўвайшоў у нямецкай форме сяржант з мужчынамі ў цывільнай вопратцы. Ён прадставіўся як Гэр Вольф ды прадставіў па імёнах прысутных, якія аказаліся беларусамі. Гэтыя людзі й памаглі Кастусю ўлякавацца.

Праз тры дні новыя знаёмыя паказвалі Кастусю горад, які аказаўся незачэпленым да гэтага часу вайною. Старажытны горад жыў нармальным жыцьцём: былі адчыненыя крамы, рэстараны, кінатэатры. Усюды поўна людзей, перамешаных з вайскоўцамі ў італьянскіх ці нямецкіх мундзірах. Тут напаткаліся на чарнакашульнікаў (гэта былі фашысцкія фармацыі «Дэль дучэ» Мусаліні).

28 верасьня Гэр Вольф забраў Кастуся й разам паехалі да Гарда. Мястэчка Гарда быў адпачынковым рэсортам, разьмешчаным над возерам Гарда. Гэр Вольф улякаваў Кастуся ў гатэлі, пазнаёміў зь італьянкай і сказаў: «Гэта сеньёра Бянка твая настаўніца італьянскай мовы да часу, пакуль я не прыеду па цябе». На працягу двух тыдняў Кастусь вучыўся гутарыць па-італьянску, наведваў наваколльe возера Гарда й мястэчка Гардона на другім баку возера, дзе ў той час была рэзыдэнцыя Мусаліні, да якой блізка нікога не дапускалі.

У палове кастрычніка прыехаў сяржант Вольф, забраў Кастуся й разам паехалі ў горад Парма. У вільлі каля Парма сяржант Вольф прадставіў Кастуся др. Шміту, які быў у цывільнай вопратцы, зараз-жа разьвітаўся й паехаў. Кастуся ўлякавалі ў пакоі на першым паверсе, паказалі сталоўку й парадзілі ісьці адпачываць, а назаўтра прыйсьці у кабінэт др. Шміта а 8-й раніцы.

Раніцой др. Шміт у мундзіры з рангай маёра ветліва прыняў Кастуся, пазнаёміўся зь ім бліжэй, паставіўшы некалькі пытанняў пэрсанальнага характару. Далей прыступіў да справы, паясьняючы, што мы (гэта значыць ён і Кастусь) належаць да «Абвэру». «Вы будзеце перакінуты на той бок фронту з даручэньнем пранікнуць у рады арміі генэрала Андэрса, а перадусім у дывізыю «Белавежа», якая пераважна складаецца зь беларусаў. Там будзеце нагаварваць беларусаў, каб яны пераходзілі з зброяй на нямецкі бок. Яны будуць далучаныя да існуючых беларускіх фармацыяў у Нямеччыне, каб разам змагацца за належнае месца для Беларусі ў новай Эўропе. На працягу наступных двух тыдняў вы будзеце падрыхтованы да выкананьня даручэньня маімі інструктарамі. Гэта было-б ўсё. Аўвідэрзэйн».

Выйшаўшы з кабінэту др. Шміта, Кастусь падумаў сам сабе: «Вельмі добра. Буду ўсё вывучаць, каб толькі папасці да амэрыканцаў».

## Конрад МАЦКЕВІЧ

На працягу двух тыдняў было зроблена наступнае: імя Кастуся зьменена на ймя й прозьвішча Конрад Мацкевіч, які па нацыянальнасьці паляк, каталік, народжаны ў Навагрaдку, вывезены ў Нямеччыну на працу ў 1942 годзе. Працаваў на фэрме каля Вроцлава, уцёк ды перайшоў фронт з мэтай далучыцца да войска генэрала Андэрса, каб змагацца супраць немцаў за Бацькаўшчыну.

Два тыдні былі выкарыстаныя на інтэнсыўную падрыхтоўку для выкананьня даручэньня, як практычна так й ідэялягічна. Практычна: як захоўвацца пасярод цывільных і вайсковых, каб пазьбегчы арышту, як арыентавацца ў полі, у лесе й горадзе, каб пытаньнямі ня выклікаць падазрэньня. Інфармавалі аб структуры Польскае арміі, аб існуючых парадках. Вучылі, як распазнаваць афіцэрскія й падафіцэрскія рангі, вышуківаць «сваіх» людзей ды асьцярожна распачынаць нагаварваньне, каб пераходзілі на другі бок, індывідуальна або групова.

Для большага пераканання былі паданыя меркаваньні, што Нямеччына выйграе вайну, бо на гэта мае сакрэтную зброю, што ў прышлай Эўропе Беларусь будзе займаць пачэснае месца.

Перад ад'ездам немцы ўручылі ўсе патрэбныя дакумэнты й адзеньне, якое павінен мець працаўнік арганізацыі ТОДД. Далі заплечнік, ў які ўлажылі хлеба, масла, бутэльку каньяку, неабходныя першай патрэбы рэчы ну й грошы (італьянскіх лiраў каля паўмільёна, трохі нямецкіх марак і польскіх злотых). Два вайсковыя інструктары й Конрад селі ў самаход і паехалі ў кірунку фронту.

30 кастрычніка 1944 года самаход з двума нямецкімі вайсковымі інструктарамі й Конрадам затрымаўся ў невялікім лясочку, на абочнай дарозе, перад вялікай гарою. «Адгэтуль вы пойдзеце праз гэтую гару на той бок. Там стаяць амэрыканцы»,— сказаў старшы інструктар. Ён выняў карту, каб дакладна з'арыентавацца ў тэрэне. Паводзячы пальцам па карце, гаварыў: «Мы падвядзём Вас да дарожкі, якая вядзе на той бок гары, дзе разьмяшчаецца мястэчка Масса. Там стаяць Альянцкія* войскі. Направа з гары зможаце ўбачыць Лігурыянскае мора». Паўтарыў інструкцыю, як пераходзіць фронт назад, і падаў гасла «файдэ» з засьцярогай, каб не забыўся. Конрад разьвітаўся з адным інструктарам, а другі давёў яго да сьцяжынкі, сказаў: «Аўвідэрзэйн»,— завярнуўся й пайшоў да самаходу. У гэтым месцы не было відаць і чуваць жывое душы, вакол была небывалая цішыня, нягледзячы на тое, што гэта была франтавая зона.

Конрад трохі пастаяў, глянуў на гадзіньнік (была трэцяя гадзіна папоўдні) і рушыў наперад, марматнуўшы пад нос: «З Богам, Параска».

* Саюзніцкія.

Конрад ішоў не сьпяшаючыся. На змроку прыйшоў туды, дзе сьцяжынка разыходзілася й аб чым не было ўспаміну. Дык у які бок ісьці? Адказу не было, і ён узяў ўлева. Прайшоўшы пару кіламэтраў, заўважыў у лесе будову ў форме хаткі. Прыблізіўся й убачыў, што гэта была сапраўды хатка з прычыненымі дзьвярыма. На кліч: «Гэй, гэй»,— ніхто не адказаў. Дзеля таго, што ўжо было вельмі цёмна й ісьці далей было немагчыма, Конрад пастанавіў тут пераначаваць. Увайшоў у сярэдзіну, павярнуў у бліжэйшы кут, тупаючы нагамі сьцвердзіў, што лісьце сухое, дык разьмясьціўся на начлег. Назаўтра Конрад раненька прачнуўся, ужо было бачна. Заглянуў у другі пакой, там ляжалі два забітыя мужчыны ў цывільным адзеньні. Кастусь схапіў заплечнік ды даў драла. Зараз-жа сьцяжынка скончылася й Конрад зразумеў, што йшоў ня той дарогай. Вярнуўся назад і пайшоў направа. Ідучы, думаў, што забітыя дзьве асобы, напэўна, былі італьянскімі партызанамі, якіх забілі немцы. Ен-жа праспаў ноч у іх таварыстве. Ідучы, дастаў з заплечніка кавалак хлеба й каўбасы зь няведамага мяса ды пачаў есьці.

Пад палудзень Конрад заўважыў, што пачаў спускацца з гары. Навокал цішыня й ні душы. Нарэшце, заўважыў некалькі жанчынаў, якія зьбіралі каштаны, выдаваючы, што яны яго ня бачаць. «Гэта малаважна, што не глядзяць, але я на правільнай дарозе»,— падумаў Кастусь.

Пад вечар наблізіўся да мястэчка Масса. Пры ўваходзе на вуліцы заўважыў міліцыянера (карабінерэ) й накіраваўся да яго. Міліцыянт заўважыў чужога чалавека й рушыў насустрач. Конрад прывітаўся і спытаў: «Дзе ёсьць тутака амэрыканцы?» Міліцыянер гэта зразумеў і сказаў: «Я завяду». Па дарозе стаў пытацца, хто й што, ды паказаўся вельмі ветлівым. Тут Конрад пабачыў у мундзірах амэрыканцаў. Перайшоўшы пару нядоўгіх вуліц, перад адным з выдатнейшых дамоў міліцыянер крыкнуў: «Аванті», адступіў назад, налажыўшы штых на вінтоўку й паказаў дзьверы, куды йсьці.

Увайшоўшы ў сярэдзіну, Конрад убачыў, што за вялікім сталом сядзелі два амэрыканскія афіцэры, якія адрозьніваліся вопраткай ад тых на вуліцы. Міліцыянер зьвярнуўся да гэтых афіцэраў і па-італьянску сказаў: "Я злавіў «эспіёнэ» й прывёў яго вам».

Амэрыканец адправіў міліцыянера, папытаўся Конрада, на якой мове можна паразумецца, на што быў адказ: «На польскай і нямецкай». Амэрыканец паказаў другі пакой і сказаў чакаць. Конрад выкарыстаў гэты час, каб перакусіць і падумаць, што ён ім будзе гаварыць.

Каля 7-й вечарам прыйшоў амэрыканец і па-польску папытаўся: «Як ты называешся й ці маеш зброю?» Адказ быў: «Конрад Мацкевіч, зброі ня маю».

«Вазьмі заплечнік і ідзі за мною». Конрад пайшоў у другі пакой, добра абсталяваны, дзе сядзелі 4-х амэрыканскіх афіцэраў, і прысеў да аднаго, які гаварыў па-польску. Як аказалася пазьней, адзін зь іх ведаў нямецкую мову. Сказалі дастаць усё зь кішэні й заплечніка й пакласьці на стол. Амэрыканцы ўсё дакладна перагледзелі й пачалі допыт. Амэрыканец, які ведаў польскую мову, перакладаў пытаньні ў польскай мове, а на пытаньні на нямецкай Конрад адказваў па-нямецку. У асноўным, Конрад сказаў тое, што ён працаваў на гаспадарцы каля гораду Брэсляў. Там адзін немец, які гутарыў па-польску, заангажаваў яго перайсьці фронт і пранікнуць да польскае арміі. Гэта была нагода, зь якое Конрад скарыстаў, каб хутка вызваліцца ад немцаў і цяжкое працы на гаспадарцы. Канчаючы сваю «споведзь», Конрад запэўніў, што ён ніколі не зьбіраўся рабіць тое, чаго вымагалі яд яго немцы. Амэрыканцы забралі ўсе дакумэнты, грошы й каньяк, а той, што гаварыў па-польску, забраў польскія грошы, дадаўшы, што гэта на памяць. Зьвярнулі Конраду толькі заплечнік з прадуктамі.

Гэты-ж польскі амэрыканец завёў яго ў пакой пераначаваць. Доўга Конрад думаў пра тое, што ён зьмяніў у сваёй гісторыі, каб не прыйшлося забыцца. Моцна ён дзівіўся, што гэтыя амэрыканцы жавалі ўвесь час.

Назаўтра, 2-га лістапада 1944 году раніцою амэрыканец пасадзіў каля сябе Конрада на джып і яны паехалі. Ехалі цэлы дзень, пад вечар уехалі ў горад Флярэнцыя. Пад'ехалі да вялікае брамы, якая сама адчынілася, й ўехалі на двор астрогу. Гэты астрог італьянцы называлі «Муратэ». Пасьля фармальнасьці: здачы й прыняцьця вязьня — вартавы завёў Конрада ў камеру № 245. Але перад тым узяў з заплечніка булку хлеба, ад якое адрэзаў большую палову й адразу пачаў есьці.

У камэры сядзелі тры вязьні. Зь іх дваіх былі засуджаныя на кару сьмерці й чакалі на подпіс фэдмаршала Аляксандра. Трэці вязень быў італьянскім памешчыкам, які чакаў на прысуд за зьдзекі над ангельскімі палоннымі, якія працавалі ў ягоным фальварку. Цэлы тыдзень Конрад сядзеў у таварыстве гэтых вязьняў, якія ня прыносілі добрага настрою. Да таго ім ніхто не цікавіўся. Гэта моцна турбавала.

Нарэшце, Конрада выклікалі й прывялі ў будынак адміністрацыі, у якім, на яго зьдзіўленьне, чакалі два энкавэдысты ў шапках з чырвонымі аколушкамі. Яны пачалі дапытвацца па-расейску, але Конрад сказаў, што ён не разумее, й запатрабаваў польскага перакладчыка. Энкавэдысты паглядзелі адзін на аднаго й сказалі, што гэта: «Но руссо»,— і пайшлі, а вязьня адвялі назад у камэру.

Цераз два дні Конрада ізноў выклікалі й павезьлі ў другі будынак у горадзе, дзе над дзьвярыма вісеў ангельскі сьцяг.

У пакоі гэтага будынку спаткалі яго два мужчыны ў ангельскіх мундзірах нявядомай рангі, з нашыўкамі на рукавах «Палестына». Яны абодва добра гаварылі па-польску. Конрад адразу зразумеў, што амэрыканцы яго перадалі ў рукі ангельцаў для правядзеньня дакладнага сьледзтва. Загадалі распранууцца дагала й стоячага дапытвалі. Па нейкім часе сказалі апранууцца й сесьці. Кастусь мусіў расказаць гісторыю свайго жыцьця, што было нялёгка, бо яна была моцна зьмененай. На працягу наступных трох дзён ён мусіў упэўніваць, што ён паляк і каталік. Па некалькі разоў паўтараў «Здровас Марыя», «Ойчэ наш» і «Вежэ в Бога Ойца». Усялякімі спосабамі стараліся злавіць на няпраўдзе, але ім гэта не ўдалося.

Пасьля сьледства Конрада пасадзілі ў другую камэру, дзе сядзелі два італьянскія пілёты Сэрафіні й Пэтронэльлі, якім родныя прыносілі пачкі з харчамі. Яны дзяліліся ежаю з Конрадам, бо ў астрозе давалі толькі сто грамаў хлеба й кубак супу, які складаўся з гарачае вады й бураковага лісьця.

29-га лістапада 1944 году загадалі Конраду забраць з сабою ўсе рэчы й выходзіць. Ангельскія жаўнеры заладавалі прыблізна трыццаць вязьняў, выдалі ім прадукты, сказаўшы, што гэта на два дні, й рушылі ў дарогу. Конрад быў так выгаладаваны, што ўсё зьеў адразу, нічога не пакідаючы на наступныя два дні.

Гэтым разам падарожжа было на поўдзень, з затрымкамі трывала два дні. 2-га снежня 1944 году прыбылі ў лягер інтэрнаваных ў горадзе Тэрні, 90 кіламэтрах на поўнач ад Рыму. Гэтага дня загадалі новапрыбыўшым распранууцца. Праз некаторы час прынесьлі ім назад іхняе адзеньне, якое было абсыпанае парашком ДДТ. Запрасілі пэрсанальныя дадзеныя, далі № 742, які, сказалі, заўсёды насіць на руцэ, ды завялі на трэці паверх аднаго з будынкаў, дзе мясьціліся выключна чужынцы «странеры». Інтэрнаваныя італьянцы мясьціліся на другіх паверхах і ў іншых будынках.

## ЛЯГЕР ІНТЭРНАВАНЫХ

Лягер інтэрнаваных у Тэрні займаў вялікую фабрыку натуральнай і сынтэтычнай гумы, якая калісьці памяшчалася ў некалькіх чатырохпавярховых будынках.

Камэндантам лягеру быў стары маёр-ангелец. Лягер ахоўвалі таксама ангельцы. А жаўнеры польскае арміі дастаўлялі прадукты й усё патрэбнае для гаспадаркі, утрыманьня вялікага лягеру.

У лягеру было больш за 1000 вязьняў мужчынаў і 300 жанчынаў (памешчаных у асобным блёку). Зьняволеныя былі падзеленыя на групы: чужынцаў, італьянцаў старэйшых (ня толькі векам, але й сваёю рангаю або становішчам) ды італьянцаў малодшых, якія мелі абавязак трымаць парадак унутры лягеру. Вонкавы парадак трымалі вольныя італьянцы, якім плацілі заработную плату.

Гэты лягер быў зборным пунктам абвінавачаных альбо падазроных цывільных і вайсковых людзей антыальянскай дзейнасьці на час іхняга дасьледваньня, якое пачалося толькі па заканчэньні вайны.

У групе чужынцаў былі амаль усе нацыянальнасьці з усяго сьвету, пачынаючы ад міністраў, амбасадараў, консулаў, пасцоў, навукоўцаў, прафэсараў розных унівэрсытэтаў, розных палітычных кіраўнікоў, разьведчыкаў, дэсантаў, палітыкаў-нацыяналістаў, прапагандыстаў, сяброў усіх сакрэтных службаў, шмат ўсякіх іншых прафэсыяў і тых, зь якімі сьледчыя ня ведалі, што рабіць.

Італьянскі кантынгэнт пераважна складаўся з фашыстаў і нямецкіх калябарантаў усіх слаёў грамадзкага жыцьця: пачынаючы ад жонкі Мусаліні, а канчаючы звычайным працаўнікам.

Цэлы тыдзень заняло Конраду трохі ад'есьціся, бо кармілі добра (нават лішнія сухары выменьвалі на віно ў італьянцаў). У гэтым-жа часе трэба было азнаёміцца зь людзьмі, унутраным парадкам, а таксама задумацца над сваёй уласнай сытуацыяй.

Перадусім Конрад дайшоў да высновы, што для яго вайна скончылася з пэўнай дозай шчасьця, бо далейшая эпапэя магла скончыцца трагічна. Як доўга ён будзе сядзець у лягеры, было невядома, але да канца вайны напэўна, далей час і абставіны пакажуць, як трэба дзейнічаць. А пакуль што неабходна выкарыстаць час, каб падрыхтавацца да жыцьця пасьля заканчэньня вайны ў невядомай краіне, пажадана ў Амэрыцы.

Парадак дня, на першых пачатках, укладаўся так: раніцаю гімнастыка, перад абедам лекцыі італьянскай мовы, па абедзе — ангельскай мовы, вечарам культурныя заняткі.

У лягеры знаходзілася Ватыканская бібліятэка пад кіраўніцтвам Франьцішкана Габрыеля, былі спэцыяльныя лягерныя грошы, лягерная газэтка, мастацкія гурткі. Тут чыталіся на розныя тэмы рэфэраты, праводзіліся дыскусьі па палітычных, філёзафічных й гістарычных тэмах. Шмат часу прысьвячалася прароцтву, як будзе выглядаць сьвет пасьля вайны.

Вось толькі некалькі спэцыфічных фрагмэнтаў з культурнай дзейнасьці лягеру.

Прафэсар унівэрсітэту Піза з памяці прадэклямаваў «Дывіна камэдыя» Дантэ, што заняло яму два тыдні. Гэнэральны консул ў Амэрыцы Гіслінг прачытаў 14 лекцыяў пра ЗША. Прыяцель М. Ганды расказваў пра Індыю ды яе імкненьне да незалежнасьці. Асабліва былі

цікавымі бясконцыя аповяды пра ваенныя разьведкі, спэцыяльныя выправы, сабатажы, падкопы пад штабы на франтах і г. д., або шахматныя спаборніцтвы, дзе Конрад перамог чэмпіёна горада Флярэнцыя (пасьля таго Конрад ніколі ня выйграў нават адной партыі, так той мсьціўся за свой пройгрыш). Аднаго разу запрапанавалі Конраду зрабіць рэфэрат на тэму «Жанчына ў Савецкім Саюзе». Ён згадзіўся й прачытаў яго ў жаночым блёку. Пасьля рэфэрату пазнаёміўся зь беларускай Вольгай Раманавай з Магілёўшчыны ды з адной украінкай Надзяй Х. У гэтым лягеры быў беларус Анатоль Грынкевіч з-пад Баранавіч, які апынуўся ў такіх-жа самых абставінах як і Конрад (ён прыбыў у лягер на месяц пазьней).

Да Вольгі Раманавай меў сымпатыю сяржант Віхлер, які працаваў у лягернай канцылярыі. Конрад папрасіў Вольгу паўзьдзейнічаць на сяржанта, каб ён даў магчымасьць пабачыць Конрадавую справу. Незадоўга адной нядзелі сяржант Віхлер выклікаў Конрада ў канцылярыю й паказаў яму ягоную справу. У папцы нічога не было акрамя загаду (ордэру) затрымаць Конрада Мацкевіча ў лягеры інтэрнаваных да далейшага распараджэньня. Дакумэнт быў невыразна падпісаны нейкім маёрам. Выглядала, што тыя сьледчыя палякі ў Флярэнцыі забралі з сабою ў штаб усе паперы, зьвязаныя зь ягонай справай.

Вольга Раманава была пазьней звольненая зь лягеру. Сяржант Віхлер заапекаваўся ею, уладзіўшы яе ў Рыме. Вольга выйшла за яго замуж і жыве зараз у Англіі. Украінка Надзея Х. была звольненая зь лягеру й была выслана дадому на яе ўласнае жаданьне.

У лягер прывозілі людзей усё менш і менш, а вывозілі ўсё больш і больш. Конрад меў нагоду пазнаёміцца з былым міністрам вонкавых справаў Вэнгрыі (потым ён быў выдадзены й асуджаны на сьмерць у Будапэшце), зь міністрам гандлю Харватыі Вранчыцам, які быў таксама выдадзены, але па дарозе яму ўдалося ўцякчы. (Пазьней ён апынуўся ў Аргентыне, і Кастусь супрацоўнічаў зь ім падчас свайго знаходжаньня там). [...]

У сьвеце адбываліся вялікія падзеі: 8-га травеня 1945 году капітуляцыя Нямеччыны, 26 чэрвеня арганізацыя ў Сан Францыско Аб'едназаных Нацыяў. З 17 ліпеня й да 2 жніўня адбывалася славутая канфэрэнцыя ў Подздаме, бяз Рузвэльта (той памёр) і Чэрчыля (прайграў выбары), якая прынесла многа няшчасьця на многія годы для ўсёй Усходняй і Цэнтральнай Эўропы. 20 лістапада 1945 году распачаўся суд над ваеннымі праступнікамі ў Нюрэнбэргу.

Жыхароў у лягеры пачало зьменшывацца: адных выдавалі ўладам іхняга паходжаньня, якія праводзілі над імі расправы, нямногіх, асабліва італьянцаў, выпускалі на волю або перадавалі мясцовым уладам пад суд. [...]

Конрад за ўвесь час прачытаў незьлічоную колькасьць кнігаў, апанаваў добра італьянскаю, ангельскаю й нядрэнна французскаю мовамі. Надыходзіла восень, яму стала нудна й нецярпліва, дакуль ён тут будзе сядзець? У адказ пастанавіў уцячы зь лягеру. Прыдбаў нелегальна цывільную вопратку, меў трохі сабраных грошаў і быў гатовы да ўцёкаў. Дамовіўся з жаўнерамі-палякамі, якія дастаўлялі прадукты для лягеру, што яго вывязуць з пустымі бочкамі за лягер пры першай добрай нагодзе. Але здарылася іначай. Ангельцы прыгатавалі новы лягер з боку аднаго ваеннапалонных лягероў і пачалі ўсё туды перавозіць. Загадалі ўсім сабрацца й падрыхтавацца ісьці пяхотаю ў новы лягер, пра які ніхто нічога да гэтага часу ня ведаў. Конраду гэта не спадабалася, ён заявіў, што на раньняшняй гімнастыцы зьвіхнуў нагу й ня можа йсьці. Такім чынам, яго далучылі да іншых, якія былі сапраўды хворымі. Усіх іх перавезьлі на грузавіку.

Прыехаўшы ў новы лягер, калегі Конрада сказалі, што ўжо 4-х італьянцаў уцякло праз дзірку ў плоце. Конрад пабег па цывільную вопратку. Аднак было запозна — ангельскія жаўнеры ўжо закрывалі калючым дротам тое месца, праз якое ўцяклі італьянцы. Заставалася толькі ўцякаць праз верх калючага дроту.

Вартавыя былі пастаўленыя з двох працілеглых бакоў, бо бок, дзе лягер прымыкаў да агароджы лягеру ваеннапалонных, ня трэба было наглядаць. Такім чынам, заставаўся толькі адзін бок на ўцёкі. Наглядчыкі Конрада сачылі за вартавымі, і як толькі тыя зыйшліся, г. зн. абодвы ў адзін час завярнуліся йсьці паволі ў кірунку другога лягеру, далі сыгнал уцякаць.

Конрад хутка ўзьлез на верх калючага дроту й пачаў пералазіць на другі бок на перачэпцы з калючага дроту, перабіраючы рукамі па калючках са спушчанымі нагамі ўніз. Нажаль, калоша зачапілася за калючку й не давала пасоўвацца другога боку. Гэта заняло некалькі хвілін часу, каб вызваліць нагу ды зь цяжкасьцю падняцца наверх агароджы другога боку. У гэтым часе яшчэ 3-х італьянцаў перабраліся на той бок праз верх агароджы. Вартавыя тым часам вярнуліся назад, заўважылі суматоху й далі алярм *. Конрад пабачыў, што ўжо няма куды сьпяшацца, скочыў проста ў вінаграднік. Італьянцы пачалі ўцякаць, перабягаючы рады вінаграду, што дало варце магчымасьць іх бачыць. Яны пачалі страляць у гору й крычаць: «Стоп! Стоп!» Нарэшце, ім удалося злавіць 2-х італьянскіх уцекачоў. Конрад прысеў пад вінаграднік і, калі ўжо ўсё прыціхла, узяў вядро ад італьянца й разам зь імі пачаў зьбіраць вінаград. Вартавыя не заўважылі яго, бо ён быў у цывільнай вопратцы. Набраўшы з паўвядра вінаграду, папытаўся ў гаспадара, дзе ягоная хата, каб пакінуць вядро зь вінаградам. Той паказаў пальцам і з злосьцю сказаў: «Віа фашыста». Конрад узяў вядро й паволі пайшоў у кірунку хаты, паставіў вядро каля дзьвярэй і накіраваўся йсьці да мястэчка ў адлегласьці 14 кіламэтраў. У гэтым мястэчку жыла жонка журналіста, прыяцеля Конрада В. Куэрэль. Ён быў выпушчаны зь лягеру шмат раней і зь ім было дамоўлена, што пры патрэбе Конрад можа скарыстаць яго дом, куды ён і накіраваўся. Незадоўга ўбачыў чалавека зь вядром вінаграду, у якім пазнаў аднаго з уцекачоў з лягеру. Італьянец моцна пакалечыўся, пералазячы праз калючую загародку. Конрад парадзіў пакінуць вядро, бо яны ўжо далёка адыйшлі ад лягеру, і завёў яго ў адну хату пры дарозе. Там той абмыўся з крыві, і яму перавязалі раны. Падзякаваўшы за зробленую паслугу, рушылі ў дарогу. [...]

Ужо добра сьцямнела, калі яны ўвайшлі ў мястэчка па прызначэньню. Італьянцы сядзелі каля хатаў упоцёмках, асьвятленьня яшчэ ня было, пілі віно й моцна гаманілі. Трэба было знайсьці вуліцу й дом уцёмку, што было немагчымым, бо людзі, у якіх яны пыталіся, маглі-б зьвярнуць увагу на чужынцаў ды падказаць міліцыі. Конрад пастанавіў знайсьці касьцёл і там дастаць інфармацыю. Скіраваўся ў цэнтр гораду. Хутка натрапілі на касьцёл, адчынілі брамку й зайшлі ў касьцёльны дом. Ксёндз, убачыўшы двух незнаёмых, моцна спалохаўся. Конрад яго супакоіў, запэўніўшы яго, што яму няма ніякае небясьпекі, перапрасіў яго за клопат, яму створаны, й сказаў, што будзе яму ўдзячны, калі ён завядзе іх да дому, падаючы адрас на картцы. Ксёндз паглядзеў на картку, усьміхнуўся й сказаў: «Хадзіцё за мною». Прайшоўшы некалькі вуліц, ксёндз пагрукаў у дзьверы. Жанчына выйшла й затрымалася. Ксёндз сказаў: «Выбачайце, але гэта не мая віна. Гэтыя дзьве асобы папрасілі мяне, каб я паказаў ваш дом».

— Я Конрад Мацкевіч, ваш адрас даў мне Вітторэ Куэрэль.

— А, сёнёр Конрадо, калі ласка, у хату, мой муж пра вас мне гаварыў.

Сям'я Куэрэль прыняла Конрада й яго спадарожніка вельмі гасьцінна й дала начлег. На жаль, Вітторэ ня быў дома, жонка сказала, што ён знаходзіцца ў Рыме і яны мяркуюць таксама туды ўсе перабрацца.

Назаўтра сёнэра Куэрэль купіла ім два білеты на аўтобус да чыгуначнай станцыі. На станцыі яны купілі два білеты да Рыму. Правёўшы вольны час у парку, пад вечар яны ўлякаваліся ў вагоне й пачалі драмаць.

8-га кастрычніка 1946 года Конрад і яго спадарожнік прыбылі ў Рым, на станцыю Тэрмпні.

На станцыі ў Рыме спадарожнік Конрада патэлефанаваў сваёй маці, якая, не чакаючы доўга, прыбыла й спаткалася з сынам. Яна зьвярнула грошы Конраду, якія ён расходаваў на яе сына, й дамовілася, што яна адвязе Конрада туды, дзе ён мае затрымацца. Тады сама паедзе з сынам недзе да знаёмых, каб міліцыя яго не знайшла.

Граф Аляксандр Вронскі-Карачы ўлякаваў Конрада ў пямешканьні свае цёткі, якая была яшчэ на адпачынку ў Сыцыліі. Памешканьне знаходзілася над берагам ракі Тыбэр у прыгожай часьці горада й складалася зь дзевяці пакояў. Прыяцель Конрада прадставіў яго супэрінтэндэнту дому як сёнэра Канстанціно Мерляка, сваяка з Польшчы. А дзеля таго, што ён выязджае за які месяц у Амэрыку, дык яго ня трэба мэльдаваць у міліцыі. Першым даручэньнем было дакумэнтальна пераіменаваць Конрада Мацкевіча на Канстанціно Мерляка, якое ўзяў на сябе Вронскі-Карачы. Адыходзячы, ён сказаў: «Карыстайся усім, што табе патрэбна».

Аляксандр Вронскі-Карачы меў шырокае знаёмства ў Рыме й цесныя сувязі з Ватыканам. Ён быў жанаты із сьпявачкай і кінаактрысай, якая выступала пад псэўданімам «Дэды Монтана». Адзін з найслаўнейшых яе фільмаў называўся «Удваіх цярпець лягчэй».

На другі дзень Аляксандр прынёс купоны на бясплатнае сталаваньне ў Ватыканскай сталоўцы, якая была створаная й добра абсталяваная для замежных уцекачоў, пакрыўджаных вайною. Адыходзячы, Аляксандр зьвярнуў увагу, што купоны выпісаныя для Канстанціно Мерляк. Усьміхаючыся, ён дадаў, каб больш прозьвішча Кастусь ніколі не мяняў. Праз два дні Аляксандр прынёс адрас духоўнай сэмінарыі «Русікум» і сказаў, што там ёсьць беларускія сьвятары, якія могуць памагчы зрабіць адпаведныя дакумэнты. Кастусь, не губляючы часу, паехаў у «Русікум» і там знайшоў айца Льва Гарошку. Айцец Леў Гарошка выслухаў гісторыю Кастуся, паставіў некалькі пытаньняў, каб праверыць яго праўдзівасьць, і сказаў, што ён зробіць усё магчымае, каб палагодзіць справу дакумэнтаў. Сказаў, каб Кастусь назаўтра прыехаў да яго ў «Русікум».

Айцец Леў Гарошка й Кастусь назаўтра паехалі на «Віа Корсіка» ў Дом Марыянаў, дзе знаходзіўся айцец Чэслаў Сіповіч. Супэр'ёр Дому Марыянаў выдаў Канстанціно Мерляк адпаведнае пасьведчаньне з датаю 27 кастрычніка 1946 году. Гэтае пасьведчаньне й рэкамэндацыя Ватыканскай камісіі дапамогі пад № 1800, выдадзеныя 30 кастрычніка, памаглі Кастусю атрымаць 5 лістапада 1946 г. пашпарт Чырвонага крыжа ў Рыме пад № 1662. Такім чынам, гэтага дня закончылася эпапея Конрада Мацкевіча, а Кастусь Мерляк распачаў новы этап свайго жыцьця.

**АД РЭДАКЦЫІ.**

**Ганарар за гэтую публікацыю аўтар пералічвае на рахунак Беларускага народнага фронту.**

* Трывога.

# АКЦЫЯ

## ЧАСОПІСА «БЕЛАРУСЬ»

### УВАГА, ШАНОЎНАЕ СПАДАРСТВА!

**ЗАПРАШАЕМ НА «БІЗНЕС-КАНГРЭС-93» З УДЗЕЛАМ ПРАДСТАЎНІКОЎ ДЗЕЛАВЫХ КОЛАЎ СУСВЕТНАЙ БЕЛАРУСКАЙ ДЫЯСПАРЫ.**

Шмат нашых суайчыннікаў выказалі жаданне займець кантакты з дзелавымі людзьмі — бізнесменамі, камерсантамі, менеджэрамі, брокерамі з усіх кантынентаў, і наш часопіс дае згоду дапамагчы ім у гэтым, узяць на сябе ролю арганізатара і каардынатара «Бізнес-кангрэса».

Мы гатовы супрацоўнічаць з усімі — у імя садружнасці і ўзаемаразумення паміж дзелавымі коламі Рэспублікі Беларусь і дзелавымі коламі беларускай дыяспары ў блізкім і далёкім замежжы.

**НАША ПРАПАНОВА — ПРАВЕСЦІ «БІЗНЕС-КАНГРЭС» У МАІ 1993 ГОДА Ў ГОРАДЗЕ МІНСКУ.**

Сардэчна запрашаем на Беларусь усіх, хто зацікаўлены ў знаёмстве і дзелавых партнёрскіх кантактах з канцэрнамі, фірмамі, заводамі, вытворчымі аб'яднаннямі і камерцыйнымі прадпрыемствамі Рэспублікі Беларусь.

*Калі вы прымаеце наша запрашэнне, паведаміце па пошце або тэлефануйце.*

*Наш адрас: 220005, Рэспубліка Беларусь, г. Мінск, вул. Захарава, 19, тэл. 33-20-01, 33-02-29, часопіс «Беларусь».*

**ЧАКАЕМ ВАШЫХ ВОДГУКАЎ, ШАНОЎНЫЯ СПАДАРЫ!**

***Рэдакцыйны савет часопіса «Беларусь».***

P.S. У наступным нумары мы паведамім састаў Аргкамітэта «Бізнес-кангрэса-93», а таксама імёны фундатараў, якія возьмуць на сябе выдаткі на правядзенне гэтай акцыі.

**У чарговым нумары каталога «ЕЎРА-ІНДУСТРЫЯ 1993» сярод вядучых фірм кантынента годна прадстаўлен і Смаргонскі завод аптычнага станкабудавання.**

Debrett's
EURO-INDUSTRY
1993



... ЗАВОД АПТЫЧНАГА СТАНКАБУДАВАННЯ Ў СМАРГОНІ — АДЗІНАЯ ФІРМА Ў СНД, ЯКАЯ ВЫРАБЛЯЕ АБСТАЛЯВАННЕ ДЛЯ АПТЫЧНАЙ ПРАМЫСЛОВАСЦІ...

...OR NATURE: ...WITH BUSINESS ...OR THE EARTH



WWF

СЗОС



The plant for optical machine-building in Sm... is the only company in the CIS producing eq... for optical processing. We now offer our... choice of 60 products.
We can provide you with the ... ment and technology for the ... glass and semi-precious stones ... to polishing equipment. We al... ionised ... any prod... in the ele... industrie... nology an... rative ce... with ther... pation with magn... oration: surface doping ... ions on blades, machine elem... ties: gold coating. We also have vac... used in spectacle optics; in the production of narrow band interfe... ters, cold light mirrors, heat-protective filters, diamond and diamond to... optical film. Finally, we can also you suction pumps and scavenge modules... Our factory produces small-size wood processing equipment, table based drilling machines, lathe-drilling and milling mod... ules.



All of these products and know-how are offered at



(Глядзіце 3-ю старонку вокладкі)

**КАЛОНКА З ПРАЦЯГАМ**

## ЯК КОШКІ ПРАГНАЗІРУЮЦЬ НАДВОР'Е



Выкрадальнікі.
Фота Віктара ЖЫЛІНА.



# Апошні вагон

У Францыі многія рыбакі і іх радня з вялікай павагай ставяцца да «братоў сваіх меншых» — кошак. Рыбакі ўпэўнены:

— калі кошка мыецца і чэша лапкай за вухам, то справа ідзе да дажджу;

— калі яна чысціць нос, чакай узмацнення ветру або буры;

— калі зрэнкі ў кошкі моцна пашыраюцца, на моры наступае прыліў;

— калі кошкі кладуцца на зямлю і пачынаюць круціцца «ваўчком», надвор'е вось-вось палепшыцца...

Існуе шмат іншых «кашачых прыкмет».

У кнізе «Псіхічныя здольнасці жывёл» Біл Шул распавядае пра прыгоды ката місіс Робінсан са штата Аклахома. Калі набліжаўся сонечны цудоўны дзянёк, кот па мянушцы Феликс звычайна адпачываў на падаконніку. Калі ж наперадзе была непагадзь, ён уладкоўваўся на старым куфэрку. Паводле ўспамінаў гаспадыні, Фелікс ніколі не памыляўся ў сваіх «прагнозах», чаго не скажаш пра... «высокааплатных метэаролагаў з тэлескрынкі».

Канадскі фермер прыгадаў неяк, што яго кошка не толькі прадказвала набліжэнне тарнада, але і дакладна ведала, якія будынкі будуць разбураны ўраганам. А маці чатырох кацянят зрабіла вось што: пачала пераносіць малых у свіран, які стаяў паблізу дома. Фермер прыкмеціў, як знікла адно кацяня, на наступны дзень — другое, потым — трэцяе. Неўзабаве знікла ўся кашачая сямейка... Надышла ноч,наляцеў шалёны ўраган тарнада і ўшчэнт разбурыў свіран фермера. А кошка з кацянятамі тым часам спакойна адпачывала... на суседняй ферме за некалькі міль ад фазэнды свайго гаспадара.

У тую ноч тарнада абмінуў фазэнду фермера...

## КРЫЖАВАНКА



**Па гарызанталі:**

5. Вайсковае прывітанне ружэйнымі або артылерыйскімі залпамі. 6. Група людзей, якая пасылаецца для разведкі. 9. Адзін з арганізатараў і кіраўнікоў партызанскага руху на Беларусі ў Айчынную вайну. 10. Захоп чужой тэрыторыі ваеннай сілай. 11. Салдацкі шлем. 13. Распараджэнне вайсковага начальніка. 15. Калегіяльны орган. 19. Сукупнасць сродкаў працы. 20. Воінскае званне. 21. Разрад, падраздзяленне. 23. Сукупнасць сродкаў, накіраваных на забеспячэнне краіны, народу ад нападу ворагаў. 25. Ледакол рускага Арктычнага флоту. 27. Герой аповесці Я. Коласа. 30. Момант узлёту ракеты. 31. Палкаводзец, герой грамадзянскай вайны. 32. Указальная прылада. 33. Узброеная ахова. 34. Імклівы напад войск на ворага.

**Па вертыкалі:**

1. Вайсковы строй. 2. Месца размяшчэння военачальніка. 3. Аповесць В. Быкава. 4. Вялікае вайсковае злучэнне. 7. Герой грамадзянскай вайны. 8. Форменнае паліто. 12. Памяшканне для размяшчэння вайсковых часцей. 14. Воінскае званне. 16. Агнястрэльная зброя. 17. Спецыяльная вайсковая група. 18. Генерал-маёр авіяцыі, двойчы Герой Савецкага Саюза. 22. Вышэйшае воінскае званне. 24. Халодная зброя марскіх афіцэраў. 26. Адзін з арганізатараў партызанскага руху на Украіне, двойчы Герой Савецкага Саюза. 28. Чалавек вялікай фізічнай сілы. 29. Выбуховае рэчыва. 30. Вузкая лясная дарожка.

Склаў Мікалай **КУРЫЛЬЧЫК**.

**АДКАЗЫ НА КРЫЖАВАНКУ, ЗМЕШЧАНУЮ Ў № 1.**



**ШАХ ЯГО ВЯЛІКАСЦІ**

# ПАЛОВУ КАРАЛЕЎСТВА ЗА КАНЯ?



Конь чорнай масці, якога вы бачыце на дыяграме на полі f2, сапраўды варты паловы каралеўства. І яго вялікасць белы кароль, бадай, першы, хто гэта ўцяміў. Але ж яго, белага караля, ужо загналі ў кут, які яму, пэўна ж, нямілы...

Як здарылася такое?

Вернемся да пачатковай пазіцыі і... расцугляем каня чорнай масці: «Гуляй!»

1. e4 e5 2. Kf3 Kc6 3. Cb5 a6 4. Ca4 Cc5 5. 0-0 Kf6 6. c3 Ca7 7. Ле1 Kg4 8. d4 ed 9. cd K:d4 10. K:d4 Фh4 11. Kf3 Ф:f2+ 12. Kph1 Фg1+ 13. K:g1 Kf2 X. Мат.

Скачок каня такі прыгожы, што сапраўды варты паловы каралеўства...

# МІФ АБ КАХАННІ?

Мы прывыклі гаварыць: міф аб дружбе народаў, якім трымалася таталітарная імперыя, абваліўся... Але палітыка палітыкай, а было ж яшчэ звычайнае жыццё і шчырыя чалавечыя пачуцці.

Друкуючы сёння статыстычную даведку (даныя перапісу 1989 г. аб «змешаных шлюбах») аб так званых «змешаных» сем'ях, хочам спытаць: больш за 12 мільёнаў рознанацыянальных шлюбаў гэта што — міф аб каханні?

| | Колькасць сем'яў у тыс. | У працэнтах да ўсіх сем'яў | |
|---|---|---|---|
| | | сем'і, дзе ўсе члены сям'і належаць да адной нацыянальнасці | сем'і, дзе члены сям'і належаць да розных нацыянальнасцей |
| СССР | 73 078 | 82,5 | 17,5 |
| РСФСР | 40 246 | 85,3 | 14,7 |
| Украіна | 14 057 | 74,7 | 25,3 |
| Беларусь | 2796 | 75,4 | 24,6 |
| Узбекістан | 3415 | 87,3 | 12,7 |
| Казахстан | 3824 | 76,1 | 23,9 |
| Грузія | 1244 | 87,8 | 12,2 |
| Азербайджан | 1381 | 92,1 | 7,9 |
| Літва | 1000 | 87,2 | 12,8 |
| Малдавія | 1144 | 75,4 | 24,6 |
| Латвія | 732 | 72,5 | 27,5 |
| Кіргізія | 856 | 83,5 | 16,5 |
| Таджыкістан | 799 | 85,2 | 14,8 |
| Арменія | 559 | 96,2 | 3,8 |
| Туркменія | 598 | 86,7 | 13,3 |
| Эстонія | 427 | 82,7 | 17,3 |

Паводле даных апошніх перапісаў насельніцтва СССР, колькасць нацыянальна змешаных сем'яў пастаянна павялічвалася:

| 1970 г. | 1979 г. | 1989 г. |
|---|---|---|
| 7919 тыс. | 9877 тыс. | 12807 тыс. |
| 13,5 % | 14,9 % | 17,5 % |

Склаў **В. ІОНЦАЎ**, кандыдат эканамічных навук.

**КАЛОНКА З ПРАЦЯГАМ**



# БУЛЬБУ ВАРЫМ, БУЛЬБУ СМАЖЫМ...

Здавён вядома: багатае на бульбу беларускае поле. Багаты на яе і стол беларуса, будзь то сняданак, абед ці вячэра. У рупнай, увішнай гаспадынькі «бульбяное меню» заўсёды будзе разнастайным. Сто дзён — сто розных страў з бульбы. Якіх? Сачыце за публікацыямі «Апошняга вагона» — і вы атрымаеце адказ на гэтае пытанне.

Пачнём з салатаў.

**САЛАТА «ЗІМНЯЯ». Бульбу і моркву адварыць, парэзаць дробнымі скрылькамі. Дадаць зялёны гарошак, дробна насечаныя салёныя агуркі, кансерваваны салодкі перац, рэпчатую цыбулю. Салату перамяшаць, дадаць соль, паліць смятанай альбо маянэзам.**

*(4 бульбіны, 2 агуркі, 1 цыбуліна, 100 г. салодка.. кансерваванага перцу, 1 морква, 150 г. зялёнага гарошку, 1 шклянка смятаны, соль).*

**САЛАТА З РЭДЗЬКАЙ. Адварыць бульбу ў лупіне, абчысціць яе і размяць, дадаўшы дробна насечаную рэпчатую цыбулю. Рэдзьку абчысціць, прамыць і нацерці на тарцы, змяшаць з бульбай і цыбуляй. Падрыхтаваную салату пасаліць па густу і заправіць алеем.**

*(5 бульбін, 1 рэдзька, 1 цыбуліна, 4 ст. лыжкі масла, соль).*

**САЛАТА З ГАРЧЫЦАЙ. Бульбу зварыць у лупіне, ахаладзіць, абчысціць і парэзаць скрылькамі, змяшаць з дробна насечанай рэпчатай цыбуляй. Дадаць перац, сталовую гарчыцу, алей, воцат. Салату перамяшаць, упрыгожыць маслінамі і скрылькамі варанага яйка.**

*(5 бульбін, 1 цыбуліна, 1 ч. лыжачка трохпрацэнтнага воцату, 2 ст. лыжкі масла, 3 ст. лыжкі гарчыцы, 50 г. маслін, 1 яйка, перац, соль).*

# ГЭТА Ж ТРЭБА...

Гадоў дваццаць таму шасціразовы чэмпіён СССР, харкаўскі гросмайстар Зіновій Цырык, які на працягу пяці сезонаў не меў паражэнняў, прайграў партыю. Ды яшчэ як — усяго за восем ходаў (!?). А перамог яго малавядомы на той час кандыдат у майстры Барыс Шастакоў. Вернемся да гэтай (з чэмпіяната Украіны) партыі. 1. c3—d4 h6—g5 2. g3—h4 b6—a5 3. d4—c5 d6:b4 4. a3:c5 c7—b6 5. c5—d6 e7:c5 6. e3—d4 c5:e3 7. d2:h6 f6—e5 8. b2—a3? Зрабіўшы гэты ход, Шастакоў адышоўся ад століка. Раптам ён убачыў, што гросмайстар крануў шашку b8. Іншага выйсця ў шашкі b8 не было, як пайсці на поле c7.



**Ход белых.**

Наблізіўшыся да століка, Шастакоў убачыў, што шашка стаіць на тым жа месцы. Паклікаў суддзю і запатрабаваў ходу менавіта гэтай шашкай. Гросмайстар пагадзіўся: «Так, я кранаў шашку b8, але, як патрабуе правіла, сказаў папярэдне: «папраўляю». Магу спаслацца на двух аматараў, якія ўвесь час сачылі за партыяй...» Славутаму гросмайстру яўна не пашанцавала. Абодва назіральнікі не пацвердзілі яго словы, бо аказаліся... глуханямымі. Цырык здаўся: у белых была элементарная камбінацыя 9. a3—b4 10. e1—d2 і 11. h2:b8.

**НА ЗЛОМ ГАЛАВЫ**






# КУДЫ ПРЫВЯЛІ СЛЯДЫ НА СНЕЗЕ

Вось такі адказ на задачу, апублікаваную ў дзесятым выпуску «Апошняга вагона».

# РОДЗІЧЫ

Ганна, Алена, Вера, Барыс і Кастусь — члены адной сям'і. Чацвёра з іх паведамілі наступнае.

1. Барыс — брат майго бацькі.
2. Алена — мая цешча.
3. Кастусь — брат майго зяця.
4. Ганна — жонка майго брата.

Кожны з тых, хто названы ў гэтых паведамленнях (па імені альбо па ступені сваяцтва), з'яўляецца адным з пяці членаў сям'і.

Вызначыце, каму належыць кожнае з выказванняў, у якіх сваяцкіх адносінах знаходзяцца пяць членаў сям'і.



13

# НЕ СПАЗНЯЙСЯ, ПОЕЗД СПРАВЯДЛІВАСЦІ!

У такім кароткім слове, як гэтае, цяжка сказаць нешта важкае пра чалавека, якога даўно ведаеш, глыбока паважаеш: і за душэўныя якасці, і за тое, чым ён праявіўся ў сваёй літаратурнай творчасці, у грамадскай дзейнасці. Анатоль Вярцінскі, як і кожны, на каго, як кажуць, глянула божае вока,— асоба таленавітая, рознабаковая, шматгранная. А таму пазначым толькі некалькі штрыхоў да партрэта, якія напісаны і пішацца далей крытыкамі, літаратуразнаўцамі, сябрамі і, перш за ўсё,— ім самім.

А пачаць хачу з ягоных радкоў:

«Я з тых пасажыраў,  
хто ў асаблівасці  
чакае той поезд,  
поезд справядлівасці.  
Хто ім проста трызніць,  
для каго ён — шчасце.  
Хто сябе гатовы  
шпалаю пакласці  
пад поезд жаданы —  
абы толькі йшоў ён,  
абы явай быў ён,  
не марай дзяшовай...»

Непрымірымасць да любой крыўды, хлусні, прага справядлівасці і праўды, вера ў перамогу дабра над злом — гэта не толькі асноўныя рысы паэзіі А. Вярцінскага, але і ягонага чалавечага характару. Праз усё жыццё ён настойліва даводзіць свае гуманістычныя высновы, сваё разуменне, свае ідэалы людскога быцця. І найпершае, што трэба рабіць у гэтым жыцці чалавеку,— любіць. Толькі любоў можа захаваць нас на зямлі і адкрыць новыя далягляды існасці: «Што значыць зямное шчасце здабыць? Любіць.»

Любоў для Анатоля Вярцінскага — катэгорыя не абстрактная. Адчуваючы і веліч, і безабароннасць жыцця ў наш неспакойны час, ён хоча надзяліць сваёю ласкаю і ўвагаю кожнага, хто мае ў гэтым патрэбу, бо сам зведаў шмат бяды. Праз ягонае маленства пракацілася апошняя страшная, крывавая вайна. Нездарма, знаходзячыся ў ЗША на трыццаць другой сесіі Генеральнай Асамблеі ААН, ён запісаў у сваім дзённіку: «Ноччу зноў будзіла трывожна сірэна, нагадваючы то выццё самалёта ў вайну, то крык спуджанай птушкі, то дзіцячы плач...»

Але жыццё — гэта не толькі клопаты і трывогі. Яно, часам, дорыць і гумарыстычныя сітуацыі, жарты, смех. Успамінаю, як з вясёлымі іскрынкамі ў вачах Анатоль Ільіч расказваў пра беларускіх дыпламатаў, з якімі пазнаёміўся ў час той жа паездкі ў Амерыку: «Так ужо стараюцца гаварыць па-руску, але, як цеста з дзяжы, калі падыходзіць, выплываюць у гамонцы нашыя беларускія унікальныя «ч» і «г», «дз» і «ў». Нават у нашага земляка Андрэя Андрэевіча Грамыкі, які даўно пакінуў Беларусь. Ад роднай зямлі нікуды не дзенешся».

Пры сустрэчы, у гаворцы з добрымі, мудрымі, шчырымі людзьмі заўсёды ёсць месца гумару. Неаднойчы мне даводзілася быць разам з Вярцінскім у гасцях у народнага паэта Беларусі Пімена Емяльянавіча Панчанкі. Не толькі мудрасць ягоных слоў, але і заўсёдны дасціпны жарт, вострае слоўца зараджаюць душу аптымізмам, светлым настроем. Добра адчувае сябе тут і Анатоль Ільіч, шчодрачыся вясёлымі прыпамінамі, цікавымі згадкамі. І мне заўсёды ля іх утульна і хораша.

Анатоль Вярцінскі многае робіць сёння як паэт, публіцыст, драматург, як народны дэпутат для адраджэння Бацькаўшчыны. Яго непакоіць, якою будзе наша зямля, якімі вырастуць новыя пакаленні беларусаў. Ён верыць у будучыню Беларусі, свайго народа, бо бачыць, што з сівой мінуўшчыны выступаюць слаўныя постаці духоўных бацькоў нацыі, якія сурова, строга, але з надзеяй глядзяць на нас, як імчыць на дапамогу Пагоня, каб не зняверыліся, каб адчулі, нарэшце, сябе сапраўдным народам...

І я радуюся, што ў асобе Анатоля Вярцінскага часопіс «Беларусь» мае добрага сябра, мудрага дарадцу.

Сяргей ЗАКОННІКАЎ,  
лаўрэат  
Дзяржаўнай  
прэміі  
Рэспублікі Беларусь.




БЕЛАРУСЬ

ПУБЛІЦЫСТЫЧНЫ  
І ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ  
ІЛЮСТРАВАНЫ ШТОМЕСЯЧНІК

ВЫДАЕЦЦА  
СА СТУДЗЕНЯ  
1930 ГОДА

№ 2 (650)  
ЛЮТЫ 1993




НА ПЕРШАЙ СТАРОНЦЫ ВОКЛАДКІ:  
Фотакампазіцыя Віктара ДРАЧОВА.


ЗАСНАВАЛЬНІКІ:  
САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ  
РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ  
І ПРАЦОЎНЫ КАЛЕКТЫЎ РЭДАКЦЫІ.

Выдавецтва «Полымя» Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Мінск.

Журнал «Беларусь» на белорусском языке.

Здадзена ў набор 13.12.92. Падпісана да друку 19.01.93. Фармат $70 \times 108^{1}/_{8}$. Афсетны друк. Ум. друк. арк. 7. Ул.-выд. арк. 11. Ум. фарбаадб. 12,6. Т. 9 090 экз. Зак. 1571.

Кошт у розніцу — 15 рублёў.

Адрас рэдакцыі: 220005, Мінск, вул. Захарава, 19.  
Тэлефоны для даведак: 33-02-29; 33-20-54.  
Рэдакцыя разглядае рукапісы памерам не больш як 10 машынапісных старонак.  
Допісы, рукапісы, фотаздымкі і малюнкі, атрыманыя рэдакцыяй, не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.  
220041, Мінск, праспект Францыска Скарыны, 79.  
Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку».




# СМОРГОНСКИЙ ЗАВОД ОПТИЧЕСКОГО СТАНКОСТРОЕНИЯ

**Республика Беларусь, 231000, Гродненская обл., г. Сморгонь, ул. Я. Коласа, 78.**



Вакуумные установки позволяют реализовать любую задачу в технологии нанесения покрытий на изделия, предназначенные для нужд оптической, электронной, машиностроительной, авиационной, металлургической и других отраслей промышленности. Сморгонский завод оптического станкостроения — один из мировых лидеров по производству вакуумной техники и технологии.



## НАПОМИНАЕМ:

наша техника и технология наиболее перспективны с точки зрения защиты окружающей среды.

**Мы принимаем заявки на поставку и производим продажу следующего оборудования:**

1. Вакуумные установки ВУ-2М, предназначенные для нанесения в вакууме на оптические детали металлических, однослойных, просветляющих, зеркальных и других оптических покрытий.
2. Вакуумные установки ВУ-2МБС, предназначенные для нанесения на металл износостойких, защитных и декоративных покрытий.
3. Вакуумные установки ВУ-700Д и ВУ-1100Д, предназначенные для нанесения на металл, керамику, пластмассы, стекло защитно-декоративных покрытий.

***Кроме того на заводе освоен выпуск широкой гаммы товаров народного потребления и оборудования для перерабатывающих отраслей:***

- Этикировочные автоматы Б4-КЭМ-3, предназначенные для наклеивания этикеток на банки емкостью от 0,5 до 3,0 литров, максимальная производительность 3600 банок в час.
- Многооперационный деревообрабатывающий станок «Умелец-2», мощность двигателя 1,1 кВт, питается от бытовой сети.
- Агрегатный бытовой станок «Хозяин-БВЧ-1», представляет собой многооперационный деревообрабатывающий станок с улучшенными характеристиками, кроме этого обеспечивает помол зерна и измельчение корнеплодов на корм скоту в бытовых условиях.
- Токарно-фрезерно-сверлильный модуль ТФСМ-12 и токарный модуль ТМ-1, предназначенные для обработки металлов.
- Оцилиндровочный станок ЦНТО-5, предназначенный для наружной обработки, выборки продольного паза и чашек бревен для сборки срубов домов, садовых домиков.
- Спортивные тренажеры различных модификаций.

**ОБСЛУЖИВАЕМ ОРГАНИЗАЦИИ И ЧАСТНЫХ ЛИЦ,**
**ОПЛАТА ПО БЕЗНАЛИЧНОМУ И НАЛИЧНОМУ РАСЧЕТУ.**
**РЕАЛИЗАЦИЯ С ПРЕДПРИЯТИЯ, А ТАКЖЕ СО СКЛАДОВ В МОСКВЕ И КРАСНОЯРСКЕ.**

**ПОКУПАЯ ВАКУУМНЫЕ УСТАНОВКИ И ОБОРУДОВАНИЕ НАШЕГО ЗАВОДА, ВЫ ПОКУПАЕТЕ УСПЕХ!**

# СЗОС — надежный партнёр

**За справками обращаться:**
Республика Беларусь, 231000, Гродненская обл., г. Сморгонь, ул. Я. Коласа, 78. Завод оптического станкостроения.

Телефоны:
в Сморгони (8-01592) 2-24-04 2-25-25 (факс)
в Москве (8-095) 482-85-74
в Красноярске (8-3912) 32-23-16

УЧИТЫВАЯ ЗАИНТЕРЕСОВАННОСТЬ В РОССИЙСКИХ ПРЕДПРИНИМАТЕЛЯХ, РЕКЛАМА ПО ПРОСЬБЕ ЗАКАЗЧИКА ПУБЛИКУЕТСЯ НА РУССКОМ ЯЗЫКЕ.



# НЁМАНСКАЯ ВЯСЁЛКА— УСМЕШКА СНЕЖНАЙ ЗІМЫ

Фотарэпартаж Віктара ДРАЧОВА пра гутнікаў з Бярозаўкі чытайце ў наступным нумары часопіса «Беларусь»

ISSN 0320-7344. «Беларусь», 1993, № 2, 1—36. Індэкс 74820.
Цана ў розніцу — 15 рублёў.